◂ № 13 (284) ◂ 30 сакавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ІГАР АЛІНЕВІЧ**

Стар. 5

**СЭКСУАЛЬНАЯ КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ**

Галоўнай тэмай грамадскай дыскусіі ў ЗША нечакана стала тэма сэксуальнасці. Яна таксама займае значнае месца ў праграмах кандыдатаў у прэзідэнты ад партыі рэспубліканцаў

Стар. 29

**НКУС СУПРАЦЬ РАДЗІВІЛАЎ**

Князя Леона Радзівіла з сям'ёй і іншых арыштаваных у замку мужчын вывезлі з пачатку ў Мінск, у турму НКУС, а затым на Лубянку

Стар. 30

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СЛЕД «КАЛАБАРАНТА»**

Нарыс Сяргея Гваздзёва

▸ **З НАГОДЫ**

# ЗНАЙШЛІ СТРЭЛАЧНІКАЎ

**Вольга ХВОІН**

**Улады актыўна пераводзяць стрэлкі адказнасці за знешнепалітычныя праблемы і наступствы магчымых эканамічных санкцый з боку ЕС на прадстаўнікоў апазіцыі і незалежных СМІ.**




Напрыканцы сакавіка ў Брусэлі на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін ЕС былі пашыраныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі. У прыватнасці, візавыя і фінансавыя санкцыі ўведзены ў дачыненні яшчэ да 12 грамадзян Беларусі, «адказных за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека або рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі», і 29 беларускіх прадпрыемстваў, якія «атрымліваюць выгаду ад рэжыму ці падтрымліваюць яго». Цяпер санкцыі ЕС дзейнічаюць ужо ў дачыненні да 243 прыватных асобаў і 32 прадпрыемстваў Беларусі. Еўрасаюз па-ранейшаму патрабуе вызваліць усіх палітвязняў у краіне, у адваротным выпадку Беларусь чакае далейшае пашырэнне абмежавальных мер.

У пасольстве ЗША ў Беларусі БелаПАН заявілі, што падтрымліваюць узмацненне жорсткасці санкцый Еўрасаюза супраць дзяржавы і заклікаюць Міжнародную федэрацыю хакея «прыпыніць план правядзення чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Мінску».

У адказ на санкцыі беларускае кіраўніцтва распачало маштабныя наступальныя аперацыі. Найперш увялі ўласны «чорны спіс» невыязных для сваіх жа грамадзян. У прынцыпе, калі разважаць лагічна, то любая дзяржава мае права забараніць уезд асобам, якіх не жадае бачыць на сваёй тэрыторыі. Але пры чым тут канстытуцыйнае права суайчыннікаў на свабоду перамяшчэння?

Да слова, «чорныя спісы» з абодвух бакоў ужо негатыўна адбіліся на працы непалітычных установаў. Так, кіраўнік справамі Дортмундскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Петэр Юнгэ-Вентруп (Дортмундскі міжнародны адукацыйны цэнтр разам з Мінгарвыканкам і «Беларусбанкам» з'яўляецца заснавальнікам ІВВ — Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханэса Рау) зазначыў, што ў сувязі з абмежаваннямі для пэўных асобаў на ўезд у Беларусь і на выезд з яе, Мінскі Міжнародны адукацыйны цэнтр мусіць адаптаваць сваю працу.

«Цэнтральныя асобы, што працуюць для нас тут, не могуць прыехаць у Нямеччыну, і ёсць адваротныя выпадкі. Мы вядзём перамовы зараз з нашымі палітыкамі ў Берліне, каб асобы, якія знаходзяцца ў забароненым на ўезд у ЕС спісе, але шмат робяць у кірунку дыялогу і прымірэння, маглі б хаця б у выключных выпадках наведваць Еўрасаюз. Ці будуць гэтыя намаганні паспяховымі — пакуль не вядома. Але з досведу працы можна сказаць, што, калі мы пачынаем нечым займацца, то дамагаемся поспеху», — патлумачыў спадар Юнгэ-Вентруп. Асабліва дзіўна выглядае забарона на ўезд у Беларусь для былой кіраўніцы ІВВ з нямецкага боку спадарыні Астрыд Зам — пад яе патранажам было рэалізавана многа гуманітарных праграм у Беларусі.

Таксама шырока разгарнулася барацьба са свабодай перамяшчэння прадстаўнікоў апазіцыі. Метады тут самыя розныя. Ад пячатак у пашпарт «у выездзе адмоўлена» да вобшукаў у пошуках наркотыкаў на мяжы.

Прадстаўнік аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух» Віктар Івашкевіч атрымаў папярэджанне Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь аб недапушчальнасці дзеянняў, якія могуць быць накіраваны на «падрыў дзяржаўнага суверэнітэту». Папярэджанне звязана з выказваннямі Івашкевіча аб неабходнасці ўвядзення санкцый супраць беларускага рэжыму. «Я сябе не лічу вінаватым у падрыве дзяржаўнага суверэнітэту. Наадварот, дзеянні беларускіх уладаў, іх рэпрэсіі правакуюць і падштурхоўваюць да ўвядзення супраць краіны санкцый. Не ад выказванняў Івашкевіча залежыць увядзенне санкцый, а ад паводзінаў уладаў», — цытуе Віктара Івашкевіча БелаПАН. Увогуле, улады Беларусі — майстры абсурду. Выдаць такое папярэджанне Івашкевічу, які быў сярод пачынальнікаў беларускага незалежніцкага руху, то трэба валодаць асаблівай фантазіяй.

Але ж фантазія людзей не мае межаў. І 28 сакавіка былога прэс-сакратара кандыдата ў прэзідэнты Саннікава Аляксандра Атрошчанкава, лідара партыі левых «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна, лідара АГП Анатоля Лябедзьку знялі з цягніка ў Оршы. У палітычных дзеячаў спачатку шукалі наркотыкі, а потым выставілі ім абвінавачванне ў нецэнзурнай лаянцы. І ў выніку 29 сакавіка іх аштрафавалі на 10 базавых велічынь (350 тысяч рублёў).

І на дэсерт гэтых войнаў інфармацыя, што мусіць выклікаць непрыязнае стаўленне да «пятай калоны» і загніваючага Захаду ў кожнага беларуса. Прадстаўніца канцэрна «Белнафтахім» заявіла, што, верагодна, у выпадку пашырэння санкцый Еўрасаюза ў дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў па аналогіі з санкцыямі, якія былі ўведзеныя ЗША ў 2007 годзе, будуць падвышаныя цэны на аўтамабільнае паліва на ўнутраным рынку. Вось жа як раней не дадумаліся рост цэн, інфляцыю, дэвальвацыю ды іншыя «радасці» айчыннай эканомікі спісваць на знешніх і ўнутраных ворагаў. Быў бы бяспройгрышны варыянт для тлумачэння ўсяго. У 2007 годзе Мінфін ЗША ўвёў эканамічныя санкцыі ў дачыненні да канцэрна «Белнафтахім» і яго даччыных структур, зарэгістраваных у краінах Еўрасаюза. У прыватнасці, былі замарожаныя ўсе банкаўскія рахункі «Белнафтахіма», якія знаходзяцца пад амерыканскай юрысдыкцыяй, і яго прадстаўніцтваў у Германіі, Латвіі, Украіне, Расіі і Кітаі, а таксама рахункі «Belneftekhim USA, Inc». Акрамя таго, амерыканскім бізнэсмэнам было рэкамендавана ўстрымацца ад кантактаў з беларускім канцэрнам.

Ва ўсіх гэтых зацяжных войнах, адказах Чэмберлену праз інтарэсы свайго народа выразна праступае намер не саступаць да апошняга. Ціск на Захад ёсць адваротны яго патрабаванням — быццам бы для кіраўніцтва Беларусі правы, нормы, законы і напісаныя акурат для таго, каб іх парушаць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МЯДЗЕЛЬ. 6 МІЛЬЁНАЎ ДЛЯ ПЕЦІ НАДТОЧАГА

**Дабрачынная выстава работ мінскага майстра-дызайнера шыцця з абрэзкаў Алены Мацяш сабрала каля шасці мільёнаў рублёў для вілейскага хлопчыка Пеці Надточага.**

Выстава працуе амаль месяц у музеі народнай славы.

«Вялікі дзякуй усім неабыякавым людзям, якія спачуваюць чужой бядзе, — гаворыць дырэктар музея Святлана Чарняўская. — Мы вельмі задаволеныя, што адгукнулася столькі мядзельцаў. Яны прыходзілі і пыталіся, колькі часу выстава будзе працаваць, каб прыйсці яшчэ раз».

На выставу прыходзілі звычайныя мядзельцы, індывідуальныя прадпрымальнікі, некаторыя прыносілі па 50–100 тысяч рублёў. Прыходзілі калектыўна — гімназія, школы, аптэка, пошта, банк і іншыя арганізацыі далучыліся да дабрачыннай акцыі. Мядзельская бальніца пералічыла мільён дзвесце тысяч рублёў на лячэнне хворага на булёзны эпідэрмаліз вілейскага хлопчыка.

Булёзны эпідэрмаліз — рэдкае генетычнае захворванне. Людзей, якія пакутуюць на яго, называюць «людзі-матылькі»: іх скура вельмі далікатная, як крыльцы матылька. Пры найменшым дотыку яна траўмуецца. Жыццё становіцца бесперапыннай барацьбой з ранамі.

**Паводле «Рэгіянальнай газеты»**

### БЯРОЗАЎКА. БУНТ ПРЫВЁЎ ДА ПАДВЫШЭННЯ ЗАРПЛАТЫ

**У сакавіку, пасля атрымання разліковых квіткоў за люты, працоўныя шклозавода «Нёман» запатрабавалі падвышэнні зарплаты.**

«Напярэдадні нам выдалі разліковыя лісткі за папярэдні месяц. Працоўныя ўбачылі, што іх заробак значна паменшыўся ў параўнанні са студзеньскім, і гэта выклікала ў іх абурэнне», — распавёў адзін з працаўнікоў прадпрыемства.

Раніцай 16 сакавіка працоўныя накіраваліся ў адміністрацыю прадпрыемства, дзе сустрэліся з прадстаўнікамі кіраўніцтва заводу. Першапачаткова працоўных запэўнілі, што нічога страшнага не адбылося, невялікая памылка ў разліках і г.д., паабяцалі разгледзець сітуацыю пазней. І нават пажаліліся, што начальства зарабляе не больш працоўных.

Тады працоўныя запатрабавалі інфармаваць іх пра заробкі супрацоўнікаў адміністрацыі. На што атрымалі адказ, што адсутнічае электразабеспячэнне, і няма магчымасці падаць такую інфармацыю.

Далей падзеі развіваліся наступным чынам: працоўныя не пайшлі на дамову і запатрабавалі падвышэнні зарплаты. Працаўнікі ранішняй змены, выходзячы з прадпрыемства, паведамілі сваім калегам пра тое, што адбываецца з зарплатай, і на прадпрыемстве прайшоў стыхійны сход, на якім працоўным паабяцалі зрабіць пералік налічаных заробкаў. Калі выходзіла другая змена рабочых, адбыўся другі стыхійны сход. І працаўнікоў запэўнілі, што зарплаты падвысяць.

22 сакавіка працоўныя пачалі атрымліваць лютаўскую зарплату і заўважылі, што яна стала падобнай на папярэднюю, былі дададзены кампенсаванні, каму 100 тысяч, а каму і 500 тысяч беларускіх рублёў.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Ярык — малады коцік з чароўнымі палоскамі**



За сваё юнае кашачае жыццё Ярык нацярпеўся рознага. Першы час глядзеў на валанцёра спужанымі вочкамі з маленькай надзеяй — а раптам не пакрыўдзіць. Там, дзе ён жыў раней, шмат пілі і палілі, і там ён стаў не патрэбны, яго чакала эўтаназія на Гурскага, 42. Цяпер ён вучыцца простым радасцям, але не капрызнічае, вельмі ахайны. У Ярыка мяккае-мяккае плюшавае футра, аграмадныя вочы і цудоўны нораў.

Ярыку вельмі патрэбны цяпло і бяспека! Тэлефануйце 8-029-603-25-04 Вольга

**Магія — шляхетная і вышталцоная паненка**

Штосьці ёсць у сабакі такое, ад чаго не адарваць вачэй. Магіі паўгодзіка. Ростам яна каля 45 сантыметраў. Палевага колеру з белай манішкай. Характар у яе такі ж чароўны, як і знешнасць — вельмі ласкавая, прыязная да ўсяго жывога, любіць людзей, асабліва тых, хто гатовы пачасаць за вушкам.



Знаёмцеся з Магіяй: 8-029-666-38-30, Андрэй

25 САКАВІКА

# ЗВАНОЧАК НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Вольга ХВОІН**

**Беларуская дэмакратычная супольнасць 25 сакавіка адзначыла 94-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года Дзень Волі стаў першай пазітыўнай масавай вулічнай акцыяй апазіцыі, якую дазволілі ўлады.**

Летась арганізатары святкавання падавалі заяўку на шэсце і мітынг ад плошчы Якуба Коласа да сквера Янкі Купалы. У Мінгарвыканкаме прапанавалі мітынг без шэсця на Бангалоры. У выніку на плошчы Якуба Коласа сабралася некалькі соцень чалавек, асобныя людзі спрабавалі ўскласці кветкі да помніка Янку Купалу ў аднайменным скверы. На тым Дзень Волі і завяршыўся.

Сёлета ж, нягледзячы на кепскае надвор'е, па розных падліках, у шэсці і мітынгу ўзялі ўдзел ад трох да пяці тысяч чалавек. Акцыя прайшла на пазітыўнай ноце, хаця і гучалі сумныя тэмы беларускай рэчаіснасці — палітвязні, эканамічны крызіс, парушэнне правоў і свабодаў.

Варта звярнуць увагу на недапрацоўкі арганізатараў: буйной прамоцыі акцыі не было, і ў ёй бралі ўдзел фактычна сталыя ўдзельнікі. Паказальнай ёсць рэакцыя на шэсце апазіцыі мічукоў. Калі ў часе шэсця на непрацяглы час была перакрытая вуліца, і людзі ў аўтобусе чакалі аднаўлення руху, то наракання ў на апазіцыю не было чуваць. Адна жанчына пачала асуджальна нешта выказваць, але ёй адразу ж патлумачылі, што кожны мае права на выяўленне сваёй пазіцыі.

Дык вось пытанні. Чаму арганізатары не паклапаціліся пра шырокую пазітыўную інфармацыйную кампанію, каб да шэсця далучыліся новыя людзі, якія, па сутнасці, не бачаць зла ў апазіцыі і з асуджэннем глядзяць акурат на прадстаўнікоў сілавых органаў, маюць безліч прэтэнзій да ўладаў? Калі апазіцыя пачне займацца сваім альтэрнатыўным пазітыўным (!) іміджам?

Вулічная акцыя была дазволеная ўладамі, хаця і ў абрэзаным фармаце — у цэнтры горада праводзіць мітынг дазволу не было. «Гэтае свята напалову забароненае, вы бачыце, колькі людзей не змаглі патрапіць на акцыю. Для ўладаў галоўнае — паказаць, што гэтае свята абсалютна нічога не вартае, — выказваў сваю думку палітолаг Уладзімір Роўда. — Гэта псеўдадазвол, калі людзі ідуць праз кардоны, не працуе транспарт, напярэдадні затрымлівалі людзей, усё ладзіцца ў такой атмасферы... Ужо падрастае пакаленне людзей, якія не ведаюць, што гэта за свята, і трэба з імі працаваць, каб пашырыць кола прыхільнікаў. Але ж мы жывём ва ўмовах таталітарызму, і зрабіць гэта легальным шляхам амаль немагчыма».

Разам з тым трэба прызнаць, што ў цесных стасунках афіцыйнага Мінска з Крамлём наяўнасць у краіне нацыяналістычна арыентаванай апазіцыі ёсць козырам. Прадстаўляючы варыянт альтэрнатыўнай улады, гэтым заўжды можна шантажаваць, палохаць Расію, якая ў сілу сваіх імперскіх традыцый не пераносіць дух нацыянальнай ідэнтычнасці і памкненні да незалежнасці народаў былога СССР. І калі атрымліваецца ў беларусаў насуперак, а не дзякуючы абставінам, захоўваць сябе, то можна смела павіншаваць усіх з Днём Волі і пажадаць у бліжэйшай будучыні адзначаць нацыянальнае свята не ў калюжынах плошчы Бангалор, а на цэнтральных вуліцах гарадоў!

СМІ

# ЗНОЎ ПАПЯРЭДЖАННІ

**Недзяржаўныя журналісткі Аліна Радачынская і Вольга Чайчыц атрымалі пісьмовыя папярэджанні пракуратуры Мінска аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства.**

Журналістак выклікалі ў пракуратуру Мінска афіцыйнымі позвамі, дзе ім уручылі пісьмовыя папярэджанні. Радачынскую і Чайчыц (яны з'яўляюцца сябрамі ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў») абвінавачваюць у супрацоўніцтве з польскім тэлеканалам «Белсат» і папярэджваюць аб недапушчальнасці ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці на тэрыторыі Беларусі без афіцыйнай акрэдытацыі. Пад дакументамі стаіць подпіс намесніка пракурора Мінска Канстанціна Кежуна.

Аліна Радачынская гаворыць, што ў яе многа пытанняў выклікае матывацыйная частка дакумента. «У двух папярэджаннях за супрацу з «Белсатам» фармулёўкі ва ўсіх аднолькавыя — нібыта ёсць паперы, якія пацвярджаюць факт таго, што падчас суда над Алесем Бяляцкім было зробленае відэа, якое пайшло ў эфір каналу. Што гэта за дакумент і хто яго складаў без ведама саміх папярэджаных, як пракуратура вызначыла аўтарства відэа ў сюжэтах? Выглядае «матывіровачная» частка папярэджання, мякка кажучы, несур'ёзна», — гаворыць журналістка Радачынская.

З пачатку 2012 года органы пракуратуры вынеслі ўжо восем пісьмовых папярэджанняў журналістам у розных рэгіёнах Беларусі.

У ГА БАЖ мяркуюць, што пракурорскія работнікі дапусцілі «пашыранае» тлумачэнне палажэнняў заканадаўства РБ, пра што і гаварылася ў афіцыйным звароце ў Гродзенскую пракуратуру. Закон «Аб СМІ» забараняе дзейнасць без акрэдытацыі «журналістам замежных сродкаў масавай інфармацыі» (п. 4 арт. 25). Між тым, паводле гэтага ж закона, «журналістамі замежнага СМІ» лічацца фізічныя асобы, звязаныя з рэдакцыяй замежнага СМІ працоўнымі стасункамі (п. 6 арт. 1). Такім чынам, толькі журналісты, якія ўваходзяць у штат рэдакцыі замежнага СМІ, абавязаныя атрымліваць акрэдытацыю ў якасці журналіста замежнага СМІ.

Што ж да права любога беларускага грамадзяніна збіраць і распаўсюджваць інфармацыю, прапаноўваючы яе ў тым ліку і замежным СМІ, дык яно гарантавана арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь.

СПРАВА

# НОВЫЯ ФАЛЬШЫЎКІ

**На чарговым слуханні ў Беластоцкім раённым судзе былі выяўленыя новыя сфальсіфікаваныя дакументы ў справе беларускага палітычнага эмігранта ў Польшчы Андрэя Жукаўца.**

Дакументы з Беларусі прывёз пракурор беластоцкай пракуратуры Андрэй Сліўскі. Пра гэта прэсслужбе Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў» паведаміў Андрэй Жукавец.

Адзначым, што падчас следства раней ужо выяўляліся сфальсіфікаваныя дакументы. Польскія перакладчыкі дакументаў з Беларусі зрабілі каля 600 «памылак». Па гэтай справе была распачата крымінальная справа, якая яшчэ не закрытая да сённяшняга дня.

Нагадаем, што міжнародны Цэнтр «Супрацоўніцтва без межаў» выступаў са спецыяльнай заявай па справе Жукаўца, у якой запатрабаваў ад польскіх уладаў спыніць справу супраць беларускага патрыёта.

Прадпрымальнік і былы маладафронтавец Андрэй Жукавец у Беларусі неаднаразова затрымліваў «Малады фронт» і праваабаронцаў. У 1999 годзе Жукавец з'ехаў з Беларусі і папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы. У Беларусі на той час супраць Жукаўца была распачата крымінальная справа.

Беларускі бок дамагаецца выдачы Жукаўца. У Польшчы суд над палітуцекачом цягнецца амаль 12 гадоў.

**Прэс-служба Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# НІ НА ЗАХАД, НІ НА УСХОД

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Гісторыя са «спісам невыязных» з Беларусі становіцца ўсё цікавей і цікавей. Мала таго, што ніхто не можа знайсці адказ на пытанне, хто і за што фарміруе гэты спіс, дык яшчэ і знаходзяцца новыя спосабы абмежавання выезду.**

Цікавая сітуацыя з праваабаронцам Алегам Волчакам. 23 сакавіка ў аддзеле грамадзянства і міграцыі Фрунзенскага РУУС Мінска Волчак атрымаў афіцыйную даведку аб тым, што, паводле рашэння Міністэрства юстыцыі, з 5 сакавіка ён уключаны ў спіс для забароны выезду з Беларусі. Супрацоўнікі міліцыі не змаглі яму растлумачыць, на падставе якой інфармацыі Мінюст уключыў яго ў спіс невыязных, і прапанавалі звярнуцца ва ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама.

«26 сакавіка я звярнуўся ва ўпраўленне юстыцыі Мінгарвыканкама, каб яны мне растлумачылі, на падставе якой інфармацыі яны мяне ўключылі ў спіс грамадзян, якім часова забаронены выезд з краіны. Супрацоўнікі гэтага ўпраўлення прагледзелі інфармацыйную базу і паведамілі, што я не ўнесены ў гэты спіс», — сказаў Волчак.

Дык унесены Волчак у спіс ці не ўнесены? Дзве супрацьлеглыя даведкі ў яго на руках. І зараз разбірацца з гэтым, пэўна, будзе Мінюст, куды Волчак напісаў скаргу.

Больш цікава атрымалася з першымі «невыязнымі» — лідарам АГП Анатолем Лябедзькам, кіраўніком «Справядлівага свету» Сяргеем Калякіным і далучыўшымся да іх прэс-сакратаром Андрэя Саннікава Аляксандрам Атрошчанкавым. У ноч з 27 на 28 сакавіка іх знялі з цягніка «Мінск — Масква». Іх удзел у сустрэчы ў Еўрапарламенце папросту быў сарваны.

Зразумела, папулярнасці беларускай уладзе такія дзеянні не дадаduць.

А тым часам, здаецца, санкцыі ЕС у дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў пачалі непакоіць. Пакуль, праўда, па дробязях.

Сумеснае прадпрыемства ТАА «Дзелавая сетка» запэўнівае сваіх кліентаў у тым, што санкцыі Еўрасаюза не могуць паўплываць на здольнасць прадпрыемства аказваць паслугі сувязі.

Нагадаем, санкцыі ЕС у дачыненні да 29 беларускіх кампаній былі ўведзеныя 23 сакавіка. СП ТАА «Дзелавая сетка» трапіла ў чорны спіс ЕС як прадпрыемства, якое належыць бізнэсмэну Уладзіміру Пефціеву. Пефціеў яшчэ раней быў уключаны ў спіс як «асоба, звязаная з прэзідэнтам Лукашэнкам і яго сям'ёй, галоўны эканамічны саветнік прэзідэнта Лукашэнкі і ключавы фінансавы спонсар рэжыму Лукашэнкі».

Як адзначаецца ў заяве СП ТАА «Дзелавая сетка», размешчаным на афіцыйным сайце прадпрыемства, пастановай Савета міністраў замежных спраў ЕС вызначана мера абмежавання дзейнасці некаторых кампаній — замарожванне ўкладаў на тэрыторыі ЕС.

«СП ТАА «Дзелавая сетка» не мае рахункаў, якіх-небудзь актываў і незавершаных дагавораў пастаўкі за межамі Рэспублікі Беларусь, таму нішто з пералічанага не можа паўплываць на здольнасць прадпрыемства аказваць сваім кліентам на тэрыторыі рэспублікі якасныя і бесперапынныя паслугі сувязі», — сцвярджаюць у кампаніі.

«Калі Вы з'яўляецеся кліентам СП ТАА «Дзелавая сетка» на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і ў Вас ці Вашых партнёраў з'явіліся сумненні наконт легітымнасці далейшага супрацоўніцтва з нашай кампаніяй, мы рэкамендуем Вам звярнуцца па растлумачэнні ў Міністэрства замежных спраў той краіны ЕС, рэзідэнтам якой з'яўляецеся Вы ці Ваш партнёр, пра аб'ём санкцый, прадугледжаных згаданым вышэй дакументам, перш чым прымаць канчатковае рашэнне па гэтым пытанні», — гаворыцца ў заяве.

Калі ўсё нармальна, дык чаго непакоіцца і рабіць афіцыйную заяву? Хутчэй за ўсё, нейкія праблемы ўзнікнуць усё ж могуць.

А на Усходзе ў нас таксама не без праблемаў. 26 сакавіка ў 06.21 раніцы па мінскім часе Расавіяцыя, пачынаючы з 07.00 раніцы, у аднабаковым парадку адклікала дазвол на выкананне рэйсаў па маршруце Мінск — Масква, выдадзены ў суботу, 24 сакавіка, да 30 сакавіка гэтага года.

На экстранна скліканай прэс-канферэнцыі намеснік гендырэктара «Белавія» Ігар Чаргінец паведаміў, што праблема ўзнікла ў сувязі з жаданнем расійскага боку парушыць парытэт і выконваць пяць рэйсаў на дзень замест чатырох. Між тым, зазначыў ён, ёсць пагадненне паміж урадамі Беларусі і Расіі ад 12 снежня 1997 года, якое прадугледжвае камерцыйны парытэт у авіязносінах паміж Мінскам і Масквой.

На пытанне, чаму «Белавія» не можа таксама арганізаваць пяць рэйсаў на дзень, як хоча зрабіць расійскі бок, Чаргінец патлумачыў, што гэтыя напрамак зараз «камерцыйна неэфектыўны». Сярэдняя загружанасць рэйсаў, паводле яго слоў, складае 55%, што вядзе да стратаў авіякампаніі. Далейшае павелічэнне колькасці рэйсаў яшчэ больш знізіць іх эфектыўнасць, дадаў намеснік гендырэктара.

Расія лічыць па-іншаму. Беларускі бок спрабаваў адміністрацыйнымі мерамі скараціць колькасць рэйсаў расійскіх авіякампаній з 35 да 28 на тыдзень, хоць многія пасажыры расійскіх авіяперавозчыкаў загадзя набылі білеты. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні Федэральнага агенцтва паветранага транспарту (Расавіяцыя).

У Расавіяцыі сцвярджаюць, што Пагадненне аб паветраных зносінах паміж Расіяй і Беларуссю не прадугледжвае якога-небудзь рэгулявання па колькасці палётаў і колькасці авіякампаній як для беларускага, гэтак і для расійскага бакоў у паветраных зносінах паміж краінамі.

Аднак у той жа дзень была дасягнута папярэдняя дамоўленасць аб выкананні рэйсаў па маршруце Мінск — Масква авіяперавозчыкамі Беларусі і Расіі. Але дамоўленасць толькі часовая.

Такім чынам, хутка нам закрыюць выезд не толькі ў Еўропу, але і ў Расію. Беларусь канчатковаператворыцца ў «чорную дзірку». Калі клопат «Дзелавых сетак» таксама апраўданы, дык нам яшчэ і інтэрнэт адрубяць. Вось тады Беларусь канчаткова ператворыцца ў Паўночную Карэю.




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ТАЦЦЯНА ДРАЗДОЎСКАЯ



Беларуская спартсменка выйграла этап Кубка свету ў класе яхт «Лазер-Радыял». Рэгата ў Тарболе з'яўляецца адной з трох рэйтынгавых рэгат, удзел у якіх абавязкова для лазерыстаў, якія прэтэндуюць на званне ўладальніка Кубка Еўропы ў дадзеным класе яхт.

Стаўшы пераможцам у дадзенай рэгаце сярод больш чым 90 лепшых яхтсмэнак Еўропы, Таццяна пацвердзіла свой статус дзеючай двухразовай уладальніцы галоўнага трафея кантынента і стварыла для сябе сур'ёзны зачын на будучую серыю этапаў.

Таццяна Драздоўская з'яўляецца лепшай спартсменкай у класе «Лазер-Радыял» у Рэспубліцы Беларусь, шматразовай чэмпіёнкай Беларусі, прызёрам і пераможцам этапаў Кубка свету, удзельніцай фіналаў чэмпіянатаў свету і Еўропы.

### СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ



Прыватную суб'ектыўную прэмію «Залатая літара», якую заснаваў пісьменнік і мастак Адам Глобус, сёлета атрымаў мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі за кнігу «Сто твораў ХХ стагоддзя». Перад прыняццем рашэння Адам Глобус размясціў апытанку ў інтэрнэце: большасць прагаласавала за кнігу Харэўскага. Такія вынікі галасавання былі ў фінале: Лявон Вольскі «Міларусь» — 13%; Алесь Бяляцкі «Літаратура і нацыя» — 20%; Сяргей Харэўскі «Сто твораў ХХ стагоддзя» — 67%. «Я згодны з вынікамі на ўсе сто адсоткаў і абвяшчаю пераможцам кнігу Сяргея Харэўскага», — напісаў Глобус у сваім блогу.

«Па-першае, гэта адзін з маіх самых любімых аўтараў. Сяргей Харэўскі — адзін з лепшых беларускіх аўтараў. Па-другое, я ўжо даваў яму прэмію. Але тады ў яго была толькі палова, таму што ён падзяліў яе з Кляткоўскім. А тут я вырашыў, што ўсё ж чалавек варты цэлай прэміі. І зараз у яго будзе паўтары прэміі — гэта таксама някепска, я лічу. Прынамсі, арыгінальна... Ну, і гэта выдатны твор, які патрэбен наступнаму пакаленню»,— пракаментаваў сваё рашэнне «Еўрарадыё» заснавальнік «Залатой літары».

Прэмія «Залатая літара» ўручаецца ад 2004 года.

### АЛЕГ СІЛЬВАНОВІЧ



Каб вывесці беларускі фільм у паспяховы кінапракат, да прыкладу расійскі, трэба выдаткаваць як мінімум 2 мільёна долараў пры бюджэце фільма 1,5 мільёна долараў. Такія дадзеныя агучыў генеральны дырэктар нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Алег Сільвановіч. «Мы зрабілі разлік, колькі нам трэба выдаткаваць на падтрымку выхаду фільма для беларускага гледача, — працягнуў кіраўнік студыі. — Атрымалася, калі яго бюджэт складае каля 9 мільярдаў рублёў, то бюджэт на падтрымку патрабуе 3,5 мільярда. Такія грошы мы самі не знойдзем», — цытуе кіраўніка «Беларусьфільма» інфармагенцтва БелаПАН.

У ідэале, на думку Сільвановіча, павінен быць беларускі кінапраект з беларускім прадзюсарам — тады не ўзнікае ніякіх пытанняў, а абарона фінансавання ідзе з пункту гледзішча развіцця мастацкага патэнцыялу нацыі.

«Калі да вас прыходзіць прадзюсар з пакетам прапаноў, у яго ўсё распланавана, — растлумачыў кіраўнік «Беларусьфільма». — Ён хоча прыйсці на пасрэдніцкія паслугі ў выглядзе долі, што дасць магчымасць рэалізаваць праект пры мінімізацыі рызык».

Цяпер жа перад нацыянальнай кінастудыяй пастаўлена задача злучыць пазабюджэтныя сродкі, пажадана беларускага паходжання, з дзяржаўнай фінансавай падтрымкай. Па словах Сільвановіча, зараз на «Беларусьфільме» ў працы тры такіх праекты. Гэта, у прыватнасці, фільм «Ой, мамачкі!», дзе доля расійскага прадзюсара складае 23%, самой студыі — каля 10% і каля 70% — дзяржпадтрымка, а таксама дэтэктыў «Смяротны танец» з 70% дзяржаўнай падтрымкі і 30% пазабюджэтных сродкаў кінастудыі.

Як паведаміў гендырэктар, сярэдняя поўнаметражная карціна здымаецца на «Беларусьфільме» за 1,5 мільёна долараў, тады як у Галівудзе значна больш грошай марнуецца толькі на вывад фільма ў кінапракат.

«Пры вызначэнні праектаў, якія павінны атрымліваць дзяржпадтрымку, — падкрэсліў Сільвановіч, — дзяржава павінна дыстанцыявацца ад чыноўнікаў. Гэта мусяць вызначаць прафесіяналы. Таму грамадскае размеркаванне сродкаў і дасць магчымасць гаварыць аб тым, што людзі, якія з'яўляюцца незалежнымі ў выпрацоўцы свайго меркавання, і будуць вызначаць, якім быць нашаму кіно».

▸ МЕРКАВАННЕ

# ХТО «ПАЛІТЫЧНЫЯ», А ХТО НЕ

Ірына ПРАКОПЧЫК

**У лютым партыйныя актывісты заявілі пра неабходнасць стварэння экспертнай рады па вызначэнні палітвязняў. Адмыслова сфармаваная каардынацыйная група «За волю» распачала правядзенне тэматычных круглых сталоў, дзе паўстала пытанне пра адзіны спіс «палітычных». Ёсць разыходжанні паміж грамадска-палітычнымі актывістамі і прадстаўнікамі праваабарончых арганізацый у поглядах на крымінальныя справы Аляксандра Крутога, Юрыя Чыгілейчыка і Аляксандра Малчанава.**

Прэтэнзіі да праваабаронцаў — што яны адмовіліся ад гэтых трох «спрэчных кандыдатаў на палітвязняў», зацягнуўшы з вызначэннем «сваіх», «нацыянальных» крытэраў палітычна матываваных спраў, — былі агучаны на старонках НЧ у артыкулах Таццяны Шапуцькі. З іх вынікае, што абурэнне скіравана ў асноўным на «афіцыйны» спіс палітвязняў на сайце Праваабарончага цэнтра «Вясна», які група «За волю» лічыць няпоўным.

Каб артыкуляваць усе важныя акцэнты ў справе прызнання-непрызнання «палітычных», намеснік кіраўніка «Вясны» Валянцін Стэфановіч прадстаўляе праваабаронцы ракурс праблемы.

## Спісы палітвязняў: нюансы

Стварэнне адзінага спісу палітвязняў — галаўны боль не толькі беларускага грамадства. Ва Украіне і ў Расіі ў сувязі з апошнімі прэзідэнцкімі выбарчымі кампаніямі палітычны пераслед таксама набыў вялікую актуальнасць. І паўсюль эксперты адзначаюць «неаднароднасць» спісаў палітвязняў, а ад праваабарончай супольнасці патрабуецца больш дакладны і шматбаковы аналіз спраў, каб у кожным выпадку вылучыць палітычны складнік.

«Грамадскай» экспертызы тут відавочна недастаткова. Валянцін Стэфановіч лічыць, што манапольнага ключа на складанне спісаў палітвязняў не павінна быць ні ў каго, але падкрэслівае важнасць прафесійнага падыходу. «Асноўнае — пытанне прафесійнай ацэнкі і падмацавання сваіх высноваў аналізам, канкрэтнымі фактамі, — кажа праваабаронца. — Я разумею, што палітычныя партыі могуць мець свой інтарэс у прызнанні асобы палітвязнем. Напрыклад, таму што ён «свой», не могуць яго кінуць, і іншае. Але праваабаронцы ў гэтай сітуацыі павінны займаць незалежную пазіцыю, не прымаць кан'юктурных рашэнняў, незалежна ад таго, ад каго яны выходзяць. Мы мусім імкнуцца



Валянцін Стэфановіч

называць рэчы сваімі імёнамі. І што тычыцца «Вясны», мы не складаем «афіцыйныя» спісы, як напісала Таццяна Шапуцька. Гэта спісы тых, каго прызнае палітвязнямі «Вясна». Мы ўзгадняем сваю пазіцыю з Беларускім Хельсінкскім камітэтам, Цэнтрам прававой трансфармацыі, камітэтам «Салідарнасць» і іншымі калегамі. І калі ў спісе на нашым сайце «клікнуць» на прозвішча палітвязня, то можна прачытаць кароткі аналітычны агляд яго справы, дзе тлумачыцца, чаму мы робім выснову пра палітычны кантэкст яго справы. Але наша меркаванне часам не супадае з меркаваннямі палітычных суб'ектаў».

## Пра «нацыяналізацыю» крытэраў

Пры больш-менш дакладным вывучэнні праблемы зразумела, што неабходнасць у выпрацоўцы нацыянальных крытэраў вызначэння «палітычных» спраў аб'ектыўна адсутнічае. Іх наяўнасць нават супярэчыла б прынцыпу ўніверсальнасці, да якога імкнецца міжнародная праваабарончая супольнасць. Існуюць крытэры, выпрацаваныя аўтарытэтнымі міжнароднымі арганізацыямі — Саветам Еўропы, «Міжнароднай Амністыяй», Human Rights Watch. Беларускія праваабаронцы кіруюцца гэтымі крытэрамі (што бачна і з аглядаў крымінальных спраў на сайце «Вясны»). Праблема заключаецца крыху ў іншым: «У шэрагу выпадкаў мы абсалютна спакойна і адразу можам кваліфікаваць справу як палітычна матываваную, — тлумачыць Валянцін Стэфановіч. — Напрыклад, калі гэта звязана з рэалізацыяй чалавекам аднаго са сваіх грамадзянска-палітычных правоў і свабодаў — свабоды асацыяцыяў, свабоды сходаў, свабоды меркаванняў і г.д. Ці калі ёсць відавочны палітычны матыў — у дзеяннях асобы ці ў дзеяннях дзяржавы ў дачыненні да гэтай асобы. Але ёсць больш замаскіраваныя выпадкі палітычнага пераследу. І можа спрацаваць «эфект Жоўціса», як я называю. Гэта вядомая гісторыя, калі ў Казахстане праваабаронца здзейсніў рэальнае ДТЗ са смяротным зыходам, але стаўленне з боку ўладаў было непрапарцыйнае: фальсіфікаваліся матэрыялы крымінальнай справы, відавочны быў абвінаваўчы ўхіл і жаданне ўлады пасадзіць такім чынам Жоўціса ў турму. Быў відавочна палітычны матыў. Задача праваабаронцаў — гэты матыў убачыць і абгрунтаваць. Бо без абгрунтавання, чаму мы менавіта гэты матыў лічым палітычным, вельмі цяжка вызначыць тую ці іншую справу як «палітычную».

Расійскія праваабаронцы абазначылі яшчэ адну праблему — «праблему Чыкаціла» (маючца на ўвазе грамадзяне, без віны рэпрэсаваныя за яго злачынствы). То бок ад палітычных зняволеных вельмі важна адмежаваць зняволеных па грамадска значных непалітычных справах, у якіх пры жаданні можна знайсці палітычныя матывы ўлады.

Такім чынам, асноўная складанасць для праваабаронцаў заключаецца не ў крытэрах, а ў падыходах, трактаванні гэтых крытэраў. Паводле Стэфановіча, калі прадстаўнікі «Вясны» і БХК у мінулым верасні ў Кіеве абмяркоўвалі праблему з калегамі з краінаў СНД, то супольна прыйшлі да высновы, што за аснову маглі б узяць мадэль «Міжнароднай Амністыі», падзяляючы палітвязняў, у шырокім сэнсе, на дзве вялікія групы — «вязні сумлення» (іх свабода абмежавана турэмным зняволеннем ці іншым спосабам выключна з-за палітычных, рэлігійных ці іншых перакананняў, полу, расы, мовы, этнічнага, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага статусу, роднасных адносін, сэксуальнай арыентацыі і іншых характарыстык асобы; імі не лічацца людзі, якія звяртаюцца да гвалту ці прапагандуюць гвалт і варожасць) і «палітычныя вязні» (любыя зняволеныя, справы якіх маюць значны палітычны, у шырокім сэнсе, элемент: ці матывы дзеянняў зняволенага, ці самі гэтыя дзеянні, ці матывацыя ўладаў). Адпаведная розніцца ў патрабаваннях: для першых — неадкладнае і безумоўнае вызваленне, для другіх — разгляд спраў у разумныя тэрміны і з захаваннем усіх гарантый справядлівага суда.

## Пра спрэчных кандыдатаў

У адказ на абвінавачанні, што праваабаронцы не сочаць за справамі Аляксандра Крутога, Юрыя Чыгілейчыка і Аляксандра Малчанава, якіх «адмовіліся ўзяць пад сваю апеку», намеснік старшыні «Вясны» сцвярджае, што гэта не так. «Па-першае, без наяўнасці поўнай інфармацыі пра тую ці іншую справу сцвярджаць загадзя, скажам так, пра тое, што яна носіць палітычны характар, — я паўтаруся, гэта непрафесійны падыход, — тлумачыць сваю пазіцыю Стэфановіч. — Па-другое, мы маем інфармацыю адносна ўсіх гэтых справаў, прычым з розных крыніцаў. Проста я б сказаў, інфармацыя, якой мы валодаем, можа насіць непублічны характар. Ёсць няпісаны кодэкс — і я не буду агучваць інфармацыю, якая можа нашкодзіць найперш самім гэтым асобам, якія знаходзяцца ў зняволенні. Інфармацыю, якая



Аляксандр Круты



Юры Чыгілейчык



Аляксандр Малчанаў

можа насіць асабісты характар (напрыклад, пра стан здароўя кагосьці ці іншае), я лічу, публічна агучваць не патрэбна, але мы прымаем яе да ўвагі і ацэньваем пры прыняцці таго ці іншага рашэння».

Праваабаронца адзначае яшчэ адзін важны момант: пра некаторыя рэчы можна казаць толькі на этапе судовага разбіральніцтва. У судзе бачна, ці прызнае чалавек віну, наколькі доказы адпавядаюць прынцыпам дапушчальнасці, закладзеным у Крымінальна-працэсуальным кодэксе, — і казаць пра нейкае перадузятае стаўленне, абвінаваўчы ўхіл можна толькі пасля суда». Сутнасць справы Чыгілейчыка заключаецца ў тым, што пры ім быў знойдзены метадон. Я не ведаю і на дадзеным этапе не магу сцвярджаць, што яму яго падкінулі. Усё стане зразумела падчас суда. Адначасна таго, што ён быў збіты, то прынцыпы свабоды ад катаванняў аднолькавыя для ўсіх, няма розніцы, «палітычная» гэта справа ці не. Як мы ведаем, на жаль, катаванні часта выкарыстоўваюцца ў іншых мэтах, не палітычных — каб выбіць нейкія паказанні. Гэта парушэнне правоў чалавека, і з гэтым трэба змагацца, але гэта не роўна «палітычнай» справе», — падкрэслівае Стэфановіч і дадае, што наяўнасць працэсуальных парушэнняў у той ці іншай справе таксама апрыёры не з'яўляецца роўнай «палітычнай» справе: «На жаль, ёсць праблемы з правасуддзем у краіне, мы ведаем выпадкі незаконнага асуджэння грамадзян. Так, гэта ахвяры судовай сістэмы, парушэнняў правоў чалавека, але працэсуальныя парушэнні не абавязкова сведчаць пра палітычны характар справы. Тут вельмі важна глядзець на матывы, сутнасць таго, што здарылася. На прычынна-выніковую сувязь, калі ўжо зусім проста казаць, паміж тым, што здарылася, і наступствамі. А таксама — скіраванні дзеянні супраць прадстаўнікоў дзяржорганаў ці супраць фізічнай асобы і г.д.».

Сітуацыю з Аляксандрам Малчанавым праваабаронцы разглядаюць як больш складаную, паколькі аднаўлена крымінальная справа супраць яго за абразу дзяржаўнай сімволікі. «Але артыкул, які прадугледжвае адказнасць за абразу дзяржаўнай сімволікі, не прадугледжвае санкцыі, звязанай з пазбаўленнем волі, максімальная санкцыя там звязаная з абмежаваннем волі — так званая «хімія». Гэта азначае, што па гэтым артыкуле асобу нельга ўзяць пад варту, — звяртае ўвагу Стэфановіч. — Малчанаў знаходзіцца зараз у СІЗА не таму, што ўзбуджана крымінальная справа за абразу сімволікі, а таму, што ён падазраецца ў здзяйсненні злачынства групай асобаў, у крадзяжы маёмасці. Мы ведаем толькі тое, што адбылося. Пытанне доказу-нядоказу — гэта ўжо справа адваката і суда».

Праваабаронцы заяўляюць пра намер адсочваць суд: каб не было перадузятага стаўлення да Малчанава, каб у дачыненні да яго выконваліся ўсе працэсуальныя гарантыі, каб суд не насіў абвінаваўчага ўхілу з-за таго, што ён палітычна актыўны чалавек. «І, канешне, калі ўсё гэта будзе адбывацца, то можна будзе казаць пра «эфект Жоўціса». Але гэта можна будзе ўбачыць толькі падчас суда. Зараз пра гэта немагчыма штосьці казаць. І тут мы не можам патрабаваць неадкладнага вызвалення Малчанава». Па словах Стэфановіча, у справе пра дзяржаўную сімволіку можна казаць пра палітычны матыў у дзеяннях Малчанава, калі ён сапраўды гэта рабіў (віны сваёй ён не прызнае), ці палітычны матыў з боку дзяржавы. Адначасна яшчэ двух спрэчных кандыдатаў — праваабаронцы пакуль не могуць сказаць пра палітычныя матывы з боку дзяржавы ці ў дзеяннях гэтых асоб.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ІГАР АЛІНЕВІЧ — 8 ГАДОЎ УЗМОЦНЕНАГА РЭЖЫМУ

Таццяна Шапуцька

**Ігар Аліневіч атрымаў найвялікшы тэрмін зняволення з усіх палітвязняў за ўсю найноўшую гісторыю Беларусі — 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй аўтамабіля. 28-гадовы хлопец праходзіць па акрэсленай журналістамі «справе мінскіх анархістаў». Ці сапраўды Аліневіч з'яўляецца анархістам? Што ён рабіў у дзень нападу на расійскую амбасаду? Як хлопец звязаны са швейцарскай выведкай? Пра гэта — у гутарцы з маці палітвязня Валянцінай Аліневіч.**

Пры ўваходзе ў кватэру Аліневічаў на лесвічнай пляцоўцы вісяць дзве карціны, паміж якімі ў сцяну ўбіты цвік. «Ніколі не здагадаецеся, куды падзеўся трэці малюнак, — усміхаецца Валянціна Аліневіч. — Міліцыянты знеслі! Так, рабіліператрус ды, відаць, вырашылі з сабою прыхапіць і гэты пейзаж». Карціна — не самае каштоўнае, без чаго пакінулі праваахоўнікі сям'ю Аліневічаў. Праз арышт сына Валянціна і Уладзімір Аліневічы пазбавіліся магчымасці пабачыць і сваю дачку, якая з мужам і сынам жыве ў Швейцарыі. «Ігар забараніў ёй прыязджаць — небяспечна. Дый муж-швейцарац, які пасля суда над Ігарам пачаў разумець, што творыцца ў Беларусі, не хоча, каб яна ехала. У нас, як быўператрус, дык усё шукалі сувязь са швейцарскай выведкай, вось да чаго дайшло... Лета ўжо хутка, хочацца і на ўнука паглядзець, тут з ім пабыць», — шкадуе Валянціна Аліневіч.

Лета — невясёлы час для Аліневічаў, на выхадзе гэтай цудоўнай пары ў 2010 годзе і распачаліся ўсе непрыемнасці іх сына Ігара. «30 жніўня адбыўся злачасны напад на расійскую амбасаду (у будынак кінулі 2 бутэлькі з гаручай сумессю, адна з іх патрапіла ў прыпаркаваны аўтамабіль і пашкодзіла яго — Т. Ш.). Усе неяк так пасмяяліся — па-першае, гэта быў дзень нарадзінаў Лукашэнкі, па-другое, ніхто не бачыў сэнсу ў гэтай акцыі. Ігар тады назваў яе лухтой, а я папярэдзіла — будзь асцярожным, бачыш, пачынаецца перадвыбарчая кампанія. Ігар мяне запэўніў, што ён не ўдзельнічае ні ў якіх падзеях, якія могуць патрапіць пад крымінальную адказнасць», — узгадвае Валянціна Аліневіч. У пяць эпізодаў, па якіх вінавацілі Аліневіча, напад на расійскую амбасаду быў уключаны. «У вечар нападу мы разам з Ігарам былі ў ягонай бабулі, выбіралі тканіну, каб пераабшыць мэблю. А ў крымінальнай справе напісана, што ў гэты самы час да яго зайшоў сябра і пабачыў, як Ігар разлівае кактэйль Молатава па бутэльках...» — распавядае спадарыня Валянціна.

Першыя затрыманні пачаліся 3 верасня, тады па падазрэнні ў нападзе на амбасаду арыштавалі семярых маладзёнаў, што разам здымалі кватэру. Сярод іх апынуліся і Мікалай Дзядок з Аляксандрам Францкевічам, якія пасля будуць асуджаныя па адной справе з Аліневічам. У наступныя дні хапалі ўсіх: анархістаў, антыфашыстаў, эколагаў, сяброў розных грамадскіх арганізацый, у прыватнасці, «Правага альянсу» і Партыі Свабоды; допыты па гэтай справе праходзілі нават у Салігорску ды Гомелі — агулам у якасці падазроных па справе праходзіла амаль 120 чалавек. На сайце беларускіх анархістаў, на якім кожны зарэгістраваны карыстальнік можа дадаваць навіны, з'явілася падазронае паведамленне ад нейкай групоўкі «Сябры свабоды», якая ўзяла на сябе адказнасць за акцыю ля амбасады. У хуткім часе кіраўніцтва сайта выдаліла правакацыйнае паведамленне і публічна абвясціла, што групоўку «Сябры свабоды» ніхто не ведае, а анархісты не маюць дачынення да закідвання амбасады кактэйлем Молатава.

«Нейкі час Ігар быў тут, яго ніхто не кранаў. Але, калі пачалі без разбору хапаць людзей дзясяткамі, ён вырашыў на ўсялякі выпадак перачакаць пару тыдняў па-за межамі Беларусі. Ён жа быў знаёмы з некаторымі затрыманымі, а таму была вялікая верагоднасць, што і ён патрапіць пад гэтую хвалю рэпрэсій. Таму ён узяў адпачынак за свой кошт ды з'ехаў у Расію. Так, дарэчы, з'ехалі многія. Але ж затрыманні тут не спыняліся, таму Ігару давялося прабыць у Маскве каля двух месяцаў. Ён вельмі перажываў за арыштаваных паплечнікаў, увесь час стараўся даведацца нешта пра іх, дапамагчы, актыўна пісаў у інтэрнэце пра гэтую справу, сустракаўся ў Маскве з іншымі людзьмі, абмяркоўваў з імі, як абараніць затрыманых, удзельнічаў у акцыях салідарнасці. Ну вось такім чынам замест таго, каб залегчы на дно, ён адкрыта пра сябе заявіў», — гаворыць маці палітвязня. Напрыканцы верасня бацькоў Аліневіча выклікалі на размову — маўляў, мы ведаем, што ваш сын нічога не рабіў, таму няхай вяртаецца. Аднак хлопец вяртацца не спяшаўся, таму яго вярнулі гвалтоўна.

Гісторыя, расказаная спадарыняй Валянцінай, гучыць як дэтэктыў, але надзвычай страшны, калі ўзгадаць, што пасля падобных выкраданняў Завадскага, Ганчара, Красоўскага і Захаранкі не знайшлі нават іх целаў.

«28 лістапада Ігару патэлефанаваў і папрасіў сустрэцца знаёмы Антон Лапцёнак, якога арыштавалі напачатку верасня, але пасля адпусцілі. Ігар казаў, што неблагі хлапец раней быў... І вось, калі Ігар ішоў на сустрэчу, яго затрымалі. Ігар быў разам са сваім сябрам, які бачыў усё і напісаў у інтэрнэце — я адтуль і даведалася. Ігара затрымалі ля метро «Баграціёнаўская» на выхадзе з гандлёвага цэнтра людзі, якія прадставіліся ФСБ. Хто ж гэта быў насамрэч — ніхто не ведае. Яго скруцілі, пасадзілі ў адну машыну, пасля перадалі другой машыне. На галаву яму апранулі шапку, ткнулі тварам у сядзенне і гналі да мяжы, не спыняючыся. Нават паміж сабою не перамаўляліся, толькі пісалі адзін аднаму sms. Чагосьці баяліся моцна, можа думалі, што партызаны будуць яго адбіваць ці што...» — цяпер Валянціна Аліневіч можа ўсміхацца, згадваючы выкраданне сына. Цяжка ўявіць, што перадумала жанчына за тыя суткі — толькі на наступны дзень дзяжурны адвакат паведаміў ёй, што Ігар знаходзіцца ў СІЗА КДБ (астатніх па «справе анархістаў» трымалі на Валадарцы).



Валянціна і Уладзімір Аліневічы ўжо падрыхтавалі сыну пасылку з новымі часопісамі «Папулярная механіка»



Ігар Аліневіч не губляе аптымізму і за кратамі

Дарэчы, у 1937 годзе ў той самай «амерыканцы» сядзеў прадзед Ігара, якога пасля расстралялі як агента польскай дэфензівы. Болей за тое, прадзеда Ігара таксама асудзілі паводле хлуслівага сведчання! Ніводная экспертыза (а рабілі нават генную экспертызу па сліне) не пацвердзіла прысутнасці Ігара Аліневіча каля расійскай амбасады, але, каб даць 8 год турмы, суду хапіла абгавору хлопца былым таварышам Максімам Веткіным, якога з прысудам у 4 гады «хіміі» вызвалілі ў судовай залі.

Спадарыня Валянціна абурана гаворыць, што, калі Ігар на судзе распавёў абставіны свайго вяртання на Беларусь, цяпер ужо невыязная суддзя сказала, што гэта не мае значэння. Суд не зацікавіла ні адсутнасць ордэру на арышт Аліневіча, ні таемныя асобы выкрадальнікаў, ні поўнае ігнараванне правілаў экстрадыцыі з Расіі на Беларусь. Дарэчы, для правядзення судзілішча суддзя Жана Хвайніцкая адмыслова выйшла з дэкрэтнага адпачынку, адсудзіла ды вярнулася да выхавання дзіця.

На судзе Ігар Аліневіч прызнаў толькі адзін эпізод — удзел у мірнай акцыі ля Генеральнага штаба Узброеных сілаў Беларусі, якая адбылася яшчэ ў 2009 годзе. Маладзёны правялі невялічкае шэсце пад лозунгам «Войска гуляецца, а народ галадае» на знак нязгоды з правядзеннем сумесных беларуска-расійскіх вайсковых вучэнняў. Праўда, тады нехта з пратэстоўцаў кінуў дымавую шашку на тэрыторыю Генштаба. Пра нязначнасць таго эпізоду на судзе сведчыў намеснік кіраўніка Генштаба Ермакоў: праца ва ўстанове не спынялася, а міліцыя нават не вымала відэазапіс.

«Ігар і мне раней казаў, што гэтая акцыя была апошняй, у якой ён прымаў удзел. Ён працаваў радыёэлектроншчыкам ва ўстанове «Пеленг», удзельнічаў у стварэнні расійска-беларускага спадарожніка, таму адышоў ад актыўнай дзейнасці, — гаворыць Валянціна Аліневіч. — Ігар сапраўды шмат чытаў ідэолагаў анархізму, ведаў працы Бакуніна, Крапоткіна. Сам сябе ён не называў анархістам. Ігар падтрымлівае ідэю самастойнага развіцця грамадства паводле натуральных законаў, ідэю моцнага самакіравання як рухавіка гэтага развіцця. Таму ён пазітыўна ўспрымаў розныя актыўнасці, радаваўся моладзевай самаарганізацыі. Ігар дагэтуль і сам прымаў удзел у розных акцыях, якія моладзь арганізоўвала па сваёй ініцыятыве, без загадаў «зверху» — як валанцёры працавалі ў сядзібных комплексах у Лошыцы, у Прылуках, садзілі дрэвы ля дзіцячага анкалагічнага цэнтра ў Бараўлянах — там жа быў пустыр! Канешне, не прапускаў «Чарнобыльскія шляхі», ён выступаў супраць атамнай энергіі. У яго проста ідэя фікс — пабудаваць паселішча, якое б працавала на аднаўляльных крыніцах энергіі. Болей за ўсё ён цяпер перажывае, што пройдуць гэтыя 8 гадоў — і ён не будзе болей нікому патрэбны як спецыяліст. А з яго спрабуюць штучна зрабіць нейкага ворага, які ваюе супраць дзяржаўнай сістэмы. Нашы людзі прызвычаіліся асацыяваць анархістаў з экстрэмістамі, вось улады на гэтым і спекулююць. Ігар укладае ў панятак «анархізму» дамінаванне грамадства над дзяржавай, а не знішчэнне дзяржавы», — тлумачыць спадарыня Валянціна.

Мае вышэйшую адукацыю, працаваў у перспектыўнай сферы радыёэлектронікі, чытае ў калоніі часопісы «Папулярная механіка» — постаць Ігара Аліневіча яўна не кладзецца ў акрэслены прапагандыстамі вобраз «лайдака-экстрэміста». Чаму ж яго абралі ў якасці ахвяры ды яшчэ і пакаралі самым жорсткім чынам?

«Мне цяжка сказаць, я не магу гэтага патлумачыць, — гаворыць Валянціна Аліневіч. — Магчыма, яны пабачылі ў Ігары новую сілу, новае пакаленне, канкурэнцыю — маладую, здольную, таленавітую. Магчыма, адпомсцілі за ягоную ўпартасць, за адмовы быць КДБшным хакерам (яму прапаноўвалі гэта на поўным сур'ёзе) ці стварыць падкантрольную арганізацыю за мяжой. Ён не тое, каб кідаў выклік. Ігар — адэкватны чалавек і не будзе класціся на амбразуру. Ён проста не ўспрымаў тое, чаго ад яго хацелі, тое, што супярэчыла ягоным прынцыпам», — губляецца ў здагадках Валянціна Аліневіч.

Між сваякамі рэпрэсаваных па «справе анархістаў» ходзіць байка, чаму ўлады знянацку ўзяліся за актыўных маладзёнаў — маўляў, праглядаючы навіны пра буйныя забастоўкі анархістаў у Грэцыі летам 2010 года, Лукашэнка пачаў абурацца: што ж гэта робіцца, а ягоныя памочнікі з ліку сілавых структураў сказалі — дык і ў нас такія ёсць. Тады і быў аддадзены загад разабрацца. Так гэта ці не — пакуль даведацца немагчыма, але што б ні кіравала дзеяннямі тых, хто ўзяўся сябе распараджальнікамі лёсаў, гэта неапраўдальна.

ПАЛІТЭКАНОМІКА

# БУРЫДАНАЎ АСЁЛ КУСАЧЫ

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**У мінулым годзе Беларусь дасягнула самых высокіх валавых паказчыкаў у знешнім гандлі. І ўпершыню за апошнія гады аднавіла экспарт уласнай сырой нафты.**

Але яшчэ з савецкіх часоў вядома, што вываз адной цыстэрны сырой нафты, замест нафтапрадуктаў з яе, азначае для экспарцёра страту вартасці яшчэ адной цыстэрны сырой нафты.

Па дадзеных гандлёвага балансу, аб'ём знешняга гандлю таварамі за 2011 год склаў 86,1 мільярда долараў, у тым ліку экспарт — 40,3 мільярда долараў, імпарт — 45,8 мільярда долараў.

Вартасны памер экспарту ў параўнанні з 2010 годам па разліку ў бягучых коштах павялічыўся на 59,4%, або на 15 мільярда долараў, імпарту — 31,1%, або на 10,9 мільярда долараў.

У выніку апераджальнага тэмпу росту экспарту над імпартам велічыня адмоўнага сальда ў цэлым зменшылася з 9,6 да 5,45 мільярда долараў. На 4,15 мільярда!

Калі так і далей пойдзе, дык хто забароніць нашаму цяляці ваўка з'есці? Лукашэнка лічыць, што ніхто. Ён станоўча адзначыў вынікі эканомікі, сярод якіх спецыяльна падкрэсліў дасягненне дадатнага сальда ў гандлі таварамі і паслугамі. І што пасля гэтага застаецца крытыкам, якія адмоўна паставіліся і да дэвальвацыі рубля, і да скарачэння попыту на ўнутраным рынку, і да збяднення насельніцтва. А застаецца прызнаць, што каманда Лукашэнкі мела рацыю, калі праводзіла палітыку жорсткага абмежавання магчымасцяў беларусаў праз скарачэнне іх патрэб. Калі скончыліся «лішнія» грошы, перасталі купляць імпартнае бразгоцце і пачалі больш спажываць сваё. Хто казаў, што ў эканоміцы не патрэбен прымус?

На жаль, я не маю дадзеных па знешнім гандлі за студзень-люты. Белстат іх надрукуе толькі ў сярэдзіне красавіка. Таму паспрабуем ацаніць яго стан і перспектывы па дадзеных студзеня — вельмі нетыповага месяца, дадзеныя па якім, тым не менш, могуць лічыцца карэктнымі ў параўнанні з дадзенымі такога ж нетыповага студзеня мінулага года. Дык вось, у студзені вартасць экспарту павысілася ў 1,9 разу (у параўнанні са студзенем 2011 года) і дасягнула 3,4 мільярда долараў. Імпарт павысіўся ў 1,3 разу і склаў 3,28 мільярда долараў. Сальда, такім чынам, склалася дадатнае. Невялікае, праўда, — усяго 120 мільёнаў долараў. Але ж у студзені 2011-га яно было адмоўным і вялікім — 740 мільёнаў долараў.

Але не спяшайцеся, панове, з высновамі. Нягледзячы на агульнае паляпшэнне сітуацыі, у гандлі з краінамі СНД, Мытнага саюза і Расіяй паказчыкі пагоршыліся. Прыкладам, экспарт у краіны Мытнага саюза павысіўся ў 1,19 разу, а імпарт адтуль — у 1,78 разу. Адпаведна правілам арыфметыкі адмоўнае сальда Беларусі ў гандлі з Мытным саюзам павысілася да 1,2 мільярда долараў.

Інакш выглядае сітуацыя ў гандлі з «астатнім светам», у справаздачы Белстата яны абазначаюцца як «краіны за межамі СНД».

Дык вось, у студзені (у параўнанні са студзенем 2011 года) тавараабарот з гэтымі краінамі павысіўся ў 1,58 разу (экспарт склаў 273% (!) мінулагодняга, імпарт — 83,6%).

Калі тавараабарот з «краінамі за межамі СНД» склаў у студзені 2,95 мільярда долараў, то на Еўрасаюз прыйшлося 2,26 мільярда долараў, або 77%, у тым ліку экспарту 1,74 мільярда долараў (87%), імпарту — 520 мільёнаў долараў (55%). Сальда ў знешнім гандлі таварамі з ЕС склала 1,22 мільярда долараў.




Таварны склад экспарту і імпарту ў студзені 2012 года (у % да выніку, у разліку ў доларах ЗША)

Яшчэ раз падсумуем, што маем: сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі ў цэлым склала плюс 126,1 мільёна долараў; у гандлі з краінамі СНД — мінус 919 мільёнаў долараў; у гандлі з краінамі Мытнага саюза — мінус 1,17 мільярда долараў; у гандлі з краінамі за межамі СНД — плюс 1,05 мільярда долараў; у гандлі з ЕС — плюс 1,22 мільярда долараў.

Бачыце, даволі складаныя схемы, патрэбны не толькі бухгалтарскі ўлік, але і якасны аналіз, але любому і кожнаму, будзь ён хоць гаспадарнік, хоць палітык, хоць прэзідэнт, хоць конюх, сітуацыя бачная як на далоні. Дадатнае сальда ў гандлі з Еўрасаюзам дазваляе Беларусі спраўляцца з дысбалансам у гандлі з Мытным саюзам, за якім стаіць Расія.

Добра гэта ці дрэнна? Хутчэй за ўсё, дрэнна, бо ў структуры беларускага экспарту ў студзені, як сведчыць Белстат, 45,5% займалі калійныя ўгнаенні і 38,3% — нафтапрадукты. На ўсё астатняе, што робіцца ў краіне, выпадае меней за 16%.

Як вышэй адзначалася, студзень вельмі нетыповы месяц дзеля таго, каб рабіць нейкія абагульненні наконт магчымага развіцця складаных працэсаў на яго аснове. Але ж асноўныя тэндэнцыі, на якіх будавалася і будуецца палітыка беларускіх уладаў (як эканамічная, так і культурная, і нават нейкія ідэалагічныя памкненні), усім вядомыя яшчэ з савецкіх часоў. Памеры Савецкага Саюза, яго рэсурсная база дазвалялі не звяртаць увагі на неэфектыўнасць яго эканомікі. Грошы зарабляліся на продажы нафты, газу ды іншай сыравіны. А складаная прамысловая прадукцыя, уключна з ваеннай, «прадавалася» толькі палітычным саюзнікам коштам ільготаў ці прымусу.

Трэба было з самага пачатку нешта мяняць, перарабляць, перайначваць эканоміку на сапраўды капіталістычны лад. Каб прыватнікі самі шукалі ці грошы, ці інвестараў, самі вызначалі ўмовы і правілы канкурэнцыі, улічвалі іх. Увогуле, трэба было вызначыць такія маштабы і крытэрыі існавання, каб эканоміка мела дастатковыя ўласныя рэсурсы, выкарыстоўваючы якія можна было б развівацца.

Але ўсё з самага пачатку рабілася не так. Адразу не ўсё і не ўсе разумелі, бо на самай справе зрабіць сацыялізм гэтак жа лёгка, як зварыць рыбны суп у акварыуме. А вось назад адкруціць — нашмат цяжэй. Тут патрэбныя дзеячы, якія б і за сваю галаву не баяліся. У іншых краінах яны з'явіліся і былі на кароткі тэрмін да ўлады дапушчаныя. І зрабілі тое і так, што цалкам выключала магчымасць рэстаўрацыі былога ладу.

У нас жа… Топчамся на адным месцы, паграждаем усім і кожнаму. І не разумеем, што жывучы ў шкляным доме, нельга пагражаць суседу каменем.

Нават дадзеныя афіцыйнай статыстыкі сведчаць пра нясцерпнае жаданне зрабіць так, як раней было. І ў той жа час аб немагчымасці вызначыцца з-за нежадання рабіць нейкі прынцыповы выбар. Быццам бы і есці хочам, але не можам выбраць, што. Быццам бы гатовыя сябраваць, але колькі разоў кусалі руку, якая давала кавалак хлеба.

ГРОШЫ

# ПАЎГОДА МОЖНА ЖЫЦЬ СПАКОЙНА

Вольга ХВОІН

**Курс беларускага рубля ўмацаваўся ў раёне 8 тысяч за долар. Некаторыя прадпрымальнікі, якія працуюць з валютай, прытрымліваюць яе ў спадзеве на падвышэнне курсу. Ці ёсць нагода для такіх чаканняў?**

Раней агучвалася інфармацыя, што Нацбанк прагназуе сярэдні абменны курс беларускага рубля ў межах 8500 за 1 долар, урад чакаў паслаблення рубля да курсу 9 700 за долар, а Мінэканомікі ўвогуле прагназаваў курс 22 000 рублёў за долар у выпадку захавання высокіх аб'ёмаў эмісіі.

З пачатку сакавіка на Беларускай валютна-фондавай біржы попыт на долары перавысіў прапанову на 104 мільёны долараў ЗША. Пры гэтым курс беларускага рубля з пачатку года ўмацаваўся на 4 працэнты.

Эканаміст Леанід Заіка гэтыя лічбы тлумачыць макраэканамічнымі з'явамі. «З'ява з сутнасцю не супадае, а інакш і навука была б не патрэбная. Амерыканскі долар мае сваю траекторыя развіцця. На сусветным рынку ёсць фактары, якія паміж сабой звязаныя і ўплываюць на курс долара. Цана на нафту расце — долар расце, і наадварот. Агульны сусветны трэнд цяпер — паніжэнне курсу долара. Гэта працуе не толькі ў Беларусі, але і ў Зімбабве. Да слова, расійскі рубель цяпер таксама ўмацаваўся. І тэндэнцыя да ўмацавання беларускага рубля лагічная. Мы набываем нафту па даволі нізкіх коштах, а прадаём перапрацаваную нашым сябрам у Еўропе за валюту. Адпаведна, экспартныя магчымасці Беларусі палепшыліся цягам апошніх двух-трох месяцаў. Па звестках статыстыкі, за студзень–люты чысты экспарт у Беларусі дадатны. Канешне, у такіх умовах ёсць усе падставы для стабілізацыі нацыянальнай грашовай адзінкі».

Эксперт дадае, што цягам апошніх месяцаў адбылося і невялікае павелічэнне грашовай базы, але гэта апраўдана, бо ўмераная эмісія рубля дазваляе змагацца з дэвальвацыяй. «Яшчэ адзін фактар — рух грашовай масы ў краіне. Аб'ёмы доларавай масы цяпер працуюць на тое, каб курс трымаўся. Але гэта да пачатку выплат па знешніх пазыках. А сёлета мы мусім выплаціць каля 19 мільярдаў долараў, што ёсць беспрэцэдэнтнай сумай для краіны. Пакуль жа, прынамсі ў першым паўгоддзі, можна жыць спакойна», — запэўнівае эксперт.

Аналітык Forex Club у Беларусі Валерый Палхоўскі ў інтэрв'ю парталу naviny.by выказаў меркаванне, што Нацыянальнаму банку цяпер няма патрэбы выходзіць на біржу з валютнымі інтэрвенцыямі дзеля ўмацавання рубля. «Колькасць удзельнікаў таргоў заўсёды розная, сёння прадаўцоў больш, заўтра менш. І Нацбанк мог прадаваць нязначныя аб'ёмы валюты толькі для падтрымання ліквіднасці і ліквідацыі гэтых перакосаў», — зазначыў эксперт.

Палхоўскі мяркуе, што Нацбанк цяпер можа выступаць актыўным пакупніком валюты: «Як толькі курс ушчыльную наблізіцца да адзнакі 8 тысяч рублёў за долар, тут жа праз суткі ён адскочыць на 60–70 рублёў назад. Гэта характэрна для рынкаў, дзе курс вызначаецца пад уплывам попыту і прапановы. Значыць, ёсць нейкі буйны пакупнік валюты. У нашым выпадку гэта, хутчэй за ўсё, Нацбанк».

Аналагічную інфармацыю фактычна агучыла і старшыня Нацбанку Надзея Ермакова падчас прамой лініі ў газеце «Рэспубліка». Яна паведаміла, што прапанова замежнай валюты на біржы значна перавысіла попыт на яе. «Каб не дапусціць рэзкага ўмацавання курсу рубля, Нацыянальны банк нават вымушаны скупляць лішкі валюты. З 21 кастрычніка мінулага года мы ўжо купілі на біржавым рынку каля 1,2 мільярда долараў», — заявіла кіраўніца Нацыянальнага банку.

«Па выніках 2012 чакаецца, што выдаткі на абслугоўванне валавога знешняга доўгу (уключна з плацяжамі па пагашэнню асноўнага доўгу і працэнтаў) складуць каля 18 917 мільёнаў долараў, або 34,6% гадавога ВУП», — гаворыцца ў аглядзе «Аплатны баланс Рэспублікі Беларусь за 2011 год». На кожнага жыхара краіны атрымліваецца крыху больш за 2 000 долараў.

Золатавалютны запас краіны на 1 сакавіка склаў 8,016 мільярда долараў. Паводле ацэнкі Нацбанку, валавы ўнутраны прадукт Беларусі ў доларавым выражэнні па выніках 2012 года не перавысіць 55 мільярдаў долараў.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 2 красавіка, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм АТН «Ельская гуканні» цыклу «Зямля беларуская».
**11.00** Крымінальная меладрама «Надзея».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.50** Меладрама «Мы дзіўна сустрэліся».
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 00.05** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**19.35** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Дзённік «Еўрабачання».
**22.55** Серыял «Вар'яты-4» (ЗША).
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Мы дзіўна сустрэліся».

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Камедыя «Жаніх з таго свету».
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.15** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.05** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.10** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.10** «Несакрэтныя матэрыялы».
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная передача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Мама, не гаруй». 1997 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00, 21.20** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.30** Школа рамонту.
**11.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.40** Кінаспробы.
**13.15** Спартовая камедыя «Вышыбалы».
**14.55** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**16.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Міжнародны турнір па змяшаных адзінаборствах.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.35** Авертайм.
**23.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**00.00** Фантастычны баявік «Шосты дзень».

### ЛАД

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** Праграма «Даведнік».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Падарожжа ў іншы горад».
**12.20** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40, 02.00** Праграма «Саюзнікі».
**19.20** Праграма «Усюды жыццё».
**19.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**20.30** Праграма «Беларусь сёння».
**21.30** Праграма «Свет спорту».
**22.05** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная работка.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.55** Выжыць у катастрофе.
**00.50** Мяжа трываласці.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.40** Выжыць у катастрофе.
**05.40** Мяжа трываласці.
**06.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**01.15, 13.00** Веласпорт: Тур Фландрыі.
**02.15, 09.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**09.45** Чэмпіянат светуў класе Турынг: Валенсія - 4 раўнд.
**10.45** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма: Канада - Нарвегія.
**14.00, 20.30** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**16.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма: Данія - Кітай.
**18.00, 19.15, 23.35** Футбол.
**19.00** Футбол: Эўра - 2012.
**19.30** Веласпорт: Тур Фландрыі.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00, 22.30** Пра рэстлінг.

### Белсат tv

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40, 13.10, 18.10** Зона «Свабоды».
**08.10, 14.10** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 1 серыя.
**08.40** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.05, 14.40** «Час гонару», серыял.
**09.50** «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.00** Эксперт.
**11.30** «Дзе ты, Украіна?», дак. фільм, 2008 г., Украіна.
**12.25** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 2.
**13.40** «Ложак Леніна», дак. фільм, Польшча.
**15.25** Эксперт.
**16.00** Дак. гадзіна: «Дзіцячая гара», дак. фільм, 2008 г., Румынія–Германія.
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.40** Навігатар.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.40** Вагон.
**18.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Дагестан: выкраданне», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Найгалоўнейшы бос», камедыя, 2006 г., Данія.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 3 красавіка, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**10.00** Арэна.
**10.30** Культурныя людзі.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Лірычная камедыя «Каханы па найманні» (Расія).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Лірычная камедыя «Каханы па найманні» (Расія).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Вясёлыя рабяты – артысты і наглядчыкі».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** Прэм'ера. «Ахвярапрынашэнні Андрэя Таркоўскага».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Мама, не гаруй». Расія 1997 г.
**10.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Сэрцаед». Францыя-Манака, 2010 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.45** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Прыгодніцкі дэтэктыў «Апошні кардон-2» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**11.00** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**12.45** Авертайм.
**13.20** Дакументальны фільм «Іншае неба».
**13.55** Фантастычны баявік «Шосты дзень» (ЗША).
**16.15** Цела чалавека.
**16.50** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 1-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Дэтэктыў «Залатая міна». 1-я серыя.
**20.15** Тэлебарометр.
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.

### ЛАД

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. серыял «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Агульны рынак».
**09.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Мы вясёлыя, шчаслівыя, таленавітыя!».
**12.20** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачны ў горадзе».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Дыяспары».
**22.05** Дакументальны фільм «Войска. Расійская гісторыя XX стагоддзя».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усюды жыццё».
**03.30** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**05.25** Праграма «Дыяспары».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.30** Конны спорт: Агляд тыдня.
**00.45, 23.00** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**01.45** Веласпорт: Тур Фландрыі.
**09.30** Футбол: Эўра - 2012.
**09.45, 14.00, 19.00** Футбол: Еўрагалы.
**10.45** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма:Швецыя - ЗША.
**13.00, 18.00** Вось дык так!!!
**14.00** Футбол: Еўрагалы.
**15.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма:Канада - Данія.
**20.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма:Нарвегія - Швецыя.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**09.20** «Мой родны горад», серыял: 34 серыя.
**09.45** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.45** «Тэра постсаветыка. Дагестан: выкраданне», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**11.10** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.20** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**11.40** «Ранча», серыял: 44 серыя.
**12.30** «Мой родны горад», серыял: 33 серыя.
**12.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.20** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 2.
**13.55** «Тэра постсаветыка. Дагестан: выкраданне», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**14.20** «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**14.40** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**15.10** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**17.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт.
**18.40** «Загуж. Апошні прыпынак», дак. фільм, 2009 г., Польшча–Расія.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** На колах.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал.
**21.40** «Бландзінка», серыял, 2010 г., Польшча: 1 серыя.
**22.30** Euromaxx.
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Гарачы каментар.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 4 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Драма «Франка» («Беларусьфільм»).
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Драма «Франка» («Беларусьфільм»).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Фільм «Кароткі курс шчаслівага жыцця».
**00.15** «Наша Белараша».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.45** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял. Заключная серыя.
**21.35** «Доктар Тырса». Серыял. Закл. серыя.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Інструктар». Серыял.
**00.45** «Дзіўная справа».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 1-я серыя.
**11.05** Цела чалавека.
**11.40** Наперад у мінулае.
**12.15** Дэтэктыў «Залатая міна». 1-я серыя.
**13.35** Дак. фільм «Пад крылом анёла».
**14.00** Бухта капітанаў.
**14.40** Меладрама «Спакуса».
**16.20** Ясі і худзей.
**16.55** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 2-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Дэтэктыў «Залатая міна». 2-я серыя.
**20.15** Тэлебарометр.
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** Спортлата 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Праграма «На шашлыкі».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**09.25** Праграма «Даведнік».
**10.05, 11.05** Мастацкі фільм «Усім - дзякуй».
**12.20** Дакументальны фільм «Галіна Шурэпава - чалавек амфібія».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Нябачныя ў горадзе».
**20.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**22.05, 23.05** Мастацкі фільм «Люстэрка».
**00.30** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.20** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**02.55** Тэлесерыял «Ваўчыца».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны ўлоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Круты цюнінг 2008.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны ўлоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэта працуе.
**23.55** Самыя трывалыя прылады.
**00.50** Нацыя, што адпачывае.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.40** Самыя трывалыя прылады.
**05.40** Нацыя, што адпачывае.
**06.35** Як гэта працуе.

### Eurosport

**00.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**00.30** Супербайк: Чэмпіянат свету. Італія – 1-я спроба.
**01.15** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Італія.
**01.45** Супербайк: Чэмпіянат свету. Італія – 2-я Спроба.
**09.30, 14.30** Вось дык так!!!
**10.30** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн. Кваліфікацыйны раўнд.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**15.00** Кёрлінг: Чэмпіянат свету сярод мужчын. Базель. Швецыя - Канада.
**18.00** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**19.30** Алімпійскі часопіс.
**20.00** Футбол: Эўра - 2012.
**20.15, 23.10** Абранае па серадах.
**20.20** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**20.25** Гольф: Тур PGA.
**21.25** Гольф: Тур PGA. Гольф Shell Houston Open.
**22.25** Гольф: Еўрапейскі тур. Гольф Hassan II Trophy.
**22.55** Гольф Клуб.
**23.00** Усе віды спорту.
**23.05** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**23.30** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** На колах.
**09.30** Рэпартэр.
**09.55** Асабісты капітал.
**10.10** Эксперт.
**10.40** Беларусы ў Польшчы.
**11.00** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Касі Камоцкай; выступ Віктара Шалкевіча.
**12.00** «Ранча», серыял: 45 серыя.
**12.50** Euromaxx.
**13.15** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**14.10** Два на два (тэледыскусія).
**14.35** На колах.
**15.05** Рэпартэр.
**15.30** Асабісты капітал.
**15.45** Эксперт.
**16.15** Беларусы ў Польшчы.
**16.30** Euromaxx.
**17.00** «Машына зменаў», тэлесерыял: 10 серыя.
**17.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.40** «Скрадзеная малітва», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Каўчэг», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Асабісты капітал.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 10 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.05** Аб'ектыў.
**23.30** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 5 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**10.00** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.05** Крымінальная меладрама «Надзея».
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся».
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладрама «Грошы для дачкі».
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру».
**22.55** Драматычны серыял «Вар'яты-4».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Грошы для дачкі».

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** Прэм'ера АНТ: «Твая Тэрыторыя».
**00.35** «На ноч гледзячы».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял. Заключная серыя.
**09.20** «Далёкія сваякі».
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял. Закл. серыя.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Прэм'ера. «Вялікая нафта». Серыял.
**21.30** Прэм'ера. «Правакатар». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**23.50** «Аўтапанарама».
**00.10** «Інструктар». Серыял.
**00.55** «Яшчэ не вечар».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 2-я серыя.
**11.10** Страсці па культуры.
**11.50** Ясі і худзей.
**12.20** Вышэй за дах.
**13.00** Жансавет.
**13.35** Дэтэктыў «Залатая міна» (СССР). 2-я серыя.
**15.00** Меладрама «Віцька Шушамець і аўтамабіль» (Расія).
**16.25** Ясі і худзей.
**16.55** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 3-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі фільм «Рускія браты» (СССР).
**20.20** Беларуская часіна.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футбола.
**00.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Простая мова».
**05.20** Дак. фільм «Дом з гісторыяй».
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.05, 08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.05** Праграма «Простая мова».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05** Мастацкі фільм «Па галоўнай вуліцы з аркестрам».
**11.05** Мастацкі фільм «Па галоўнай вуліцы з аркестрам» (Працяг).
**12.20** Дакументальны фільм «Леў Яшын - Эдуард Стральцоў. Перакрыжаванні».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Тэлесерыял «Таемная варта. Смяротныя гульні».
**20.45** Праграма «Простая мова».
**21.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**22.05** Дакументальны фільм «Леў Яшын - Эдуард Стральцоў. Перакрыжаванні».
**23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**00.05, 01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Беларусь сёння».
**02.40** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**04.25** Праграма «Злачынства і пакаранне».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая передача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны улоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.20** Махінатары.
**14.45** Заезды.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны улоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэтае працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**04.35** Як гэтае працуе.

### Eurosport

**01.00** Усе віды спорту.
**02.00, 23.45** Вось дык так!!!
**09.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.00, 18.00** Футбол: Еўрагалы.
**10.15** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн - Кваліфікацыйны раўнд.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**15.00** Кёрлінг: Чэмпіянат светусярод мужчын. Базель. Кругавая Сістэма: Германія-Данія.
**18.15** Футбол: Эўра - 2012.
**18.30** Фігурнае катанне: Чэмпіянат свету. Ніца - Паказальны выступ.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон - 1/8 фіналу.

### Белсат tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**08.25** Асабісты капітал.
**08.40** «Бландзінка», серыял: 1 серыя.
**09.25** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**09.55, 14.25** Праект «Будучыня».
**10.25, 14.55** Навігатар.
**10.35, 15.05** «Скрадзеная малітва», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**10.55** Два на два (тэледыскусія).
**11.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.40** «Каўчэг», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.15** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**13.10** «Бландзінка», серыял: 1 серыя.
**13.55** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**15.25** Два на два (тэледыскусія).
**15.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.10** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.20** «Каўчэг», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Ян Павал II і ягоны сябар», дак. фільм, 1999 г., Польшча.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.40** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**23.25** «Містэрыя Божае пакуты на Познанскай цытадэлі», 2007 г., Польшча: ч. 1.
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №3 (67) (сакавік)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

Анонс



ДЫСКУРС

# АРХЕТЫПЫ. СВЯТАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ СЁННЯ

Алесь МІКУС, naviny.by

**Цягам мінулага года даводзілася памногу бываць і ў Вільні, і ў Маскве. І заўважылася рэзкая перамена ва ўласным настроі.**



Апынаешся ў зусім іншым прасторавым асяроддзі — і твае думкі раптам шыхтуюцца, святлее настрой, праясняюцца намеры. Апроч іншага, гэта дазваляе зірнуць іншымі вачыма на тое, адкуль прыехаў… Гледзячы знутры Беларусі, гэтак не праясняецца.

Такім чынам, якія мы? Ашалелыя, вывернутыя, перабольшаныя, выкрыўленыя?

## Ашалелыя

Вось насуперак афіцыйнаму дыскурсу пра «набившую оскомину» памяркоўнасць кампанія «Будзьма беларусамі!» проціпаставіла слоган пра шалёны народ. Цікава, што ў Летуве з пачыну прэм'ер-міністра Кубілюса пэўны час таму з'явіўся слоган пра «мужны народ». Па-літоўску — drąsi tauta, ад drąsus — «мужны, смелы». Літаральна гэта значыць: «які прадзіраецца». І гэта адпавядае памкненням цяперашняй Летувы — прадзерціся ў свет, з якога, на іх думку, іх вынялі. Вось, Летува прадзіраецца, а Беларусь — шалее.

З іроніяй было гэта выбрана або з чыстым сэрцам? Шал — гэта такі стан, які нікуды не накіраваны. Гэта як ваўчок, які круціцца на адным месцы. Шал дзярэ знутры, але нікуды не прыводзіць, нікуды не вядзе і нічога не хоча. Летува цярэбіць («дзярэ») сабе дарогу, а Беларусі — дзярэ нутро. Хтосьці робіць, а з кімсьці робяць. Летува робіць, а з Беларуссю нешта творыцца. Беларусь шалее. Беларусь шалёная. «Шалёны народ — беларускі народ»… Шал — гэта калі не ведаеш, што рабіць, а нечага хочацца. Або нечага нельга, не дазваляюць, забаронена. Тады шал, тады ашалелыя. І збольшага таму бяскрыўдныя.

## Вывернутыя

Беларусь называюць апошняй дыктатурай Еўропы. Або нават чорнай дзіркай Еўропы. Апошняя дыктатура пасярэдзіне Еўропы, у самым сэрцы Еўропы. Беларусь проціпастаўленая Еўропе. А чаму?

Вось калі ўзяць мех ад дуды. Калі робяць дуду і ўжо маюць казячую скуру, злупленую з казы «панчохай» (без разрэзу), дык гэты скураны мех выварочваюць, каб поўсць аказалася ўнутры. А звонку каб скура была тым бокам, які ў жывой казы «глядзеў» на яе вантробы. Дык вось, Еўропа — як жывая каза з поўсцю навонкі. Гэтая поўсць (мноства валасінак) — яе культура. Мноства ўсяго, разнастайнасць, багацце субкультуры, выбар. Гэтыя валасінкі «культуры» дзесь вытыркаюцца, дзесь зваляныя ў каўтун, дзесь заляпаныя, дзесь роўныя. Гэта культура, яна такая...

А якая Беларусь?

А Беларусь — вывернутая. Культура пахаваная, а звонку пазіраюць гладкія формы. Парадак, аднастайнасць, адназначнасць. Нуль культуры. Голы парадак. Голы шкілет, каркас. Голая ўлада, ні на што не абапертая. Тут не цэняцца рэчы культуры, іх прапускаюць праз сябе ўмомант, праглынаюць і адразу ж вырыгваюць. У лепшым разе — наляпваюць нейкі цэтлічак, каб больш да яго не вярнуцца. Жывой культуры тут не прымаюць, бо баяцца яе непрадказальнасці. Тым часам менавіта «жывая культура» — сінонім еўрапейскасці.

## Перабольшаныя

З некаторага часу беларусы ўсе як адзін пачалі нагадваць таго, хто адзіны аддае тут загады. Гэта перайшло ў побыт, у дробязі. Найперш гэта заўважна ў тых, хто вытыркаецца публічна. Перабольшана гавораць пра сябе, ужываюць слова «я». Накшталт «спел я ох..нно». Часам тое, пра што гаворка, яшчэ толькі ў задумах, плануецца, а ўжо воз ставіцца паперад: гэта будзе выдатна, цудоўна, найлепей, ніхто так яшчэ не рабіў, усе раты развязьць. Сябе перабольшваюць, пераацэньваюць, ставяць самі сабе ацэнку. Гавораць пра сябе, а калі пра іншых — звычайна крытыкуюць ці ганяць (спачатку калегаў, потым канкурэнтаў, потым амерыканцаў і ўрэшце жыдоў).

Чаму? Ад незадаволенасці наяўным, ад свербу, ад імкнення кудысьці. Пры чым тут галоўны камандзір? Варта ўзгадаць фразу «Беларусь для меня пройденный этап». Памкнуўся быў на Расію, толькі там загарадзілі дарогу. А калі б атрымалася — праз нейкі час пачулі б «и Россия для меня уже, знаете, пройденный этап». Чаму? Бо ў маленстве не было таго, хто б ставіў зверху планку. Звычайна, гэта бацька. Ён ставіць рамкі безупыннаму росту, вызначае кірункі і абмежаванні.

## Выкрыўленыя

Тое, што робіцца ў Беларусі, нагадвае расліну, якая ўперлася ў нейкую столь. Яна расла, а потым верхалінкі ўперліся і, каб расці далей, мусілі ісці ўбок, выкрыўляцца. Нейкія атожылкі, можа, пачынаюць расці ўніз — такое здараецца, такое можна часам бачыць у нейкіх прыродных месцах. Гэта ў сферы творчасці, у сферы культуры. У сферы зносінаў, асабліва публічных.

Беларусы з розных сфер, што належаць да «надбудовы», ужо даўно дараслі да нейкай столі і мелі б перайсці на нейкі новы, наступны этап свайго нармальнага развіцця (мастакі, пісьменнікі, музыкі, культуролагі, палітыкі, журналісты, тэатралы, мысляры, дый бізнесоўцы таксама). А гэтага пераходу ўсё няма і няма.

Чаго менавіта няма? Уключэння ў асэнсаванне таго, што адбываецца навокал у свеце. Цяперашні свет складаны і шматстайны — цікавы, і асэнсоўваць гэта, шнур за шнуром, — таксама цікава, пагатоў быць у гэта адначасова і ўключаным. Замест гэтага сварацца (паглядзіце, як усе ўжо тут пасварыўшыся). Або лічаць зоркі ў небе (праектаў уладкавання свету развялося!) ці каменьчыкі пад нагамі (гісторыя, этніка). Партыя хрысціянаў, узбуялы этнаграфічны рух… Цяперашні беларус не глядзіць вочы ў вочы, ён глядзіць убок. Ці ўверх, ці долу. Або нават у сваё нутро. Тое ж пра эмоцыі, пра мараль, пра ўласную думку.

## Замест высноў

**Дзіўна:** усе гэтыя чатыры пункты як улітыя адпавядаюць знакамітым тутэйшым архетыпам, што дайшлі да нас з глыбокай архаікі.

**Шалёныя?** Дык гэта пра ваўкалакаў, людзей ваяўнічага шалу, экстазу. У Герадота ёсць звесткі пра народ неўраў, што раз на год ператвараўся ў ваўкоў. Тыя неўры жылі дзесь тут...

**Вывернутыя?** Гэта, сапраўды, пра дуду. Дударскім краем называлі раней Беларусь, разам з прылеглымі тэрыторыямі...

**Выкрыўленыя?** Гэта пра старажытных жрацоў-крэваў-крывісаў, ад якіх, як лічаць, пайшла назва буйнога племя крывічоў. Маскоўскі навуковец Тапароў называў таму крывічоў «народам жрацоў». Тыя жрацы перадавалі волю старых багоў не проста, а «крыва», іншасказальна.

**Перабольшаныя?** Гэта, відаць, пра родпасную «крывічам-жрацам» тэму святасці. Слова «святы» ў індаеўрапейцаў значыла «тое, што набухае, павялічваецца» (расліны — святыя, чалавек — святы, улада — святая). Што можа расці — тое і святое.

Вось такі нечаканы ўсплывае ракурс. З аднаго боку, ён можа асцюдзіць тых, хто абагаўляе нашую архаіку (бо паказвае, здаецца, яе сучасныя формы, якія надта спецыфічныя), а з іншага — неяк мо' залагодзіць тых, хто разгублена глядзіць на ўсе гэтыя дзівацтвы ў цэнтры цывілізаванай Еўропы. У кожным разе вось такія, здаецца, мы сёння, а вось такая, што пэўна, наша найдаўнейшая мінуўшчына.



СУПОЛЬНАСЦЬ

# ПАКАЛЕННЕ СВАБОДЫ

**Што аб'ядноўвае, а што дзеліць палякаў і беларусаў? Адказаў на гэтае пытанне шукалі ўдзельнікі сцэнічных чытанняў дзеятвораў у кавярні «Pod Blaszanym Kurem».**



Фота picasaweb.google.com

Віталь Воранаў — госць вечарыны

Хоць у наш час джынсы — гэта ўжо звычайнасць, у савецкі час яны былі адзнакай заможнасці і сведчылі пра блізкія кантакты з захадам. Нашэнне нагавіцаў з арыгінальнага матэрыялу (не мясцовых падробак) было своеасаблівым сімвалам. Яго характар на прыкладзе Беларусі на пачатку сакавіка прадставіла тэатральная суполка Melancholikot падчас сцэнічнага чытання п'есаў у кавярні «Pod Blaszanym Kurem». Падзея стала часткай мерапрыемстваў, якія праходзілі ў межах Фестываля Беларускай Культуры, зладжаных студэнтамі Навуковага Кола Усходазнаўства UAM.

Першым быў запрэзентаваны дзеятвор «джынс». Госці маглі пабачыць п'есу, якая выяўляла рэчаіснасць маладога пакалення ў ізаляванай Беларусі. Дзяржава, у якой усё яшчэ захоўваецца кіраванне савецкага тыпу, розным чынам абмяжоўвае свабоды сваіх грамадзянаў. Джынсы для многіх становяцца сімвалам свабоды...

Апошнюю сцэну Melancholikot дапоўніў творам, выкананым на піяніна адной з актораў. Сцэнар п'есы быў напісаны ў 2007 годзе Міколам Халезіным, беларускім драматургам і журналістам. Ён вядомы таксама як адзін з заснавальнікаў Беларускага вольнага тэатра.

У другой пастаноўцы Melancholikot прэзентаваў «Плошчу» Віталя Воранава.

Пасля заканчэння інсцэнізацыі абылася сустрэча з аўтарам, які распавёў пра сітуацыю ў Беларусі і прэзентаваў беларускія кніжкі, што выйшлі ў Польшчы дзякуючы грамадскай падтрымцы і выдавецтву «Белы Крумкач».

«Падобныя мерапрыемствы, якія закранаюць праблематыку Беларусі, маюць велізарнае значэнне, — адзначыў пасля чытанняў сайт www.mmpoznan.pl. — Для беларусаў, асабліва для тых, якія з'яўляюцца ізгоямі ў сваёй уласнай краіне, гэта магчымасць самарэалізацыі і прэзентацыі праблемаў краіны, убачаных сваімі вачыма. Для нас, палякаў, гэта нагода пазнаёміцца з краінай, якой не ведаем, хоць жывем з ёй амаль што «праз сцяну»».

**Рафал Віхневіч**

# СТАГОДДЗЕ ПАЛЕСКАГА ЛЕТАПІСЦА

**Сто гадоў таму — 13 сакавіка 1912 года — у Місяцічах, што пад Пінскам, у шляхецкай сям'і нарадзіўся Федар Шаламіцкі, які пад псеўданімам Федар Одрач стаў украінскамоўным пісьменнікам, аўтарам шматлікіх аповесцяў, нарысаў і кніг успамінаў.**

Удзельнік украінскага нацыянальна-вызвольнага руху, выпускнік Віленскага ўніверсітэта, ён настаўнічаў на Піншчыне. Пасля арышту і дэпартацыі Саветамі сям'і нявесты Федар Одрач праз Карпаты ўцёк з СССР — і стаў непрымірымым праціўнікам бальшавіцкага рэжыму.

Пасля Другой сусветнай вайны ён жыў у Канадзе. У яго творах выпісана маляўнічая карціна Палесся сярэдзіны XX стагоддзя.

Як паведаміў украінскі блог Берасцейшчыны і Піншчыны, украінская суполка «Берагіня» прасіла мясцовыя ўлады дазволіць ушанаваць памяць пісьменніка мемарыяльным знакам: у Місяцічах яшчэ захаваўся дом, у якім нарадзіўся Федар Одрач. 7 сакавіка быў атрыманы адмоўны адказ. У дадатак, паведамілі прадстаўнікі ўкраінскай дыяспары ў Беларусі, вусна было забаронена правядзенне літаратурнай вечарыны памяці пісьменніка ў Пінску...

## КРАСАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілеяў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



01.04.1947 — Аляксандр Аляксандравіч Жук
15.04.1952 — Алена Уладзіміраўна Таболіч
16.04.1957 — Сяргей Анатольевіч Сокалаў-Воюш
30.04.1937 — Сяргей Пятровіч Пятроў

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

САЮЗ

# САКАВІЦКАЯ РАДА

**13 сакавіка прайшло чарговае паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». На ім была заслухана справаздача старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыса Пятровіча аб дзейнасці СБП за перыяд пасля З'езду, заслухана інфармацыя аб дзейнасці рэгіянальных аддзяленняў ды інш.**

Асноўным пытаннем Рады быў прыём новых сяброў. Шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўніліся дванаццаццю новымі літаратарамі. Сярод іх:

**Амялішка Міхась Васільевіч.** Нарадзіўся 14.05.1929 г. у с. Вольна Баранавіцкага павета Навагрудскага ваяводства. Скончыў Гродзенскі педагагічны ўніверсітэт, працаваў настаўнікам фізікі, выкладчыкам, выконваў абавязкі загадчыка кафедры. Аўтар кніг прозы «Гучыць наш хор», «Заблудныя» (I частка — 2009, II-я — 2011, III-я падрыхтаваная да друку). Жыве ў Гродне.

**Галубовіч (Лойка) Вера Іванаўна.** Нарадзілася 22.02.1958 г. у в. Батуржына Смалявіцкага р-на Мінскай вобл. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага, працавала ў Доме літаратара, на Беларускім радыё, часопісе «Роднае слова». З 2001 г. працуе бухгалтарам. Вершы і апавяданні друкаваліся ў беларускай і расійскай перыёдыцы, калектыўным зборніку вершаў «Вечерний альбом». Жыве ў Мінску.

**Дубянецкі Эдуард Станіслававіч.** Нарадзіўся 20.04.1966 г. у в. Чудзін Ганцавіцкага р-на Брэсцкай вобл. Скончыў гістарычны факультэт БДУ, кандыдат гістарычных навук. Працаваў навуковым супрацоўнікам, выкладчыкам. Аўтар 4 навуковых кніг і звыш 200 навуковых, навукова-папулярных, публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў, апублікаваных у айчынным і замежным друку. Аўтар кнігі паэзіі «Душы маёй няскончаны палёт» (2011). Жыве ў Мінску.

**Казлова Алена Уладзіміраўна (Анка Упала).** Нарадзілася 14.03. 1981 г. у Магілёве. Скончыла факультэт замежных моў Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, вучылася на літаратурна-філасофскім факультэце Беларускага калегіюма. Апавяданні, вершы і пераклады публікаваліся ў зборніку «Святая праўда ды іншыя казкі» (2009), у беларускім перыядычным друку, шведскай анталогіі перакладаў сучаснай беларускай літаратуры «Беларусь – літаратурнае падарожжа» (Стакгольм, 2011). Аўтар кнігі прозы «Дрэва энталіпт». Жыве ў Мінску.

**Клінаў Артур Апанасавіч.** Нарадзіўся 5.09.1965 г. у Мінску. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускай тэхнічнай акадэміі, з 1998 г. старшыня Беларускай асацыяцыі сучаснага мастацтва, з 2001 г. выдавец і галоўны рэдактар часопіса «pARTisan». Аўтар кніг «Малая падарожная кніга па горадзе Сонца» (2005), «Шалом» (2011), сцэнара да фільма «Шляхціц Завальня». Жыве ў Мінску.

**Крукоўскі Уладзімір Якаўлевіч.** Нарадзіўся 6.03.1937 г. у г. Асіповічы ў сям'і ваеннага будаўніка. Нямецкую акупацыю сям'я перажыла ў в. Залессе Беластоцкай вобл. З 1970 г. жыве і працуе ў Мінску. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Друкаваўся ў беларускай перыёдыцы, быў рэдактарам і ўкладальнікам кніг. Аўтар кніг «Срэбная страла ў чырвоным полі» (2010), «Смеласць, годнасць, гонар» (рыхтуецца да друку) на тэму гісторыі беларускай шляхецкай геральдыкі.

**Кулыгіна Святлана Мікалаеўна.** Нарадзілася 20.10.1952 г. у Ялце. Скончыла рускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Займалася інжынернай лінгвістыкай, працавала бухгалтарам, цяпер — на пенсіі. Аўтар дзвюх кніг паэзіі: «Неповторимые миры» і «Мелодии скрипичного ключа». Жыве ў Мінску.

**Міхно Вера Фёдараўна.** Нарадзілася 13.12.1955 г. у в. Чэрцы Лепельскага р-на Віцебскай вобл. Скончыла Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, працавала ўрачом, вершы выходзілі ў літаратурнай перыёдыцы. Аўтар кнігі вершаў «Крык спуджанай птушкі» (2011). Жыве ў г.п Бараўляны.

**Рызо Аляксандр Уладзіміравіч.** Нарадзіўся 27.05.1956 г. у Брэсце. Скончыў факультэт прамысловага і цывільнага будаўніцтва Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, працаваў на шэрагу інжынерных пасадаў, некаторы час жыў у Венгрыі. Аўтар кніг вершаў «Последний лирик» і «Зима тысячелетия» (1999). Жыве ў Брэсце.

**Сітніца Рыгор Сямёнавіч.** Нарадзіўся 1.01.1958 г. у в. Курыцічы Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. Скончыў аддзяленне графікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, працаваў выкладчыкам. З 1985 г. сябра, а з 2007 г. першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў. Аўтар шматлікіх публікацый вершаў у перыёдыцы, анталогіях «Краса і сіла», «Галасы з-за небакраю». Жыве ў Мінску.

**Тамковіч Аляксандр Леанідавіч.** Нарадзіўся 9.11.1963 г. у г. Ашмяны. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага вайскова-палітычнага вучылішча, працаваў карэспандэнтам. З 2009 г. сябра беларускага ПЭН-цэнтра, узнагароджаны прэміяй ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча. Аўтар кніг «Судьбы» (2006), «Женщины» (2007), (2009), «Асобы» (2008), «Будзіцелі» (2009), «Геннадий Карпенко: Хроника разбившихся надежд» (разам са С. Калінкінай і А. Коктышам), «Інтэрв'ю, якіх не было», «Лёсы» (2009), «Без палітыкі», «Супраць плыні» (2011). Тры кнігі выйшлі па-ангельску. Жыве ў Мінску.

**Цімафеева Юлія Пятроўна.** Нарадзілася 12.01.1982 г. у в. Спярыжжа Брагінскага р-на Гомельскай вобл. Скончыла факультэт ангельскай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. З 2006 г. наведвае Беларускі Калегіюм і Перакладніцкую майстэрню. Пераклала з ангельскай творы Ч. Букоўскі, Т. Пірса, Ш. П. Гілман, К. Шапэн, М. Дзікмана, Э. Э. Камінгса, Дж. К. Оўтс. Пераклады з'яўляліся ў часопісах «Паміж», «pARTisan», дадатку «Літаратурная Беларусь». Піша вершы. Жыве ў Мінску.

ПРЭМІЯ

# ДЭБЮТ–2011

**14 сакавіка ў мінскай галерэі «Ў» былі названыя і ўганараваныя лаўрэаты літаратурнай прэміі «Дэбют», заснаванай у 2010 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Беларускім ПЭН-Цэнтрам. Прэмія ўручаецца за кнігі ў тых жанрах, у якіх ствараў Максім Багдановіч. Журы прэміі: Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Павел Берагов іч, Марыя Мартысевіч, Уладзімір Някляеў, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Андрэй Скурко, Андрэй Хадановіч.**

Прэміяй «Дэбют» ганаруюцца аўтары лепшых дэбютных кніг года. Фундатарам прэміі выступіў расійскі бізнэсовец з беларускімі каранямі Павел Бераговіч.

Згодна са статутам прэміі, прэтэндаваць на яе маглі аўтары да 35 гадоў, якія ў 2011 годзе выдалі сваю першую кнігу.

У галіне перакладу прэтэндэнтаў на прэмію было чатыры: Алеся Башарымава, Марына Казлоўская, Марыя Пушкіна і «Прайдзісветаўскі» калектыў. Найлепшым у намінацыі «Пераклад» быў прызнаны калектыў рэдакцыі часопіса «Прайдзісвет», які летась выдаў у перакладзе з ангельскай мовы кнігу Эдгара По «Маска чырвонае смерці»: Юля Цімафеева, Ганна Янкута, Кацярына Мацеёўская і Алена Пятровіч.

У «Паэзіі» намінаваліся Ганна Аўчыннікава (за кнігу вершаў «Ад зачыненай брамы», Антон Францішак Брыль (за кнігу вершаў «Не ўпаў жолуд») і Анастасія Кацюргіна (за кнігу вершаў «Пад ветразем ранку»). Найлепшай прызналі кнігу Антона Францішка Брыля «Не ўпаў жолуд». (Лаўрэат жыве ў Цюрыху, ён прафесійны кампутаршчык, і прыехаць на цырымонію ўганаравання не здолеў. Але прыслаў відэазварот, у якім чытаў свой новы верш.)

У намінацыі «Проза» спаборнічалі кнігі Веры Бурлак «Творы соннага жанру» і Віктара Марціновіча «Сцюдзёны вырай». Перамог Віктар Марціновіч. Яго «Сцюдзёны вырай» выйшаў у электронным варыянце (з нагоды чаго Валянцін Акудовіч, віншуючы лаўрэата, пажартаваў: «А на што Вы, Віктар, паставіце мне аўтограф?»).

Усяго ў шортлісце прэміі «Дэбют», такім чынам, было дзевяць пазіцый. Усе, хто не стаў лаўрэатам, атрымалі заахвочвальныя прэміі.

ВЕРШЫ

# НАД ДАХАМІ ГОРАДУ

Алег МІНКІН



## Самотны

*Алесю Бяляцкаму*

*Мне рэжа слых хлусня прамоў траскотных,*
*Мне слепіць вока яркасць кумача —*
*Даўно мне ўсё абрыдла, апрача*
*Маўклівай непрытомнасці самоты.*
*Ды ўсё ж, калі б у цішы безвыходнай*
*Турыны рог прызыўна загучаў*
*І на лязе узнятага мяча*
*Запалымнелі водсветы паходняў, —*
*Я ўсе сумненні адгарнуў бы разам*
*І стаў пад белы сцяг з чырвоным пасам:*
*Пад бел-чырвона-белы вольны сцяг...*
*Чырвоны пас на белым тле Радзімы,*
*Ты клічаш нас за волі міг адзіны*
*Узняцца і загінуць без разваг!*

Пачатак 1980-х

* * *

*Нябожчыка продкі*
*не клалі ў магілу пад крыж:*
*Укопвалі слуп*
*паміж іншых слупоў незлічоных,*
*Акораны дбайна,*
*садзілі нябожчыка ў човен,*
*І спальвалі човен,*
*і попел збіралі ў гладыш.*
*Гладыш той на слуп узнімалі*
*ў бяздонную сінь,*
*Таму што хацелі,*
*каб бачны быў людзям*
*здалёку,*
*Каб мёртвы ад тлення далей быў,*
*бліжэй да аблокаў,*
*Нібыта бліжэй да далёкіх, нязбытых часін.*

* * *

*Скупое сонца кволым промнем*
*Касіла лісце з клёнаў сонных…*
*Ты ціха мовіла: «Да скону,*
*І адкахаўшы, буду помніць».*
*А я сачыў, як промняў лёзы*
*Без намагання лісце косяць,*
*Як вецер іх у гурбы зносіць,*
*Як сумна ўецца дым бялёсы…*
*Так з тых часін і заплялося*
*Ў памяці маёй яскрава:*
*Твой голас, дыму пах горкавы*
*І скарга ціхая на восень.*

* * *

*Каханне, грошы, славы сверб — мана:*
*Няўмольны час завабіць імі сэрца,*
*Памучае, а потым насмяецца —*
*Не здраджвае Радзіма нам адна.*
*Так у рацэ сплывае хлуд сухі,*
*Цяжкія бёрны і ашмоцце пены,*
*І толькі адбіваюцца нязменна*
*У хуткабежнай плыні — берагі.*

## Агнявік

*У полымі вясёлым печы*
*Рухавы скача чалавечак*
*Пад булькаценне чыгуноў,*
*Пад гучны трэск смалістых дроў.*

*У чыгуны, як у мішэні,*
*Ён вугалькоў шпурляе жмені*
*І не спыняе ні на міг*
*Кружэння ў стужках агнявых…*

*Калі ж агонь згасае ў печы —*
*У прысак лезе чалавечак*
*І спіць, згарнуўшыся клубком,*
*Чырвоным стаўшы вугальком.*

## Сафійскі сабор

*Калі пазалотай кране зараніца*
*Крыжы на бязважкім Сафійскім саборы,*
*Узносіць ён стрункія рукі званіцаў*
*Да першае зоркі з маўклівым дакорам:*

*«Чаму я павінен, сябе колькі помню,*
*Няўмольна ўрастаць у здранцвелы пагорак,*
*Калі я бялейшы за светлую поўню,*
*Калі я так прагна імкнуся да зорак?»*

* * *

*Над цёмным карэннем, высока ў сінечы,*
*У шатах шумлівых, куды ні зірні,*
*Лісты бестурботна трымцяць і*
*трапечуць,*
*Забыўшы заўчасна свае карані.*
*Шапочуць: мы ў іншым жывем вымярэнні,*
*І голас у кожнага свой, і жыццё…*
*Ды станецца восень лістам адкрыццём,*
*Пранізлівы вецер дыхне азарэннем —*
*І зноў, як калісьці, да цёмных карэнняў*
*Пачне, адпалаўшы, вяртацца лісцё.*

## Блукалі мы ў цьмяным святле ліхтароў...

*Блукалі мы ў цьмяным святле ліхтароў,*
*Разняць не маглі пераплеценых пальцаў,*
*І там, дзе ступалі, у цемры двароў*
*Зіхоткія кветкі раслі на асфальце.*

*Блукаю самотны, вярнуўшыся зноў,*
*Па горадзе смутку майго і кахання,*
*Па зблытаных вулках няспраўджаных сноў,*
*Дзе кожны камень быццам слова з падання.*

*Усё тут, як колісь, ды дзе тыя кветкі —*
*Нядоўгага шчасця ахова і сведкі!*

## Смаўжы

*З прамоклых зарасцяў ажыны*
*Пасля абложнае імжы*
*Павыпаўзалі на сцяжыны*
*Даспехі прасушыць смаўжы.*

*Павытыркалі рогі-пікі,*
*Нібыта ў латах ваяры,*
*І так і пруць пад чаравікі,*
*Смаўжы, маруды, недатыкі,*
*Вільготных нетраў жыхары.*

*Ах, грозны выпаўзак смаўжыны,*
*Каб пад абцас прыпадкам вы*
*Не трапілі — вас са сцяжыны*
*Перанясу я ў схрон травы.*

## Страказа

*Стракозка на галінцы*
*Ад сонца аж зіхоча,*
*Вясёлкавыя крыльцы,*
*Смарагдавыя вочы,*
*Танюсенькія ножкі,*
*Вузенькая сукенка...*
*Пабудзь са мной шчэ трошкі,*
*Прывабная паненка!*

## Хуткая Плынь

*Не трэба, каханая, слоў. Памаўчым.*
*Ніхто не валодае моваЙ, якою*
*Два сэрцы, спавітыя пешчаў ракою*
*Размову вядуць, у нябыт плывучы.*

*Глядзі, які морак, і шэрань, і стынь*
*Залеглі наўкола страшлівай аблогай...*
*Дык будзем жа моўчкі адно да аднога*
*Туліцца.*
*Хай зносіць нас хуткая плынь.*

## Гравюра

*У гарлачы на стале хрызантэмы...*
*Гэта не прыклад няўдалай квантэмы —*
*Гэта пачатак мілоснае тэмы.*

*Нашы альтанкі, прысады і паркі,*
*Свет на дваіх, незваротны і яркі,*
*Жалем запралі няўмольныя Паркі.*

*Што засталося? Світанак пахмуры.*
*Надпіс «кахаю» на зжоўклай гравюры.*
*Томік журботных лістоў Сенанкура.*

## Дзверы

*Нясней, чым кружлянне пудкай молі*
*мой жыццяпіс.*
*Не бель аблокаў — цяжар шэрай столі*
*згары навіс.*
*Не плёскат хваль, не дасканаласць цела,*
*не шорхат крыл —*
*а маўкліня й на вокладках зжаўцелых*
*стагодні пыл.*
*І ў снах той самы незагойны верад,*
*што вось знайшоў*
*аднойчы ў край, жахліва-пекны, дзверы —*
*і не ўвайшоў...*

## Пенаты

*Зноў я вярнуўся ні з чым*
*Да гэтых згнілых варот,*
*Скуль праз няўрод і нішчым*
*Паразбрыдаўся мой род.*

*Я ненадоўга, але,*
*Божа, які гэта жаль*
*Бачыць у стылай імгле*
*Сад абляцелы амаль.*

*Божа, ад пунь і ад хат*
*Цягне такою жальбой,*
*Што застаецца няшмат,*
*Каб не пакончыць з сабой.*

*Божа, калі ўжо й мяне*
*Перст Твой, як яблык, страсе —*
*Хай яшчэ раз слізгане*
*Цень мой па цёмнай страсе.*

## Шпак

*Прасвісцеў я, быццам шпак,*
*Дарагое-залатое,*
*І жыццё маё, што гляк —*
*Аж да дна наскрозь пустое.*

*І ляціць душа туды,*
*Скуль вяла яе дарога:*
*Да палёўкі-лебяды,*
*Да гарлачыка рачнога.*

## Настальгія

*Паглядзі: над дахамі гораду*
*У вячорнай, дажджыстай імгле*
*Возіць хохлікаў баба Карґота*
*На сваёй абтрапанай мятле.*

*Прыкра. Мокра. Імжака цярусіць*
*Усю ноч... А яна — хоць памры! —*
*«Мы беларусы з братняю Руссю»*
*Гугнявіць з хохлікамі да зары.*

## Дворнік

*Надараецца, жахам агорне*
*Ад таго, што яшчэ не памёр...*
*Ды са здзівам пачуеш, як дворнік*
*Ачышчае заснежаны двор.*

*Звыклы лад пахіснуўся, пажухлі*
*Усе веры й атожылкі вер —*
*А вось дворнік шкрабе сваёй шухляй*
*І тады, і заўжды, і цяпер.*

*Ён адкідвае да агароджы*
*Снег наносны і сыпле пясок,*
*Каб няўпэўнены ў заўтра прахожы*
*Паслізнуцца не мог неўзнарок.*

## Куфар

*Так было: я ў сябе зазірнуў,*
*Быццам хто века куфра піхнуў.*

*Думаў, скарбаў адкрыю тайнік,*
*А адкрыўся смуродны гнайнік.*

*Думаў, боскае ўбачу святло,*
*А там сыкала гадаў кубло.*

*Думаў, ёсць хоць на дне прыгажосць,*
*А знайшоў раздражненне і злосць...*

*Апусціце свінцовае века*
*І замкніце нутро чалавека!*

## Пахмелле

*Усё так, як раней, толькі троху*
*Больш падвоху ў паветры й спалоху,*
*Больш паныласці ў тварах і смутку,*
*Больш нянавісці ў кожным закутку,*
*І глядзяць адусюль блазнавата*
*Звільгатнелыя вочы вар'ята.*

*Зноў стрыножаны коні Пагоні,*
*На іх месцы — дубінкі, пагоны,*
*І разумнікі зноў не ў цане,*
*І вусаты партрэт на сцяне.*
*«Што ж, за пляшкай схаджу, буду піць...*
*Можа загадзя кайстру купіць?»*

## Анёл

*Мой анёл, белакрылы мой кат,*
*Столькі год пад тваёй я апекай,*
*Столькі год паграджаеш мне пеклам...*
*Ды ў свой рай мяне возьмеш наўрад.*

*Жорсткасць вуснаў і погляд ва ўпор:*
*Ты катуеш мяне без супыну.*
*Я кажу: «Мне даволі, я гіну...»*
*Ды стэрыльны заўжды твой убор.*

*Бачу спрэс яго бель-чысціню,*
*Што пануе над светам убога...*
*Царства Бога без каліўца Бога*
*У кашмарах страхотлівых сню.*

31 сакавіка Алег Гаўрылавіч МІНКІН адзначае свой 60-гадовы юбілей.

Шчыра жадаем паважанаму аўтару шчодрага сонца і новых публікацый!

ВЕРШЫ

# ПЯТАЯ КАНЕЧНАСЦЬ

25 лютага адбыўся фестываль «Вершы на асфальце», прысвечаны 75-годдзю Міхася Стральцова.

Ён праводзіўся ўпершыню, і адразу – у статусе міжнароднага: удзел у ім узялі не толькі беларускія, але і замежныя аўтары.

Першы дзень завершыўся жаночым слэмам. У «зацятай барацьбе» сярод паэтак перамаглі адразу дзве аўтаркі, якія прадстаўлялі тры краіны.

Роўную найвышэйшую колькасць балаў набралі Сольля Крапу, якая адстойвала вершагонар Фінляндыі, дзе нарадзілася, і Швецыі, дзе жыве цяпер, і беларуска Вера Бурлак.

Абедзьве пераможцы — ужо дасведчаныя слэмеркі, якія не раз займалі высокія месцы на паэтычных спаборніцтвах у сваіх краінах і за мяжой. Здабыць перамогу Солі дапамагла перакладчыца Алеся Башарымава, якая не толькі перастварыла вершы шведскай паэткі па-беларуску, але і артыстычна агучыла іх падчас слэму.

Аўтарку, якая заняла трэцяе месца, заслужана называюць адкрыццём паэтычнага вечара. «Бронзу» ўзяла Юля Цімафеева, дагэтуль вядомая як перакладчык мастацкай літаратуры («на яе рахунку» пераклады такіх аўтараў, як Чарлз Букоўскі, Фернанду Песоа, Мэцью Дзікман ды інш.).

**Анка УПАЛА**

## Сольля КРАПУ

### Твая сумачка

*Што скажа твая сумачка*
*частка твайго цела*
*што туліцца між поясам і локцем*
*ляпае па тваім сцягне*
*або ціснецца між рэбрамі і рукою*
*Калі ты апошні раз зазірала ва ўнутраную кішэню*

*Невядома чые візітоўкі*
*нашкрэбаныя тэлефоны без імёнаў*
*гардэробныя нумаркі невядома адкуль*
*Табе праўда патрэбныя ўсе гэтыя асадкі*
*ты хоць помніш адкуль іх сцягнула*
*Табе праўда трэба насіць з сабой*
*усе гэтыя ключы*
*ты хоць ведаеш ад чаго яны*
*Пыльныя тампоны*
*заўсёды добра мець пад рукой*
*на выпадак*
*Рассыпаныя жуйкі*
*для свежага дыхання*
*ці калі ў самалёце закладзе вуха*
*забіваюцца пад падкладку*
*ці вось адна пажаваная загорнутая ў газетку*
*падчас начнога пералёту*

*Чым ёсць твая сумачка*
*пятая канечнасць*
*працяг твайго цела*
*і цябе*
*Партманэ*
*у якім болей слядоў выпадковых пакупак*
*чым банкнотаў*
*Адрасная кніжка*
*так, у мяне ёсць сябры*
*у мяне ёсць сябры*
*Штодзённік*
*так, я камусьці патрэбная*
*я не пустое месца*
*Што гэта ў цябе там у сумачцы*
*з чым ніколі не расстаешся*
*нават у ванне*
*Што гэта ты носіш*
*ці пройдзе яно мытню ў аэрапорце*
*ты ж не носіш там вострыя прадметы*

*Сумканосная частка насельніцтва*
*што мы цягаем з сабой*

*Акуляры*
*плынь часу*
*квіткі з таксі*
*тэлефон*
*рэчавыя доказы*
*ягадны камбайн*
*купоны на зніжкі*
*ружанец*
*нажную помпу для ровара*
*штрафы за паркоўку*
*плацкарты*
*абгорткі ад падарункаў*
*абцугі*
*парасон*
*пустыя ўпакоўкі*
*камутарныя дэвайсы*
*заколкі*
*таблеткі ад галавы*
*пракладкі*
*для крана*
*цыдулкі*
*спісы пакупак*
*абяцанні*
*завушніцы*
*туш*
*гараж*
*корак з-пад шампанскага*
*шар для боўлінгу*
*кампактную паходную кухню*
*сямейны партрэт*
*цені для павекаў*
*твар*
*дохлага хамячка*
*памаду*

### А ўсё пачалося з нявіннага кухоннага століка

*А ўсё пачалося з нявіннага*
*кухоннага століка*
*Чысценька працерла,*
*напяваючы сабе пад нос*
*Застыла і задумалася*
*адкуль у шуфлядзе*
*заўжды столькі крошак*

*Жорсткім бокам губкі*
*счысціла пляму*
*а там яшчэ адна*
*счысціла пляму*
*а там яшчэ адна*
*такую пакідаць нельга*
*Трэба заняцца ўсёй кухняй*
*калі ўжо ўзялася*

*Мыйка ў тлушчы — адчысцім*
*пратрэм пад столікам*
*шклатару*
*і дзверкі шафы знутры ў нейкай ліпкасці*
*пяройдзем да плінтусаў*
*дзвярных ручак*
*карцінных рамаў*
*і пыльнай мэблі на якой можна маляваць пальцам*
*і лямпы да якой ніколі не дойдуць рукі*
*тэ-эк*
*на двор з дыванамі*
*павыкалочваем*
*і да пліты*
*і да ванны*
*і на двор з пустымі бутэлькамі з-пад шампуню*
*павыкідаем усё з шафкі ў ванным пакоі*
*здраім з люстра пырскі зубной пасты*
*Чысцім, чысцім*
*І фіранка з дэльфінчыкамі — ёй час на сметнік,*
*ды і ўсім гэтым рэчам, у якіх нават няма імя*
*нашто яны ўвогуле*
*Стаю з кузобчыкам у руках*
*Нашто мне той кузобчык?*
*прэч, на сметнік*
*А тут што, палічка?*
*Далоў!*
*Тэлевізар?*
*Вон з балкона*
*Ой! Оёй, там беглі дзеці*
*Шаўковыя туфелькі цёткі Анэты*
*старая гітара*
*дзверы*
*Дый гардзіны ўжо не фантан, скажам шчыра*
*Колькі ўжо там валяецца гэтая ёлка?*
*А сцены, сцены*
*Дзе там ануча*
*і дзе там шпатель*
*Здзіраем шпалеры*
*выкідаем стол*
*ён толькі збірае кучы*
*рахункаў*

*А ўсё пачалося з нявіннага кухоннага століка*
*Сюды шчотку, сюды ручнік*
*Прэч гэтыя старыя боты*
*І таршэр — туды ж*
*І паркет*
*фатэль*
*тэлефон*
*І кнігі — яны даўно прачытаныя*
*нашто яны мне*
*і Нац… нацыянальная энцылак…*
*наацынальная энцыклакапе…*
*Нацыянальная энцыклапедыя —*
*гэта ж нават не вымавіць*
*так што прэч яе, у макулатуру*
*І кветкі — з іх болей толку ў кампосце*
*усё адно ніхто іх не палівае*
*А сувеніры!*
*Прыгожыя дробязі!*
*Парцалянавыя сабачкі!*
*Эйфелева вежа!*
*у сметніцу іх*

*А ўсё пачалося з нявіннага кухоннага століка*
*Сюды анучу*
*пратрэм лядоўню*
*і маразілку трэба размарожваць рэгулярна*
*І гарошыны скочуць уніз па ўсёй лесвіцы*
*як зялёны град*
*Як жа прыгожа*
*думаю*
*Як прыгожа*

*І хутка тут застаецца адно толькі рэха*
*Адно толькі рэха*
*Ха-ха!*
*Адно толькі*
*рэха*
*Ха-ха*
*Ха-ха …*

### Мне патрэбны кіроўца аўтобуса

*Мне патрэбны:*
*кіроўца аўтобуса*
*які не стане ад'язджаць па раскладзе*
*хаця я ДАКЛАДНА спазнюся*
*бягу па наледзі*
*з сумачкай з торбай з пакетам*
*з партфелем з шалем*
*не паспеўшы*
*зашпіліць куртку*

*кіроўцу аўтобуса патрэбная:*
*жонка*
*якая прыносіць газету яму першаму*
*шторанку на сняданне*
*самыя гарачыя навіны ні аб чым*





Алеся Башарымава і Сольля Крапу

*жонцы кіроўцы аўтобуса патрэбная:*
*суседка,*
*цётачка з трэцяга пад'езду*
*да якой можна збегаць*
*пазычыць тры яйкі і крыху соевага соўсу*
*для рысу па-інданезійску — улюбёнай*
*мужавай стравы*
*і вось, на здароўечка,*
*і нічога-нічога,і які там клопат*

*суседцы патрэбны:*
*дворнік*
*што пасыпае пяском зледзянелую дарожку*
*і хутка ўжо гэтая зіма скончыцца*
*і хутка зноў уздыхнем з палёгкай*

*дворніку патрэбная:*
*дзяўчына што кажа прывітанне*
*з якой ён думае што фліртуе*
*— а што, усё яшчэ даволі прывабны —*
*і да таго ж джэнтльмен*

*дзяўчыне патрэбная:*
*найлепшая сяброўка*
*з якой яна балбоча па тэлефоне так доўга*
*што стамляецца рука*
*ну такая апупенная круць*
*і ты б толькі бачыла*
*і народу прываліла — такая дзвіжуха*
*і каму-каму а табе*
*можна даверыццазаўсёды*

*найлепшай сяброўцы патрэбная:*
*мама*
*якая дае занасіць новы гольф*
*хоць сама яшчэ ні разу*
*ў ім не хадзіла*
*і толькі глядзі мне*
*не гуляй да ночы і не забудзь пазваніць*
*і на дварэ вельмі холадна*
*і ты дакладна не хочаш,*
*каб я цябе забрала на машыне*

*маме патрэбная:*
*цырульніца, у якой яна заўсёды*
*робіць укладку*
*і можа зробім меліраванне*
*гэтым разам, можа падраўняем кончыкі,*
*і што вы будзеце рабіць на новы год,*
*і да мяне прыйдуць швагер са швагеркай,*
*і я ім заўсёды раблю запяканку*
*магу даць вам рэцэпт*

*цырульніцы патрэбны:*
*старэйшы сын,*
*які звычайна такі мілы са сваімі*
*брацікамі-сястрычкамі,*
*забірае іх з садочка, калі яна працуе*
*дапазна,*
*а часам нават адводзіць іх зранку,*
*хоць можа праз гэта*
*спазніцца ў школу*

*Я яго настаўніца*
*І яму патрэбная я.*

*Але калі я выганю яго з класа,*
*не ведаючы, чаму ён спазніўся,*
*можа быць, ён*
*больш не будзе глядзець*
*малых*
*і ў яго маці пачнецца стрэс*
*і яна папсуе валасы сваёй сталай*
*кліентцы*
*і тая ў кепскім настроі*
*больш не дасць панасіць гольф дачцэ*
*а тая пакрыўджаная збяжыць*
*да сваёй найлепшай сяброўкі,*
*якая пакажа фак гэтаму старому*
*распусніку-дворніку*
*і той плюне на сваю працу і не пасыпе*
*пяском дарожку*
*і цётачка паслізнецца і трэснецца*
*чэрапам аб бетонныя прыступкі*
*і не зможа ні рухацца ні хадзіць у краму*
*і не будзе ў яе ні яек ні соевага соўсу*
*так што ў яе суседкі рыс па-інданезійску*
*атрымаецца не такі як заўсёды*
*і ў яе з мужам пачнецца крызіс адносінаў*
*і тады яна першай возьме ранішнюю*
*газету*
*і яе муж —*
*кіроўца аўтобуса —*
*абразіцца*
*і ад'едзе роўна паводле раскладу*
*хоць я бягу*
*па наледзі*
*з сумачкай з торбай з пакетам*
*з партфелем з шалем*
*не паспеўшы*
*зашпіліць куртку*

*і проста з'язджае*
*і праглынуў пеўнік бабінку*
*і хто гэта цяпер*
*спазніўся*
*ў школу?*

**Пераклад на беларускую мову**
**Алесі БАШАРЫМАВАЙ**

## Вера Бурлак



### Напярэдадні

**(замест прадмовы)**

*Вытыркаюцца вежы, нібы цвікі*
*З адваротнага боку тонкае дошкі.*
*Хутка я зразумею, хто ты такі.*
*Засталося трошкі.*
*На змярканні крыж узнёсся ўгару*
*З надзіманым звонам спадніцы.*
*Ты зрабіў са мной гэта, і, калі не памру,*
*Абавязаны ажаніцца.*

**1. ВЕТЛІВАЯ**
*Прывітанне, мама!*
*Вось якая ты!*
*Ты, як я, таксама*
*Геній пекнаты!*
*Свет такі вялікі…*
*Свой — або чужы?*
*Нехта цягне рукі…*
*Ой, дапамажы!..*
*Я ў сваёй задачы*
*Выйшла з кропкі А.*
*Прывітанне, мама!*
*Дай мне малачка!*

**2. ПАРТЫЗАН**
*Я не хацеў выходзіць вонкі:*
*Я патрыёт сваёй старонкі.*
*І я падумаў: уцяку,*
*Хоць у кішку, хоць у руку.*
*Сябе прыклею, прывяжу,*
*Але — ні кроку за мяжу!*
*Мяне выкурвалі, як ліса,*
*Мяне круцілі — ледзь адбіўся,*
*Мяне, як джына заклiналi,*
*І выціскалі, і пiналi…*
*І вось яно — святло ў тунэлі…*
*Перамаглі! — каб вы згарэлі…*

**3. РАКЕТА**
*Я так сюды ляцела,*
*Што абганяла час!*
*Дашчэнту прапацела,*
*Раструшчыла абцас…*
*Ці жарты — з іншасвету!*
*Аж свіснула ўвушшу!*
*Я па жыцці ракета —*
*І гэта дакажу!*

**4. СНЯГУРАЧКА**
*Цёця! Цёця! Цёця!*
*Знайдзі мяне пад снегам!*
*Дзядзя! Дзядзя!*
*Машына! Машына!*
*Я жыла на зорцы —*
*І нарадзілася ў снег.*
*Верыш? — я не растану ўвесну:*
*У мяне гарачая кроў,*
*І я ўмею любіць.*

**5 і 6. ДВОЕ**
*Дзве нагі і дзве нагі…*
*Хто з нас першы, хто другі?*
*Па сакрэце…*
*(ціха! фельчар!)…*
*Шшшш…*
*ДРУГІ*
*ПАЛЕЗЕ*
*ПЕРШЫМ!*

**7. ДЫСІДЭНТ**
*Медсястра, са звышгрэблівай мінай:*
*«Посмотри, он ещё и сыт!»*
*І скруцілі мне рукі за спінай,*
*А вочы апёк альбуцыд.*

**8. Кесару — КЕСАРАВА**
*Опа! А я ўжо тут!*
*Сустракаюць афіцыйныя асобы.*
*А я нават не сабраў рэчы.*
*Я магу па іх вярнуцца?*
*А-а, вось і яны! Дзякуй!*
*Гэта што?*
*Навошта гэтая гума?*
*Не, дзякуй, я не галодны.*
*Стоп-стоп-стоп.*
*Чаму вы мяне скручваеце?*
*Чаму спаць?*
*Я не хачу спаць!*
*Што вы робіце?*
*Гэта гвалт!*
*Паклічце майго адваката!..*

**9. ЦЯЖКІ**
*Яны хацелі пачуць, як я плачу,*
*Яны хацелі пабачыць, як я жыву.*
*І, каб вырашыць гэтую задачу,*
*Доўга ламалі галаву*
*Мне. Абцугамі.*
*І косткі — маме.*
*Мая добрая, мая белая мама*
*Амаль нежывая ляжыць.*
*Не бойся: я важу 5 кілаграмаў!*
*Я заплачу. І мы будзем жыць.*

**10. ВЫДАТНІЦА**
*Мне адразу паставілі 10 па АПГАР.*
*Я прыйшла з усмешкай на твары,*
*Павіталася з дактарамі і сёстрамі*
*(Некаторыя страцілі прытомнасць),*
*Пацiснула руку маме,*
*Выпіла шампанскага з татам.*
*І першае, што мне зрабілі, —*
*Гэта вырвалі першародныя зубы.*

## Юля Цімафеева



### Зімой

*Шлях на працу — адкрыты космас.*
*Галава — у скафандры з думак.*
*Я — першая жанчына-касманаўт*
*на вуліцы Варанянскага.*

### Стрыптыз

*«Распранайся!»*
*Я зняла паліто і боты.*
*«Распранайся!»*
*Я зняла калготкі, спадніцу*
*і швэдар.*
*«Распранайся!»*
*Я скінула майткі і станік.*
*Стаю голая, як кветка.*

*«Распранайся!»*
*Я зняла сумленне.*
*«Распранайся!»*
*Я скінула гонар і годнасць.*
*«Распранайся!»*
*Няма ні надзеі, ні веры, ні любові,*
*Ні прагі, ні смагі.*
*Стаю голая, як зерне.*

*«Распранайся!»*
*Я скідаю адно за адным свае «я»,*
*І скідаючы, на іх станаўлюся,*
*І расту аж да самага неба.*

*«Распранайся!»*
*Я ўжо вышэй за дрэвы.*
*«Распранайся!»*
*Я ўжо вышэй за дахі.*
*«Распранайся!»*
*Я ўжо роўная з хмарай.*
*Лячу голая, як пёрка.*

*Апошняе «я» з сябе злушчваю.*
*Нікога не слухаю,*
*Распранаюся.*
*Галоўнае — не забыцца на тую «я»,*
*Што ў валасах схавалася.*
*Да апошняй кропелькі,*
*Да апошняй крошачкі*
*Вышкрабла, да апошняга з сябе*
*Вылузалася.*
*Распранулася.*
*Знік*
*Ла.*

### Не ўмець чытаць

*Гартаю кнігу, задумваюся,*
*Кім была б я, калі б не ўмела чытаць.*
*Дзіўна ўсвядоміць, як шмат ува мне з кніг —*
*Цэлыя пласты тлустага*
*ўрадлівага чарназёму*
*з сотняў, тысячаў тамоў,*
*старонак, абзацаў, радкоў і словаў.*

*Дажджавыя чарвякі сумневаў*
*варушацца ў рыхлай глебе,*
*лічынкі вершаў*
*адкладае туды натхненне.*

*Дык расціце на ёй, мае думкі, квітнейце,*
*імкніце да палымянага сонца, веды,*
*давайце сакавітыя плады і сабою ж*
*угнойвайце глебу для новых думак!*

*Але калі скіну гэты гумус,*
*калі пачну капаць глыбей,*
*адкрыю пясок і суглінак свядомасці,*
*не спынюся,*
*рыдлёўкай, рукамі,*
*зубамі здыму слой за слоем,*
*чарана, ніцшэ і кафку,*
*сартра, камю і капотэ,*
*купалу, чорнага, лорку,*
*буквар клышкі,*
*курачку-рабу — усё ад пачатку адрыну.*

*Сувязі гукаў раструшчу,*
*Выкалупаю выклічнікі,*
*дайду туды,*
*дзе ніколі не ўзыдзе,*
*дзе счарнее, згарыць,*
*спапяліцца*
*зерне рацыянальнага мыслення.*

*Што тады,*
*што знайду я ў зыркім гарачым ядры сваёй*
*сутнасці?*
*Ці дарэчы там будзе хоць адно пытанне?*

*Там, дзе плавяцца рэфлексы і крыкі,*
*дзе нельга і рот раскрыць,*
*дзе нельга і вочы расплюшчыць,*
*у гэтай зыркай, пякучай лаве*
*чужога сонца*
*ўва мне.*

*А таму беражыце мяне,*
*прачытаныя кнігі,*
*слой за слоем кладзіцеся,*
*творы,*
*каласіцеся, травы*
*прапісанай мудрасці,*
*каб не згінула,*
*не згубіла*
*ў жарным*
*прадонні свайго нутра*
*сябе.*

*Ды толькі капаца ў сабе*
*мяне навучылі*
*тыя самыя кнігі.*

БІБЛІЯТЭКА

# АЖЫЎШЫЯ ФРЭСКІ МІНУЎШЧЫНЫ

*Лідзія САВІК,*
**кандыдат філалагічных навук**

**З цікавасцю чытаю мемуары вельмі паважанага мною Станіслава Шушкевіча «Наброски первого», якія прыцягваюць аўтарскім бачаннем рэалій сучаснай беларускай гісторыі. Але ў мяне выклікае нязгоду фрагмент з рэзка адмоўнай агульнай характарыстыкай нашай творчай інтэлігенцыі, у тым ліку «писательского корпуса».**



Фота nv-online

Паколькі аўтар не робіць ніякіх агаворак наконт відавочнага факта, што цяпер у Беларусі творчая інтэлігенцыя (і пісьменнікі ў першую чаргу) сённяшнім рэжымам фактычна падзелены на «чэсных» (праўладных) і «нячэсных», амаль забароненых з прычыны сваёй прынцыповай патрыятычна-дэмакратычнай пазіцыі, то даводзіцца толькі здагадвацца, каго менавіта мае на ўвазе вядомы беларускі дзеяч. Сапраўды, у асяродку творчай (і не толькі) інтэлігенцыі нямала раўнадушных, глухіх да лёсавызначальных праблем абывацеляў, якіх насамрэч інтэлігентамі назваць нельга. Але колькі і сапраўдных творцаў, хто ўвесь свой талент і нястомную працу аддаюць слугаванню Беларусі, яе будучыні! Змаўчаць аб гэтым — па меншай меры некарэктна.

Не магу прыняць меркаванне, што «в белорусской художественной литературе практически отсутствует историческо-героический жанр», на якім выхоўваецца нацыянальная свядомасць беларуса. Аспрэчваюць прыведзенае сцвярджэнне шматлікія цудоўныя творы выдатных майстроў прыгожага пісьменства, якія стварылі ўражвальны мастацкі летапіс Бацькаўшчыны, раскрылі айчынную гісторыю ад самых старажытных яе вытокаў да падзей сучаснасці ва ўсёй яе складанасці і драматычнасці. І паперадзе ўсіх — магутная постаць сучаснага класіка, першаадкрывальніка многіх, раней малавядомых старонак у летапісе Радзімы Уладзіміра Караткевіча.

Не проста хаця б пералічыць «самыя-самыя» імёны пісьменнікаў, хто таленавіта і ўдумна змагаецца сваім пяром за вяртанне народу гістарычнай праўды, выхаванне нацыянальнай годнасці і вызначае сапраўдны твар сучаснай літаратуры. Ці ж можна не заўважыць, да прыкладу, яркіх, захапляльных кніг мастацкай і дакументальнай прозы Уладзіміра Арлова («Таямніцы Полацкай гісторыі», «Дзень, калі ўпала страла», «Адкуль наш род», «Асветніца з роду Усяслава»? А колькі новага даведаліся мы з раманаў Вольгі Іпатавай «Прадыслава», «Агонь у жылах крэменю», «Чорная княгіня», «За морам Хвалынскім», «Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедзіміна», «Альгердава дзіда», «Апошнія ахвяры свяшчэннага дуба», «Знак вялікага магістра»? Даследчыцкая карпатлівасць і дар апавядальніка ўкладзены ў ажыўшыя фрэскі мінуўшчыны ў творах Эрнеста Ялугіна («Мсціслаўцаў посах», «Апошні князь», «Ідзі і кажы», «Без эпітафіі»), Леаніда Дайнекі («Меч князя Вячкі», «След ваўкалака», «Жалезныя жалуды»), Генрыха Далідовіча («Кліч роднага звона»), Васіля Якавенкі («Пакутны век»), Віктара Карамазава («След на зямлі і поўня ў небе»), Уладзіміра Бутрамеева («Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі»), Радзіма Гарэцкага («Ахвярую сваім «Я»), Лідзіі Арабей («На полымі любві»), напісанай крывёю сэрца паэмы Зянона (Пазьняка) «Вялікае Княства».

Творы таленавітых сучасных пісьменнікаў годна працягваюць справу не так даўно пакінуўшых гэты свет знаных папярэднікаў — Івана Шамякіна («Вялікая княгіня»), Алеся Асіпенкі («Святыя грэшнікі»), Алега Лойкі («Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае», «Скарына на Градчанах», «Як агонь, як вада», паэмы «Белая вежа», «Лясун»), Кастуся Тарасава («Памяць пра легенды»), Валянціны Коўтун («Пакліканыя»), Уладзіміра Случанскага (раман «Драбы»).

Менавіта на захаванне нашай гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці працуе новы, надзвычай цікавы раман Алеся Пашкевіча «Сім победиши» (ён нядаўна апублікаваны ў часопісе «Дзеяслоў»).

Немагчыма абысці хвалюючыя мастацка-дакументальныя сведчанні таленавітых землякоў, былых вязняў ГУЛАГа — і найперш Сяргея Грахоўскага («Зона маўчання», «Такія белыя снягі»), Ларысы Геніюш («Споведзь»), творы Васіля Быкава пра сталінскія рэпрэсіі («Жоўты пясочак», «Чырвоныя пятліцы», «Аблава»)...

Не толькі проза, а і лепшыя ўзоры беларускай паэзіі ў натхнёных вершах і паэмах найвыдатных творцаў — Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Міколы Арочкі, Генадзя Бураўкіна, Васіля Зуёнка, Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Леаніда Дранько-Майсюка і многіх іншых паэтаў прасякнуты гарачай сыноўскай любоўю да роднай зямлі, роздумам над яе лёсам. З поўным правам яны могуць служыць дапаможнікам у вывучэнні нескажонай беларускай гісторыі, у сцвярджэнні ідэі Нацыянальнага адраджэння!

Гэты спіс, які далёка не вычэрпвае ўсё багацце гісторыкагераічнага пласта нашай літаратуры і чамусьці не прыняты да ўвагі С. Шушкевічам, можна доўжыць і доўжыць...



А энцыклапедычныя выданні па гісторыі Беларусі, што паспелі выйсці ў 90-я гады, калі наша краіна атрымала незалежнасць? Якраз тады даследчыкі ўпершыню (праўда, ненадоўга) былі дапушчаны да архіваў КДБ і, закасаўшы рукавы, узяліся за вяртанне забароненых савецкай уладай імён і твораў беларускіх дзеячаў і пісьменнікаў. Асобнымі выданнямі ў серыі «Беларускі кнігазбор» убачылі свет больш за 50 тамоў класікаў беларускай літаратуры і вядомых гістарычных дзеячаў, гуманітарыяў, вучоных. У іх, нарэшце, загучалі галасы К.Каліноўскага, І.Дамейкі, В.Ластоўскага, Я.Карскага, Ф.У.Радзівіл, А.Станкевіча, М.Улашчыка, А.Ельскага і іншых знаных асоб мінулага. Выйшлі ўнікальныя тамы «Расстраляная літаратура», «Старажытная літаратура», «Беларускія летапісы» і многае іншае.

Непрызнанне незлічоных скарбаў беларускай нацыянальнай літаратуры, магутных постацяў стваральнікаў духоўных багаццяў народа беспадстаўна перакрэсліває тое, чым насамрэч мы маем права ганарыцца і з чым нам ісці ў лепшае заўтра. Але мы яшчэ не навучыліся бачыць і асэнсоўваць тое, што маем і што павінна стаць посахам для душы кожнага грамадзяніна-патрыёта.

Не ацэнены як след, да прыкладу, грамадзянскі і пісьменніцкі подзвіг (так, подзвіг — не пабаюся гэтага высокага слова) сучаснага старэйшыны беларускай драматургіі Алеся Петрашкевіча. Падумаць толькі: сродкамі свайго жанру ён — адзін! — стварыў важкі мастацкадакументальны летапіс больш як тысячагадовай айчыннай гісторыі ад IX да XXI стагоддзя! На кожны век — па п'есе. У яго ёмістых кнігах драм і трагедый «Здрапежаная зямля», «Воля на крыжы» і іншых яскрава паўстае сапраўдная беларуская гісторыя — гісторыя змагання за Радзіму — ад часоў Рагвалода, Усяслава Чарадзея, эпохі вялікіх асветнікаў і святых — Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага. Адны назвы гавораць аб многім: «Гора і слава» («Русь Кіеўская»), «Меч Рагвалода», «Напісанае застаецца», «Тыпограф грэчаскі і славянскі», «Прарок для Айчыны», «Крыжовы шлях на Грунвальд», «Расплата за здраду», «Каралеўска-царская пастка», «Рупнасць дзяржаўцы», «Апошні збройны чын», «Прыласкаць и уничтожить», «Змова», «Наканавана быць прарокам».

Не спадзеючыся ўбачыць пастаноўку гэтых п'ес у тэатрах у сённяшні час — ці хаця б тэлевізійную іх версію, я параіла б усім пастарацца прачытаць іх, самім пабыць рэжысёрамі віртуальных відовішчаў па рэальных творах, бо яны даюць грунтоўныя веды пра нашу гісторыю ў персаніфікаваным выглядзе. А. Петрашкевіч пераканаўча сведчыць пра тое, як старажытную дзяржаву нашых продкаў нішчылі, спальвалі, заваёўвалі, апалячвалі, русіфікавалі, рабавалі то крыжакі, то польскія паны, то расійскія цары ды імператары, а потым бальшавікі. Далучалі нас гвалтам праз розныя ўніі і незаконныя акты то да Рэчы Паспалітай, то да Масковіі. Па жывым секлі, дзялілі і гандлявалі нашай тэрыторыяй, ператваралі то ў «Крэсы всходне», то ў «Северо-Западный край». Калектывізавалі, расстрэльвалі, высылалі ў ГУЛАГі, вынішчалі ў войнах і катастрофах і ў ХХ стагоддзі. Жорсткім, нечуваным тэрорам насаджалі на Беларусі бальшавіцкі лад розныя мясніковы, апанскія, кнорыны, імёнамі якіх, на здзек беларусам і на дзіва свету, дагэтуль названы вуліцы Мінска...

Пішу гэта, а сэрца баліць. Трэба ж: мноства майстроў нацыянальнай літаратуры ўсіх пакаленняў па крупінках, у астылым попеле забыцця і горах завалаў сваёй неймавернай, акрыленай працай здабываюць усяму свету праўду пра нас саміх, нашу гісторыю. Як можна рабіць выгляд, быццам нічога такога ў нас няма? Цяжка паверыць, што інтэлектуал С. Шушкевіч пра гэта не ведае, міжволі ўпадабляючыся «галоўнаму літаратуразнаўцу», які безапеляцыйна лічыць: маўляў, нічога вартага для шырокага тыражавання беларусы не стварылі, ды і ствараць нельга на іх нехлямяжай мове...

Дарэчы, наконт тыражавання. Калі ў 30-я гады беларускіх пісьменнікаў-«нацдэмаў» расстрэльвалі ці высылалі на дзесяцігоддзі ў ГУЛАГ, то сёння ёсць іншая форма расправы: імёны нацыянальна арыентаваных творцаў і іх творы замоўчваюцца, трапляюць у негалосныя «чорныя» спісы, не друкуюцца ў дзяржаўных выдавецтвах, часопісах і газетах. Аўтары, якія не тоўпяцца ля ўладнага карыта, змушаны на ўласныя сціплыя сродкі (а не на нейкія там міфічныя замежныя гранты) выдаваць усяго па 70–100 асобнікаў сваіх кніг у спадзеве, што напісанае ўсё-такі застанецца і будзе хоць калі-небудзь прачытана.

Мудрым і мужным, заслужаным перад Бацькаўшчынай майстрам пяра перашкаджаюць сустракацца з чытачамі, не ставяць іх п'есы ў тэатрах, не прымаюць іх кнігі ў кнігарні. З былога пісьменніцкага Дома, пабудаванага на сродкі Літфонду, выкінулі ўнікальную беларускую бібліятэку (цяпер там рэстаран), дзе былі сабраны тысячы тамоў з аўтографамі нашых літаратараў усіх пакаленняў...

Усё гэта робіцца дзеля таго, каб не дапусціць сапраўдную беларускую літаратуру да шырокай грамадскасці, вось яна і «практически отсутствует». Але гэта зусім не азначае, што ўсім, хто сябе пачувае беларусам, можна выракацца роднай мовы, не ведаць нашых мудрацоў, а потым казаць: ды ў нас нічога няма! Такі нацыянальны нігілізм, самаапляўванне толькі на руку тым, хто нішчыць усё беларускае. Міжволі ўсплывае ў памяці абвергнутая Янкам Купалам, які фактычна і распачынаў паэтычны эпас у нашай літаратуры, старая показка:

*Кожны край мае тых,*
*што апяваюць,*
*Чым ёсць для народа*
*ўпадак і хвала,*
*А беларусы нікога ж*
*не маюць,*
*Няхай жа хоць будзе*
*Янка Купала.*

Вялікі наш Прарорца і народны Пясняр усёй сваёй геніяльнай творчасцю яшчэ на пачатку ХХ стагоддзя апантана працаваў на ніве гістарычнай праўды, закладваў трывалыя традыцыі для сваіх паслядоўнікаў зусім не дзеля таго, каб зараз зноў пайшло гуляць па свеце далёкае ад рэальнасці «А беларусы нікога ж не маюць».

Запрашаю ўдумацца ў словы аднаго з герояў «Здрапежанай зямлі» Алеся Петрашкевіча: «Цывілізаваны свет чакае, ці хопіць у насяленцаў падмандатнай расійскай тэрыторыі жадання, здольнасці і мудрасці пераадолець вякамі прывітую памяркоўнасць, абыякавасць да свайго далейшага лёсу і зрабіць вырашальны выбар — ці застацца народам, нацыяй і вярнуцца да сваіх каранёў ды, закасаўшы рукавы, будаваць сваю незалежную, вольную, суверэнную, а можа, і нейтральную еўрапейскую краіну пад Пагоняй, ці запрадацца, а затым рассеяцца і распыліцца паміж чужымі. Дык не спяшайцеся ж развітацца з Радзімай, пачуйце, пачуйце не толькі Еўропу, але і саміх сябе. Пачуйце!..»

Я гатова падпісацца пад гэтымі словамі. І, ведаю, не толькі я. Спраўдзіць гэты запавет здолеем толькі разам, моцна ўзяўшыся за рукі на шляху да святла.

Першадрук — «Народная воля»

ВЕРШЫ

# ДЗВЕРЫ ЗАМКНЁНЫЯ

Славамір АДАМОВІЧ


Фота sthiya-literaturnyj.deal.by

## Чуеш, вясна!

*Героям вайны за сваё*

*Чуеш, вясна! І чуеш, запахла крывёю*
*у пераходзе пад плошчай імя Кастуся!?*
*Чуеш, запахла ў Краіне крывавай вясною*
*і зарымела трывожна ў тонкіх*
*і тоўстых касцях!*

*Змоўклі паэты, як птушкі,*
*пачуўшы грымоты,*
*і на шалманах затухла на раз блатата.*
*Вось і настаў ён, час брудный,*
*няўдзячнай работы.*
*Час, калі ў поле выходзіць суровы ратай.*

*Сеяць ён будзе крывавае зерне тэрору,*
*ды не таму, што не мае з чаго сабе жыць.*
*Проста ёсць Гонар, які патрабуе адпору*
*гвалту і здзеку з таго, што мы*
*хочам любіць!*

*Гэты ратай, гэты сейбіт сталёвай*
*карцечы,*
*працу сваю распачаўшы, не кіне яе*
*аж да пары, калі ўрэшце расправім мы плечы*
*і на магіле варожай свой гімн запяем.*

*Чуеш, вясна! Гэтым разам*
*крывавыя кветкі*
*будзеш ты бачыць на кожным*
*абжытым двары*
*і, заціскаючы ў пальцах лязо*
*ленінградскай жылеткі,*
*крокі апошнія зробіш з лядком у нутры.*

**2011, Менск**

## Пра слабасць

*Надта ж хочацца быць слабым,*
*вельмі хочацца знікавець*
*і любіць сябе ў промнях славы,*
*а ў палітыцы — спраўна лявець.*

*Бо ад слабага хто там чакае*
*грозных подступаў і вымог?*
*Слабых любяць і прывячаюць,*
*толькі моцным — ні на парог!*

*Слабых лашчаць, у слабых песцяць*
*слабасць, быццам бы гонар які,*
*а як толькі слабы ўваскрэсне —*
*рэжуць моцнага на рамяні.*

*Вось чаму я і гэтай восенню*
*час ад часу хачу слабець...*
*Толькі ўсё гэта думкі ўскосныя,*
*не чакайце — буду мацнець!*

**8 лістапада 2010, Менск**

* * *

*Добрага дня добраму целу!*
*Целу такому аддаў бы любоў*
*сваю да апошняй кроплі даспелай,*
*а калі трэба — і сваю кроў!..*

* * *

*Будуючы свой беларускі Рым,*
*вучыся адразу, як бараніць,*
*бо калі вораг ужо ў дзвары,*
*адно застаецца — яго біць!..*

* * *

*Ну нарэшце і я стаў дарослым:*
*грошай зарабіў, стаўлю помнікі*
*па бабе з дзедам, па дзядзьку, па хросным;*
*даводжу да ладу сямейныя хронікі...*

* * *

*Свой дзень святкуй са зброяй у руках*
*і з кветкамі, і з песняй...*
*Усё астатняе пайшлі далёка нах,*
*каб МЫ ўваскрэслі...*

* * *

*Рэкламу пра два флаконы ў адным,*
*дальбог, прыдумалі нашы:*
*і два «язык» ў нас, і дзве душы —*
*заўсёды і нашым, і вашым...*

* * *

*Знак сонца — свастыку — як ні забараняй —*
*не забароніш, не забаніш словам!*
*Не мае сілы ні сіён, ні райх*
*над вечнасцю, праменнай адмыслова...*

* * *

*Курасоўшчына. Кастрычнік. Першы снег.*
*Я заўчора крыху выпіў з землякамі,*
*а пасля карцела здзейсніць цяжкі грэх —*
*толькі змучыўся, блукаючы кругамі...*

## Дзверы, замкнёныя на ключы

*...і гэта ўсё, што ты змог у свае 25 —*
*назвацца паэтам?*
*Ты думаў, на паэтычнай ніве*
*выжыць прасцей,*
*чым ваяваць з моцнымі гэтага свету?..*

*Не, мне не шкада, пішы сабе,*
*але ці гатовы ты*
*аднойчы адзін на адзін за домам*
*Ваньковіча*
*выстаяць супраць жалезнага прэнту?*

*Бач ты, які рызыкант, зарымела душа*
*маладзёна*
*да паэтычнае славы,*
*ці, можа, здалося наўскідку,*
*што хлеб свой надзённы*
*лягчэй зарабіць, калі наблатыкацца*
*шрайбаць*
*сякія-такія пісьмёны?*

*Юнача зялёны!*
*Я мушу сказаць табе коратка, як адрэзаць:*
*пакуль не адчуў ты подыху роднай*
*зялёнае пушчы,*
*не варта ляпіць з аскалёнкаў чужы развін-*
*тажаны дрэздэн.*

*Паэзія — не прастытутка,*
*не спіць яна з кім папала,*
*бо, як любіў казаць адзін мой*
*барысаўскі сябра,*
*які родам з Буды крывіцкай, — тутка*
*нават кахання мала,*
*так што, бывае, лепш бы паэту зарвала,*
*каб голас ягоны, а тым больш словы,*
*пакладзеныя на паперу,*
*не адбіралі ў людзей апошнія*
*дробы веры*
*ў прыгожае,*
*у гарманічнае суаднясенне словаў, думак,*
*інтэнцый*
*у глыбінях эмоцыяў*
*і на пад'ёме да метафарычных*
*фартэцыяў!*

*Малады чалавек, не трэба,*
*лепш не цвяліце.*
*Лепш насычайце кальцыем свае*
*маладыя ж рэбры.*
*Пішыце штодня ў дыярыюш*
*і дасылайце каханым*
*пісьмы звычайнай поштай.*

*Займіцеся ўласным стылем*
*і выхаваннем пагарды*
*да цэлулоідных рэчаў,*
*і перш чым падаць голас*
*у каралеўстве Паэзіі,*
*прыслухайцеся да таго, што, магчыма,*
*ёсць у вас — у табе...*

*Чуеш? Здаецца, яно прасіпела нешта такое*
*цмянае,*
*а ты паспрабуй цяпер запісаць гэта*
*ў белым полі*
*А-4 фармату*
*прыгожымі складнымі фразамі,*
*бліскуча зарыфмаванымі,*
*і, можа, тады адчыняцца*
*дзверы, замкнёныя на ключы...*

**16 чэрвеня 2011,**
**у рэжыме Палярнага Дня**

## Байкот!

*Усяму, што расслабляе,*
*абнадзейвае і знішчае павагу*
*да саміх сябе — байкот!..*

*Тым, хто лічыў цябе «дэмакратам»*
*— байкот!*
*І тым, хто «антысемітам» — байкот!*
*Байкот недавяркам з усіх бакоў*
*і тым, хто гатовы праліць тваю кроў!*

*Байкот свалаце так званай маральнай!*
*Байкот «праўдалюбам» кодлы*
*кабальнай...*
*Калі ты мужык — заяві байкот!*
*Інакш — толькі станкавы кулямёт!..*

*Пасля байкоту — суровы кулак*
*у лепшым выпадку, а ў горшым — так-так —*
*вайна на вуліцах гарадоў,*
*хаос рэвалюцый, нявінная кроў...*

*Байкот! — калі хочам дабра для ўсіх.*
*Байкот! — каб вылечыць гэты звіх*
*гісторыі ў цэнтры Еўропы старой...*
*Байкот! — я сказаў, хто не згодны*
*са мной?..*
*Ну, хто яшчэ на выбарЫ,*
*каб жыць і далей у прахОдным двары?*

**7 чэрвеня 2010**

* * *

*У пяцьдзясят, як і ў дваццаць пяць,*
*гатовы я любіць і нават закахацца,*
*і раздаваць з энергіяй нястомнай*
*любоў сваю жывую бессаромна!*
*Валодаю я толькі тым адным,*
*што ведаю, як цалаваць перадусім...*
*Ё таямніца простая ў мяне:*
*любі заўжды як-быццам на вайне.*
*Ты і яна, і ў вас адна хвіліна*
*на ўсё пра ўсё, і не забыць пра сына, —*
*таго, які ўжо прыйдзе па вайне,*
*ды без цябе, паэт, ды без цябе...*

**7 сакавіка 2011,**
**Курасоўшчына, Менск**

* * *

*Чытаючы біяграфіі*
*Марыі і Кнута Гамсунаў*

*Сустрэць нарэшце сваю Марыю,*
*гэта радасць вялікая.*
*Марыя ў дзень апошні памые*
*і радню на хаўтуры паклікае.*

*Яна народзіць, яна ўзгадуе*
*тваіх нашчадкаў; твае ідэі*
*кухонным клопатам не зруйнуе, —*
*імі мацней чым ты захварэе.*

*Твая Марыя — твой скарб да скону;*
*яна любога цябе стрывае;*
*яна, калі што, зберажэ ад спарону*
*тваё жыццё, бо яна кахае.*

**5 ліпеня 2010,**
**запалярная Нарвегія**

* * *

*Я рабіў бы табе прыемнае,*
*цалаваў бы, напрыклад, ножкі,*
*спадзеючыся на ўзаемнае*
*пачуццё, і яшчэ трошкі...*

*Думаю, ты была б задаволена, —*
*больш за тое — пела б ад радасці...*
*Было б табе мною ўсё дазволена,*
*акрамя аднаго — духам упасці.*

*Бо жыць са мною, тым больш у любові —*
*трэба моцныя воля і нэрвы...*
*Я не люблю браць жанчыну з боем —*
*люблю любіць яе без пярэрвы.*

*Я рабіў бы табе, жанчына,*
*добра-добра, да радасных слёзаў,*
*толькі і ты не забывайся*
*пра свайго мужчыну*
*і час ад часу купляй яму новыя лёзы.*

**24 ліпеня 2011**

* * *

*Мы супраць, таму што мы за сваё,*
*сваё без папраўкі на ўмовы —*
*спынямся раны свае залізаць,*
*а потым ізноў на ловы.*

*Варожая зграя спрабуе нас*
*узяць на нашых тэрэнах,*
*ды толькі важак прахрыпеў нам: атас!*
*трымаць адкрытай арэну!*

*У нашых пушчах толькі сукІ*
*для сук перакінутых знойдуцца.*
*Хай мы ваўкалакі, ды не прусакі,*
*і вораг пад намі зойдзецца...*

8 сакавіка Славамір АДАМОВІЧ адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. Шчыра жадаем яму моцы, радасці і кахання!

▸ ФРАГМЕНТЫ

# У СВЯТЛІЦЫ КНЯЗЯ ІЗЯСЛАВА

## З РАМАНА «РУРЫКАВІЧЫ І РАГВАЛОДАВІЧЫ»

Беларуская гісторыя і культура такія даўнія, разнастайныя ды багатыя, што ў іх кожны год шмат значных юбілеяў. Вось і сёлета. Самы вялікі! 1150 гадоў! Не, не Полацку, а толькі таму часу, якім пазначана, што крывіцкі горад быў ужо! Значыць, маці гарадоў нашых... Каб зацікаўленым больш даведацца пра гэта, варта зазірнуць у грунтоўныя гістарычныя даследаванні Г. Штыхава, М. Ермаловіча, У. Арлова.

Я заканчваю раман пра лёс шасцярых дзяцей наўгародскага, а потым вялікага князя кіеўскага Уладзіміра і полацкай князёўны, а затым вялікай княгіні кіеўскай, а ўрэшце ізяслаўскай ці полацкай манахіні-чарніцы Гарыславы-Рагнеды-Анастасіі. Прапаную ўвазе чытачоў старонкі з гэтага твора — пра тое, як і чаму мог Уладзімір другі раз наведацца ў тагачасны Палацеск. Да сына Ізяслава…

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

### 1



— Бачыш, журній (маркотны) я. Турбота важкая пагнала мяне з Кіева, — пасля нядоўгага маўчання пастукаў вялікім пальцам па стале Уладзімір. –Напасць вялікая насоўваецца на мяне і хутка наляціць хмарай чорнаю...

— Зноў — печанегі? — здагадаўся Ізяслаў. Яны вось ужо каля ста гадоў трымаюць Кіеў у напрузе. То нападаюць, то саюзяцца, але саюзнікі ненадзейныя. Цяпер ярыя Уладзіміравы ворагі. Першы раз маглі расправіцца з ім, калі яго бацька заваёўваў балгарскія землі (каля 968 г. — *Аўтар.*) і ня асадзілі ў Кіеве княгіню Вольгу з унукамі. Праз гады чатыры яны па нашэпце і подкупу візантыйцаў падпільнавалі яе мужа, Святаслава, калі ён вяртаўся дамоў, і загубілі яго. Ужо некалькі разоў уступаў з імі ў бой і Уладзімір.

— Печанегі, сын. Восем іхніх каленаў збіраецца, каб расправіцца са мной. Ворагі даўнія, вої смелыя і лютыя. Вось еду ў Ноўгарад сілы збіраць для адпору. Можа, і ты падсобіш? Хоць дружынай?

— Ты добра ведаеш: сілы вялікай мы не трымаем, — адказаў Ізяслаў. — Ды нам ніхто не пагражае, і мы вайны ні з кім, як ты даў наказ, пачынаць не будзем. Мы — аратыя, дойліды, кавалі, гарбары, каменшчыкі, рыбаловы, паляўнічыя, купцы. Дзетак кемных вучым чытаць і пісаць.

— Ты — дбайлівец, добра агаспадарыў Палацеск. За кароткі час ён стаў людны, — згадзіўся Уладзімір, змоўчваючы, што той, стары, Полацк разбурыў і паліў ён. А каб не спустошыў, не абязлюдзіў, то сёння ў ім мо было б каля 10 тысячаў насельнікаў, што зрабіла б яго вялікім горадам нават на далёкіх прастранях. — Спраўна гаспадарыш, разумна з суседзямі ладзіш. І з варагамі дружбуеш. З радні Олава Тругвасана жонку ўзяў. — І пакрыўджана: — На вяселле бацьку не паклікаў...

«Думаў паклікаць, але маці і баяры адгаварылі, — мог адказаць Ізяслаў. — Сказалі: не трэба тут ён. Не будзем кланяцца яму. Ды тады, на гулянні, што магло б быць? Ці абышлося б без помсты, без нажа якога-небудзь смельчака альбо без атруты кухара?! А гэта — новая бітва...».

Іначай апраўдвацца Ізяслаў не стаў.

— Ладна, — незласліва прамовіў Уладзімір. — Не будзем жыць толькі з крыўдай і помстай! Але ведай: не будзе мяне (па-вашаму, ліхадзея для Палацеска) — цяжка стане і табе, сын... Ты — адрэзаная скіба, ды я берагу і цябе... Ты — усё ж мой сын, Рурыкавіч. І дзеці твае будуць Ізяславічы-Рурыкавічы. Адно дрэва. Ці мо і ты лічыш: ты, як і Святаполк, — не мой, а Яраполкаў?

— Не, я так не лічу. Я, як нікому, веру маме. Выбачай, яна сказала мне, што хацела выйсці замуж за Яраполка, але дасталася табе цнатлівай... Таму дазволь выказаць табе просьбу запаветную, вялікі князь-бацька, — Ізяславу мільгнула думка спажыць бацькаву лагоднасць (а той ажно павесялеў, калі нарэшце пачуў жаданае слова). — Вярні нам Віцепск і Усвяты. Цяжка нам без іх. Замінка вялікая па Заходняй Дзвіне ў дняпроўскі шлях з варагаў у грэкі. Клянуся: ні Ноўгараду, ні Кіеву перашкоды ад гэтага не будзе.

Уладзімір лагодна ўсміхнуся, пахітаў галавой:

— Во-во! Не зусім дарэмна перасцерагаюць мае баяры: ты ўжо асмакаваўся княжыць, набіраць сілу. І хочацца ўсё больш і больш. Грозен, сын, становішся! Ды з палацескімі памяццю і гонарам! Усвяты і Віцьбеск цябе яшчэ больш амацуюць, адкрыюць шлях на Смаленск... Ды і небяспека Пляскову (Пскову) і Ноўгараду...

— Нам трэба ўсяго толькі звязаць канцы разарванага.

— Разумею, усё разумею, сын, — уздыхнуў Уладзімір. — Як ужо сам ты пераканаўся, я не проста саслаў цябе на край крывіцка-палацескай зямлі, дазволіў там мецць свой град — Ізяслаўль. Я хацеў пабачыць, як на цябе паглядзяць вольналюбівыя дрыгавічы. Калі ўпусціў цябе ў Палацеск, то ты ўзвысіўся — пад тваёй рукой апынулася нямала памежных, а то і дрыгавіцкіх земель уніз па Свіслачы, за Менеск і Нямігу, па сушы (Лагойск), па Бярэзіне (Барысаў). У іншы бок — да Дняпра (Орша, Копысь, — устаўкі з назвамі гарадоў мае; даследчыкі маюць розныя думкі, калі, як гэтыя і іншыя гарады апынуліся ў складзе Полацкай зямлі. — *Аўтар.*), па лясы з аўкштайтамі і па азёры з латгаламі. І табе мала гэтага? Святаполк з Турава вушы мне прагудзеў: ты прагна і на некаторыя іншыя дрыгавіцкія абсягі ўжо замахваешся! А хіба ты з маімі даннікамі, радзімічамі, не шэпчашся? — паківаў перад ім пальцам. — Асцярожна, сын! Не парабольш! Ты і так немалую дзяржаву маеш! Пакінь мроі, каб злучыць палацескіх, а то і ўсіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў насуперак Кіеву! Буду я жывы ці не, а гэтага Кіеў ніколі не дапусціць!

— У мяне няма такіх мрояў, — апраўдаўся Ізяслаў.

— Калі няма ў цябе, то будуць у тваіх наступнікаў, — пераканана сцвердзіў Уладзімір. — Я табе скажу больш: мае баяры былі не супраць даць табе Палацеск, але яны скрыгочуць зубамі, што ён не ў нашых руках, а сам па сабе і расце, мацуецца. Дык май тое, што маеш: іначай страціш і яго. Не скажу, спраўны гаспадар, але будзь яшчэ і спраўны палітык. А што да Віцьбеска і Усвят, то... Не пра іх мне цяпер баліць галава, а пра вайну з печанегамі. Дык пакіну сям'ю ў цябе, а сам паімчуся да наўгародцаў, чудзі, весі, каб набраць там сілы. Ды і з маімі «любымі» варагамі трэба паразумецца... А за гэты час, думаю, прыйдзе падмога з Растова, ад мурамы, вяцічаў, куды паслаў баяраў.

«І ты, бацька, не такі ўжо дальнабачны палітык, — не цярпелася сказаць Ізяславу. — Пралічыўся ты. І не раз. З варагамі не паладзіў яшчэ тады, калі яны памаглі табе ўзяць Палацеск, сесці ў Кіеве на вялікакняжскім пасадзе, а ты іх падмануў. Меўся даць ім па дзве грыўны з кожнага кіяўляніна — і не даў. Столькі цягнуў ката за хвост з абяцанкамі, што яны са злосці плюнулі і сыйшлі ў Візантыю. А ты наўздагон паслаў грамату базілеўсам: асцерагайцеся гэтых варагаў, не пакідайце іх гуртам, а падзяліце іх і разашліце па розных мясцінах! Мог мець падмогу і ад ляшскага Баляслава, але той у крыўдзе: ты адмовіў яму ўзяць за жонку дачку Прадславу. А шлюб гэты быў бы вельмі выгадны табе. Дый Ноўгараду будзе няпроста дапамагчы: на паўночныя яго землі хлынулі нарвежцы і ці не скарылі ўжо Ладагу».

— Вось што, сын, — папрасіў Уладзімір. — З «маімі» варагамі буду сам дамаўляцца, а ты складзі грамату да Олава Тругавасана. Папрасі пакінуць Наўгародскую зямлю ў спакоі і памагчы мне. Калі не самому, дык сілай іншых конунгаў і ярлаў (як пазначаюць даследчыкі, новая вырашальная бітва Уладзіміра з печанегамі адбылася ў 997-ым. Значыць, ён мог наведацца ў Полацк у снежні 996-га. — *Аўтар.*).

— Напішу, — не мог не згадзіцца Ізяслаў і заадно падступіўся да яшчэ адной запаветнай сваёй мары. — Дазволь, князь-бацька, папрасіць у цябе яшчэ пра тое, што ад цябе не патрабуе ніякіх турбот... Табе трэба сказаць толькі адно слова: «згодзен»...

Той схмурыў бровы: мабыць, адчуў, якая яго просьба.

— Пра хрысціянскую міласэрнасць тваю шырока ходзяць легенды, — пачаў захвальваць Ізяслаў. — Дык праявi яе і да мяне з маці. Не супярэч, каб яна жыла ў Палацеску.

Уладзімір незадаволена памаўчаў, а затым пазлараднічаў:

— А хіба ты не парушаеш мой наказ? Хіба не часта бачышся-шэпчашся з ёю?

— Які быў бы я сын у вачах палацескага, ізяслаўскага і іншага люду, каб занядбаў гаротную маці? — У Ізяслававым запытанні быў і схаваны папрок. — Які чалавек? Хрысціянін?

— Яна ненавідзіць мяне?

— Зусім не. Яна і за цябе моліцца.

Уладзімір ажно ўстрапянуўся ад такой нечаканасці, зноў, але на гэты раз задумліва памаўчаў, а затым раптоўна перакінуў віну на яго:

— А чаму ты пра гэта ў мяне просіш? Чаму не ў вашага япіскапа? Яна — манашка. А дзе жыць ёй, тут альбо ў Ізяслаўлі, пра гэта найперш рашае ён, яе пастыр... Выбачай, але мне няма часу на размовы з ім... Нават выслухаць яго скаргі на тое, што ты не зусім шчырун новай веры...

— Я не насаджаю яе гвалтам, — не столькі апраўдаўся, колькі патлумачыў Ізяслаў. — Ды нельга ж так — узяць і ўсё па-жывому перасекчы. Трэба ж, каб і засталася нейкая повязь з даўнім.

— Але нібыта шмат патураеш старавернікам.

— Як каму, — спакойна, са знакам нязгоды адказаў Ізяслаў, бачачы, што цяпер бацьку мала цікавіць, як ён адносіцца да новай веры. Тым больш ведае, што новую веру прапаведуе больш за іншых маці. — Ну, як быць супраць вешчуноў? Яны не толькі моляцца, пяюць песні старым багам, але і стараюцца прадказаць ліха і біду. З імі, як ведаю, раяцца і ўсе хрысціянскія ўладары. Канечне, яны не ўратуюць ад засухі ці лівяў, ад чорных хвароб. Ды чалавеку лягчэй, калі яму нехта хоць паспачувае. А як не паважаць зялейнікаў, якія ведаюць сакрэты лекавых зёлак і, бывае, добра лечаць? Не бачу бяды вялікай ад варажбітоў, баянаў, абяржэнікаў. Без іх сумней жылося б. А вясёлыя і сумныя святы: Каляды, Масленіца, Гуканне вясны, Сёмуха, Купалле, Дзяды? Хіба гэта горш, страшней, чым некалі ў Рыме, дзе цешыліся крывавымі баямі, забоўствамі гладыятараў?! Ну, а пра ведзьмакоў, ваўкалакаў — гэта найбольш паданні і казкі. Але і яны трэба. Япіскап наш прапаведуе пакорлівасць, а сам нецярпімы, абзывае дзікунамі...

— І мяне, думаеш, Канстанцінональ усё яшчэ не лічыць дзікуном? — усміхнуўся Уладзімір.

— Лічыць. Бо для яго ўсе славяне цёмныя і адсталыя. І няхай сабе фанабэрыцца. А мы яму ўцерлі нос. А далей — яшчэ больш... — Усміхнуўся: — Хоць і мы — не лепшыя... Не лічым, апроч Кіева, Палацеска і Ноўгарада, не толькі язычнікаў, але і іншыя плямёны нявартымі людзьмі? Бо нават не нашымі дзядамі заведзена: калі хочаш каго падуладзіць, спачатку пачынай яго знеслаўляць, прыніжаць, а сябе ўзвышаць... А раз ты вышэйшы, то і маеш права на іх. Каб абчалавечыць... Вось таму і ваш япіскап нецярпімы... Хоча хутчэй стаць пастухом над паслухмяным статкам...

— ...Не чапаю тых, хто па старому звычаю спальвае цела нябожчыка і попел у скрыначцы выстаўляе на перакрыжаванні дарог, — Ізяслаў перавёў гутарку на іншае: — Але строга караю мнагажэнцаў. Тых, хто забівае жонку нябожчыка і спальвае разам з ім. Не дазваляю кроўную помсту, біць удаву, калі яна ў плакальніцу мала нальле слёз. Забараніў дзецям і ўнукам вывозіць у пушчу і пакідаць там састарэлых, нямоглых бацькоў і дзядоў. Натхняю адступіцца ад такога дзікунства, а шанаваць старых. Як магу, стараюся, каб было чым болей пісьменных людзей. І іх ужо нямала. Ужо не толькі я ці многія баяры, але і нямала мужоў знатных пішуць адзін аднаму на бяросце граматы. А навучаным напісанню отракам загадваю запісваць ад мудрых старцаў пра знакі начнога неба, зорак, прыкметы надвор'я, пра тое, што і калі трэба сеяць ды садзіць. А каб новая вера глыбей укаранялася, япіскапу патрэбныя не столькі нараканні, гнеў, садзіць люд у цёмнае і сырое падземелле на ланцуг, а больш праяўляць цярпімасць, спагаду, любоў душой і словам Божым... Хоць калі ведзьмяру ці вядзьмярцы звязваюць за спіной рукі, начэпліваюць на шыю цяжкі камень і кідаюць у ваду, то ён гэтага нібы не бачыць... А гэта ж — самасуд, чаго не павінна быць у дзяржаве... А што да новых храмаў, то ідзём яму насустрач: хутка пачнем будаваць дзве царквы святой Багародзіцы: адну — у Друцеску, другую — тут.

Уладзімір нічога асобна не сказаў пра аднаго са сваіх назіра-чоў-даносчыкаў. Пасля дастаў з сярэдзіннай кішэні каптана аксамітны бурачковага колеру каптурык і з гарэзным бляскам у вачах падаў яго сыну.

— Пацягні за гэтыя шнурочкі, — паказаў вачыма.

Ізяслаў тузнуў за шаўковыя повязкі — каптурык раскрыўся, а там — пячатка. Дастаў яе, а на ёй пацеркамі абазначана колца, а ў ім — княжацкае клейна і яго імя па-грэчаску, напісанае кірылаўскімі літарамі. Значыць, адобранае ў самім Царгорадзе.

— Вось цяпер, сын, ты — паўнапраўны князь, — хацеў парадаваць Уладзімір. — І нашчадкі твае будуць паўнапраўнымі. Значыць, любімая табой з маці Палацеская зямля — вольная, паўнапраўная дзяржава: вы ўжо не на словах, а вось доказам для ўсіх краёў прызнаныя і Кіевам, і Візантыяй!

Я хацеў перадаць гэта табе перад усёй знаццю ў Кіеве, але ты не пажадаў наведацца... Так што, папраўдзе, пакіньце нянавісць да мяне: як бачыш, грэх свой яшчэ раз замольваю... Толькі... — схмурыўся. — Толькі, паўтаруся, не алчнічай на суседнія землі, што на ўліку ў Кіева...

Уладзімір, абапіраючыся на стол, цежавата падняўся. Хутка стаў на ногі і Ізяслаў. Бацька цяпер адмыслова, па-новаму прытухлымі вачыма агледзеў яго — нібы не ўзнёсла, як, бывае, без слоў, але ўсцешліва радуецца бацька за сынаву ўдаласць. Не, ён не раўнуе, але ведае: зайздросціць, шкодзіць будуць іншыя, каму яна, гэтая ўдаласць маладога, нажом у сэрца.

— Я веру табе, сын, — прамовіў Уладзімір. — Сам убачыў: не жывеш помстай...

— Дзякуй, — схіліў галаву Ізяслаў. — А я рады, што мы пабачыліся і пагаварылі. Што адсунуўся ён, недавер... А што да помсты, то яе ўжо даўно няма. Ты ў 6495-м (987-м ад нараджэння Хрыста. — *Аўтар.*) зрабіў правільны выбар. Хрысціянства ўжо само ішло да нас...

— І табе дзякуй, — таксама пакланіўся Уладзімір. — За разуменне тваё...

— Усё будзе добра, — нязмушана ўсміхнуўся Ізяслаў. — А печанегаў адаб'еш. Ужо адно тваё імя шмат значыць.

Бацька, здаецца, размякчэў. Ёсць такая рыса ва ўладных, жорсткіх людзей — чуллівасць у пэўныя, асабліва пяшчотныя хвіліны. Вось і ў таго нагарнулася на вочы слёзная павалока.

— Палацеск будзе ганарыцца табой, — прызнаў Уладзімір. — Канечне, найперш як Рагваладавічам па кудзелі. І ты ўжо заслужыў гэта. Ты і вялікім князем кіеўскім спраўным быў бы. Старэйшы з вас, Вышаслаў, не мае таго, што маеш ты.

— Ён быў, ёсць і будзе першым. Я на Кіеў не пасягаю і не буду пасягаць.

Ясней яснага: ісці туды — весці за сабой, як цяля на вяровачцы, і Полацк. Памрэш — будзе іншы вялікі князь, хай сабе і твой сын, а вось Полацк застанецца пад уладай Кіева. Усяго толькі як удзельнае яго княства. А вось сённяшні яго падмурак можа быць і для свайго вялікага гмаху...

— Давай, сын, абдымемся на развітанне.

Прытуліліся. І па паніклых бацькавых плячах, слабым поціску рук Ізяслаў найбольш адчуў: той — таксама зямны, ужо аслабелы чалавек.

— Беражы сябе, пра сыноў дбай, — адхіліўшыся, даў наказ Уладзімір. — А маці твая... Зямля нас парамірыць. А судзіць будуць там... — Паказаў пальцам на столь. — Яна — вялікая жанчына... Ва ўсім... Я такой красы жаночай і моцы духу чалавечага больш не ведаю... Калі цяпер ёсць праведныя на грэшнай нашай зямлі, то яна — з іх. А Саламон сказаў: «Праведницы в веки живут, и от Господа мзда (узнагарода) их, и строение (клопат) их (пра іх) от Вышнего...».

...Што да Рагнеды, то япіскап адмахнуўся ад Ізяслававых назойных просьбаў: не я ссылаў тваю маці ў Ізяслаўль, а вялікі князь кіеўскі як злачынцу вялікую. Дык няхай у паўзямлянцы-келлі адмольвае свае грахі. А супраць яго волі я не пайду...



Помнік «Рагнеда і Ізяслаў»

## 2

Сюды, у княжскую трапезную, пакаёвая прывяла дзве маладыя жаночыя асобы. Ужо дарослую дзяўчыну і падлетка — Прадславу і Праміславу. Абедзве, як і іхні бацька для чужога вока, не ў княжскім убранні, а кожная ў незвычайным — не зусім святочным персідскім зялёным, з чырвонымі вышыўкамі сарафане паверсе ліловай паддзеўкі, у зялёна-чырвоных скіндачках. А вось на валасы і твар яны былі даволі розныя. Старэйшая сястра — русявая, з глыбокім блакітам вачэй, ужо з расквітнелай жаночай грацыяй і красой — праўда, «выкапаная маці». Толькі з юначай гібкасцю, свежасцю яркіх веснаў і поўнеькіх шчок, жвавасцю позірку, яснасцю лоба, хараша ўзнятых грудзей і акругленых клубоў. І вельмі харашаў яе твар якраз падабраны да яго маці-прыродай роўны прадаўгаваты нос. Канечне, зусім не выпадкова ляшскі Баляслаў закахаўся ў Прадславу і занудзіўся, затаіў глыбокую злосць, калі Уладзімір не выдаў яе за яго замуж. Малодшая сястра, як і трэба для свайго ўзросту, была гонкая, тоненькая, з чарнявымі валасамі, з круглымі вачыма, але без хітрага прыжмурку, з тонкімі губамі, крыху з выцягнутым падбародкам. Як кідалася ў вочы, яна поўнілася цікаўнасцю да незнаёмага ёй старэйшага брата па адных бацьку і маці. Як пазней увазнае Ізяслаў, ведала, што ў розных мясцінах ёсць браты Яраслаў, Мсціслаў і Усевалад, але да Прадславінага пасвячэння лічыла: іх і яе маці — Ганна, як і Барыса, Глеба, Станіслава.

— Сястрычкі! — ад хвалявання і радасці ў Ізяслава зайшлося сэрца: быў вельмі чуллівы па маці.

— Брацік! Крэвнік! — першая рушыла насустрач Прадслава. — Яка даўнаочікувана зустріч! Які ты взрослый вже! Бравій! Чоловік!

Прыпалі адно да аднаго. Шчака да шчакі. Спрытна пакатыя Прадславіны плечы ўздрыгнулі, і яго шчаку абвільготнелі яе хуткія слёзы. Канечне, яна была ўжо здольная глыбока ўсвядоміць, перажываць за іхні такі цяжкі лёс, за ростань з маці, за іхняе цяперашняе. Але знайшла сілы, усміхнулася сястры:

— Праміслаўка, падыдзі, абдымі нашага старэйшага брацка.

Тая зрушылася і ішла так, як змалку вучаць хадзіць юных княжнаў, з высока паднятаю галавой, лёгка, дробненька перабіраючы нагамі. Ізяслаў пяшчотна прытуліў яе:

— Маленькая наша!.. Па ўсіх вас, адлучаных, гаравала і гаруе маці, а па табе, меншанькай, — найбольш... — Новы прыліў чуллівасці ў Ізяслава.

Гэтак жа сталася і з прысутнай тут Соф'яй — Прадслава, амаль яе аднагодка, ашчыравала яе абдымкам і пацалункамі («Рада бачыць цябе, братавая!»), а Праміслава толькі прытулілася, а Соф'я першая пацалавала яе, як дзяўчынку.

Як было бачна, Соф'я (яе, нявестку, цёпла блаславіла іхняя маці) сёння зноў была ўражаная — раней ад жаночай вялікаснасці Рагнеды, а цяпер ад стройнасці і красы яе старэйшай дачкі, палюбаванай, асвечанай нябесным і зямным дарам. У Рагнеды і Прадславы абвысакародзілася кроў паўночных конунгаў і полацкіх князёў. У іх хораша спалучыліся жаночая прастата і зграбнасць.

— Прашу падсілкавацца, — запрасіў Ізяслаў сясцёр, паказваючы на доўгі стол з рознай ежай, дзе былі тушаная капуста з гускай, маладыя баравічкі, ржаны хлеб і пшанічная булка з макам, смятана, малако, мёд, кісель і сыта да яго, журавінавы напітак, ачышчаныя арэхі, засушаны вінаград.

— Мы не галодныя, брацік, — адказала Прадслава, — а рваліся сюды найперш дзеля таго, каб пабачыцца. Пагаварыць. Мы ж — адна кроў! Каб ты ведаў, як я радая нават зірнуць на цябе!

— І я, сястрычкі мае. Тады давайце хоць прысядзем.

— Як яна, мама наша? — калі селі, нецярпелася ўведаць Прадславе.

—У смутку глыбокім, у малітвах. Адна яе радасць, што ўсе мы жывыя і здаровыя. Ад таго і яна моцная целам ды духам.

— У Палацеск «ён»... — Прадслава хітравата ўсміхнулася (значыць, дайшло да Кіева, што ён, Ізяслаў, і маці так называюць Уладзіміра), — ...мяне не пускае... А вось у Растове ў Яраслава, у Цьмутаракані ў Мсціслава, ва Уладзіміры ва Усевалада і ў Тураве ў Святаполка была.

Не сказаць, каб Ізяслаў зусім нічога не ведаў пра сваіх далёкіх ад яго братоў і сясцёр, пра тое-сёе дачуваўся ад розных гасцей і сваіх вяжоў, ды зусім іншае — не чужы пераказ, а сястрын аповед.

— У старэйшага з вас, Вышаслава з Ноўгарада, не была, дык нічога пра яго не магу сказаць. Малодшыя твае браты маюць розныя характары, — расказвала яна. — Яраслаў — не па гадах сур'ёзны, смелы, нават дзёрзкі і прагны да ўлады. Перахоплівае ўжо яе ў пестуна Будага, змушае сагнуцца перад ім растоўскую знаць. — Усміхнулася: — Не дарэмна кажуць, што рыжыя і кульгавыя злыя, а то і ліхія...

— Ён моцна кульгае? — спачувальна запытаў Ізяслаў.

— Даволі.

— Дзякуй Богу, што хоць ходзіць. Як помню, ён жа да трох гадоў не мог сам стаць на ногі. Мама гаравала, што будзе ляжань, а значыць можа быць князь-ізгой. Ускочыў і пабег, калі... — І не дагаварыў.

— Мне ўпотай расказалі пра тое... — Прадслава дала знак, што разумее яго недамоўленасць. — Яраслаў крыху помніць маму і цябе. Цябе — тады, калі ты засланіў сабой маці... Яго гэта вельмі ўразіла... Ён пра вас многа распытваў. Адказала, што ведала. І ён заплакаў... А Мсціслаў кажа, што нібы ў густым тумане бачыць вас. Цяпер, як мо і ведаеш, чатырнаццаць яму, на чатыры менш, чым Яраславу, яшчэ толькі прабіваюцца вусікі, але ўжо раславаты, моцны, старэйшых отракаў і грыдняў валяе, калі схопяцца дужацца накрыжкі. Кемны. Бярэцца ў рожкі з цьмутараканскімі вяльможамі. Дык і ён, як і ты, Яраслаў, будзе спраўны князь. — Уздыхнула. — Хоць яму мо будзе сама цяжэй з усіх вас: абкружаны морам і ворагамі. Адным словам, «ён» (без усмешкі ўжо) задаволены вамі: «Па мне пайшлі». Праўда, калі хтосьці з баяраў асмеліцца падаць голас, што ён дарэмна падзяліў дзяржаву паміж сынамі, сам сабе зменшыў «единовластие», бывае, і зморшчыць лоб: «Хоць... Папраўдзе, хто ведае, як потым маладыя арлы будуць паводзіцца са старым, аслаблым арлом... А як пасля смерці маёй паміж сабой?.. Не пераб'юцца ці не разарвуць сабраную прадзедамі і мной славянскую імперыю?..». А што да Усевалада нашага... — Сумна захітала галавою. — Маленькае княства яго, і ён... Падлетак ужо, павінен інтарэс свой мець, а ён гуляе ў дзіцячыя забавы і з меншымі за сябе. А баярам гэта толькі і трэба. Зусім не гадуюць у ім княжскі дух, спажываюць і будуць спажываць яго слабавольнасць.

«Разумная Прадслаўка, — пацешыўся Ізяслаў, — і душу вялікую ды глыбокую мае».

— Я, сястрычка, — прамовіў уголас, — ні супраць бацькі, ні супраць братоў ніколі не пайду.

— Многія кажуць, што ты — «мірны князь, будаўнік». Хоць, брацік, ёсць і незадаволеныя, што бацька (і яна цяпер пазбегла слова «ён») адасобіў вас ад славянскай імеріі, аднавіў палацкае вольнае княства. Ды угледжваюць у табе дзеда Рагвалода хітра задуманы далёкі намер... Якраз праз вашую мірнасць...

— Як і бацьку, табе таксама скажу: мяне асцерагацца не трэба. Самы вялікі мой намер зусім адкрыты: паставіць на ногі Дзедаўшчыну. Каб люд яе не жыў у норах і не хадзіў у звярыных скурах, каб ён быў такі, як і люд у Кіеве, Ноўгарадзе. Каб многаму навучыўся і ад Візантыі, і ад заходніх земляў. Каб усе пабачылі: мы нічым не горшыя за іншых, многае і нам па сіле нашай, па розуме і ўмельстве!

— Цяжкая, прыкрая была мая паездка ў Тураў да Святаполка, — вяла далей свой расказ Прадслава. — Яго маці гудзе і яму, і тураўцам у вушы: яе сын — Яраполкаў, дык не Вышаслаў з Ноўгарада, а якраз ён па даўнім праве некалі павінен быць на вялікакняжскім кіеўскім пасадзе. А цяпер павінен быць, як і ты, асобна ад Кіева... Не падуладжваецца яму Рагвалодаў Палацеск, дык такое права мае і град брата Рагвалода Тура... Усіх вас, «малодшых, Уладзіміравых сыноў», люта ненавідзіць, жадае вам зла вялікага. Шэпчацца з ляхамі, мае намер ажаніцца з іхняй князёўнай. Я не магла не перасцерагчы бацьку пра гэта. Хоць Святаполкавы мары могуць быць і марныя. «Яна» (Ганна) нашэптвае нашаму бацьку, каб запераемнічаў не былы язычнік, а іхні, «хрысціянскі» першы сын. Барыс. І яго змалку навучае на вялікага князя.

Ізяслаў чуў і пра апошняе сказанае Прадславай.

— «Яна» будзе рвацца пагаварыць з табой, — дадала да сказанага, узяла яго за рукі. — Асцерагайся. Яна зусім не тая, за каго сябе выдае. Нібы за маці нам, малодшым, але была б радая, каб мы ўсе разам згінулі і каб засталіся ды ўзвысіліся яе сыны. Горай горкай рэдзькі мне яе «любоў». Яна і цяпер раўнуе бацьку да нашай маці, бо ён...

Не паспела дагаварыць зразумелую яму, Ізяславу, сапраўдную рэч і перасцярогу адданая як маці, так і яму сястра: пачуўся постук у дзверы. Пасля Ізяславага дазволу на ўваход сюды зайшоў яго верны грыдзь:

— Княжа, цябе кліча да сябе вялікая княгіня кіеўская...

Прадслава, Ізяслаў тут жа перазірнуліся: пачалося! Але Ізяслаў быў спакойны. Раней, калі з маці выкідвалі яго, хлапчука, з Кіева, ён і ў тым узросце моцна ўзненавідзеў новую бацькаву жонку-хрысціянку — разбуральніцу, як тады ён, малеча, лічыў, іхняга сямейнага шчасця. А пасля яны прыглушылі свае крыўду і боль, аспакаінелі: што ж, «ён» мусіў пайсці якраз на такое, каб сюды хрысціянства дасягнула па яго закліку. Каб сама адукаваная і культурная Візантыя ўшанавала яго! І не абы-кім, а сястрой базілеўса! Ды і ўсё ва ўсіх шасцярых Рагнедзіных дзяцей уладзілася. Усе жывыя, здаровыя, дагледжаныя. За гэта чалавечую і мацярынскую вялікую плату трэба плаціць ёй. У паўзямлянцы-келлі!

Той міг, пакуль Ізяслаў міжволі перавёў свае думкі пра Ганну, Прадслава пільна назірала за ім і, канечне ж, з уцехай бачыла: ён засярodзіўся, нічяк не выяўляе пачуццяў. У гэтым, падумала, на яго падобны юны Мсціслаў. Не рэзкай выяўнасцю, а ўпэўненай стрыманасцю і душэўнай моцай. Міргнула яму: ідзі і будзь якраз вось такі, самастойны і годны.

— Соф'я, — паказваючы рукой на стол, папрасіў Ізяслаў, — будзь гаспадыняй, частуй братавых.

ЗГАДКІ

# ПАМІНАЛЬНАЯ МАЛІТВА,
## АБО ЗАПОЗНЕНАЕ РАЗВІТАННЕ

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**

**Тэлефонны званок Валянціны Аксак заспеў мяне перад уваходнымі дзвярыма ў ПЭН-цэнтар. Прасіла яна сказаць для «Радыё Свабода» колькі словаў на адыход у лепшы свет Ванкарэма Нікіфаровіча, і навіною гэтаю проста агаломшыла мяне. Папрасіў паўзы, нібыта каб зняць верхнюю вопратку і працерці затуманеныя з марозу акуляры, а тым часам ліхаманкава спрабаваў усвядоміць пачутае і пастарацца хоць збольшага прымірыцца з нялітасцівай рэаліяй.**



Фота з архіва аўтара

Нугзар Каберыдзе (Грузія), Уладзімір Сіўчыкаў і Ванкарэм Нікіфаровіч на семінары перакладчыкаў у Доме творчасці «Іслач», 1989 год

Што мог сказаць?

Тое, што бясконца смуткую, бо чалавек гэты быў у пэўны час досыць блізкі мне і, як мог, паспрыяў у літаратурным навучанні і творчым росце. Што даў мне разгорнутую, на дзве старонкі машынапісу, рэкамендацыю на ўступленне ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Што прыемна дзівіла мяне тое, як цярпліва, мякка і далікатна ваджаўся ён з намі, тагачаснымі студэнтамі-філолагамі, пачаткоўцамі ў літаратуры...

Сустракаліся мы з ім і на прыступках агульнага alma mater, і ў аўдыторыях філалагічнага факультэта на вуліцы Чырвонаармейскай, і ў кавярні Дома літаратара. За гонар лічыў я запрашэнні ў дом вельмі далікатнага і абаяльнага чалавека, патомнага інтэлігента, прызнанага перакладчыка і крытыка, літаратуразнаўцы і кінасцэнарыста. Пра літаратурныя ўзаемасувязі дазнавацца ад яго можна было не адцягнена-абстрактна: яны ладзіліся навідавоку — удзельніцаю творчых семінараў была і аспірантка, балгарка Венета Георгіева-Козырава з Габрава, з адной з сусветных сталіц гумару.

А вось сумная вестка з Чыкага пра адыход Ванкарэма Валяр'янавіча, ведаю, ударыла нібыта абухом не толькі мяне. Але чамусьці, пэўна, крыху крамольна, падумалася: «Можа, і добра, што дазналіся мы на Беларусі пра гэта запозна, што, нягледзячы на сучасныя мажлівасці сувязі, тужлівая вестка прыйшла з-за акіяну толькі праз тры месяцы». Гэта крыху змікшыравала боль ад страты і заўсёднае, непазбежнае ў такіх выпадках адчуванне вінаватасці.

Ванкарэм Валяр'янавіч быў аўтарам паўсотні сцэнарыяў дый інсцэніровак тэлевізійных і дакументальных фільмаў. Герой аднаго з іх Рыгор Барадулін прыгадваў, што Ванкарэм Нікіфаровіч, як абазнаны мінчук, уводзіў яго, ураджэнца Вушаччыны, не толькі ў сталічнае жыццё, але і ў літаратуру, дапамагаў літаральна ва ўсім.

Гэты досыць рэдкі талент добразычлівага сталкера, тактоўнага правадніка могуць засведчыць і многія іншыя літаратары, выдаўцы, навукоўцы, рэдактары, журналісты, якім пашчасціла сустракацца, сумоўнічаць і працаваць поруч з нястомным руплíўцам на ніве беларускае і не толькі айчыннае культуры і прыўкраснага пісьменства. Балгарскі ордэн Кірылы і Мяфодзія (на Беларусі толькі чатыры ягоныя кавалеры!) ёсць адзнакаю шматгадовай перакладчыцкай працы на глебе славяншчыны, а калі сягнуў за акіян, дык дасканала спасцігнуў Ванкарэм Валяр'янавіч і культуру новага месца жыхарства. Але і ў далёкім Ілінойсе нястомна прапагандаваў ён беларушчыну, намагаўся, каб беларускае жыццё там ажыўлялася.

Шчыраваў як журналіст, пісаў літаратуразнаўчыя артыкулы, уклаў зборнік драматургіі беларускіх эмігрантаў "Урачыстасьць у садзе", перакладаў на расійскую мову позднія творы Васіля Быкава, адкрываў іх расійскамоўнаму чытачу.

Ахвотна дзяліўся ён сваімі напрацоўкамі і творчымі здабыткамі. Электронная пошта аператыўна прыносіла пераклады быкаўскіх апавяданняў і прыпавесцяў («Желтый песочек», «Пригорок», «Полководец», «Подаренная жизнь», «Хвостатый», «Свобода», «Оборонка», «Маленький красный цветочек»), калі ўкладаў я том выбранага для маскоўска-цвярскога выдавецтва «Мартин». Больш за тое, падахвоціў ён і мяне перакласці на расійскую мову прыпавесць «Кошка і мышка», а потым і апублікаваў яе ў адной з чыкагскіх газет, зладзіўшы тым самым маю першую заакіянскую публікацыю.

Цешуся з тае прычыны, што змог хоць крыху аддзячыць сваймý літаратурнаму настаўніку — друкавацца пачаў ён якраз у год майго нараджэння. У пэўны час удалося завабіць яго да падрыхтоўкі і выпуску анталогіі грузінскай дзіцячай літаратуры «Дружная з сонцам» у выдавецтве «Юнацтва». Пазней паспрыяў яму усталяваць кантакты з рэдактарамі часопіса «Дзеяслоў», у якім неўзабаве з'явіліся некалькі нікіфаровічавых артыкулаў і эсэ, прысвечаных Алесю Адамовічу, Васілю Быкаву, Уладзіміру Дубоўку.

У полі ягонага зроку практычна не было выпадковых ці малазначных постацяў. Цікавілі яго і займалі, акрамя ўжо згаданых карыфеяў, творчасць Марка Шагала і Стэфаніі Станюты, Аркадзя Куляшова і Івана Мележа, Івана Пташнікава і Янкі Сіпакова...

Дый і ягонае імя і імя па бацьку былі настолькі рэдкія і адметныя, што дастаткова было прамовіць у літаратурных колах толькі іх, без прозвішча, ці нават толькі кароткае — як пароль — Рэм, станавілася зразумелым, пра каго ідзе гаворка.

На вялікі жаль, перапіска наша паступова затухала: ён азываўся нават па электронцы ўсё радзей, а я не асмельваўся назаляць...

Днямі пераглядаў свае архівы. Покуль што не адшукаў некаторыя фотаздымкі, затое знайшоў рукапісныя пісьмы, ужо згаданую рэкамендацыю ў творчую суполку. Пагартаў біябібліяграфічныя і іншыя даведнікі, — і глыбока засмуціла мяне, што працятыя ці то юдафобіяй, ці то прагаю палітычнай помсты за эміграцыю ў ЗША выдаўцы і рэдактары 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» не змясцілі нават самай сціплай персаналіі пра найшаноўнага інтэлігента, эрудыта дый (іронія лёсу!) энцыклапедыста.

Але, напэўна ж, нездарма слова «свет» фігуруе ў найменнях ягоных кніг-манаграфій «Усяму свету — свой дар» і «Дарогі ў шырокі свет».

Імя ж «Ванкарэм» дагэтуль гучыць мне як сакральны напамінак. Упэўнены, што творчая спадчына непазбыўнага патрыёта і разам з тым грамадзяніна свету Ванкарэма Нікіфаровіча будзе яшчэ належна расчытаная і як след ацэненая.

**19 лютага 2012 г.**

# НАС БЫЛО МНОГА
## ДЗЁННІКАВЫ ЗАПІС АД 6 МАЯ 2011 ГОДА. ПЯТНІЦА

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

«У гэты панядзелак, перад Радаўніцай, пахавалі Валю Коўтун. Генрых Далідовіч пра яе цёпла напісаў у «Народнай волі». «Адыходзіць наша пакаленне», — падумала я пад вечар і зразумела, што гэта гатовы радок верша».

Даўні маладосцеўскі здымак мне падарыў той самы Генрых, мой сусед па лысагорскай дачы. Мяне, настаўніцу, толькі што прынялі ў Саюз пісьменнікаў. На мне белаблакітная крымпленавая сукенка (хаця крымплен ужо выходзіў з моды.) Мабыць, адбывалася якаясь літаратурная імпрэза. Хто быў ініцыятарам знямкаа — не памятаю. Хутчэй за ўсё — Уладзімір Крук, ён умеў не толькі падгледзець цікавы кадр, але і звесці ў кампанію блізкіх па духу людзей. У цэнтры, як і належыць, — старэйшая, Эдзі Агняцвет.

Ад гэтага здымка вее цеплынёй і прыязнасцю. Многія з нас калі не сябравалі, то проста часта сустракаліся. У Раі на плошчы Якуба Коласа не раз спыняліся, жывучы ў Плешчаніцах. У Жэні на Ульянаўскай даводзілася начаваць у 80-ых, калі на новай працы — тэлебачанні — адбываўся якісь мантаж альбо познія запісы і не было магчымасці дабрацца да сям'і. У Любы я бывала дома пазней, у 90-ых. Эдзі Сямёнаўну (з Маргарытай Яфімавай і іншымі) — наведала незадоўга да яе смерці, калі яна ўжо была прыкавана да ложка. Пра лёс Валерыі Маргуліс нічога не ведаю. Люба Турбіна, здаецца, стала пасяліласяу Маскве.

Будзе справядлівым згадаць і іншых. З Вольгай Іпатавай кантактавалася па грамадскіх справах. З Зінай Дудзюк пасябравала на ўсесаюзным семінары драматургаў, мы дасюль перазваньваемся. З Нінай Мацяш перасякалася рэдка, затое мы «сустрэліся» ў межах адной літаратуразнаўчай кнігі. Марыю Баравік і Ніну Шкляраву ведаю з часу першага паэтычнага семінару ў Каралішчавічах. Кагосьці зараз магу і не прыпомніць, бо нас было многа.



Фота Уладзіміра Крука

**Злева направа: Валерыя Маргуліс, Раіса Баравікова, Эдзі Агняцвет, Таіса Бондар, Люба Турбіна, Галіна Каржанеўская, Жэня Янішчыц. 1976 год.**

### Будзем жыць

*Адыходзіць наша пакаленне…*
*Першаю была, вядома, Жэня.*
*Ў новым доме згінула фатальна,*
*Смерць была трагедыяй і тайнай.*

*Як нас распластала —*
*не пытайся…*
*Потым захварэла Бондар Тася.*
*І медкарткі быццам бы*
*не мела.*
*Пра такіх гавораць,*
*што «згарэла».*

*Мацяш шматпакутная…*
*Сяброўка*
*Многім (спавядалася ў лістах).*
*Помню, як пісьменнік у сталоўку*
*Ніну зносіў проста на руках.*

*Ў месяц юбілею, нечакана,*
*Светлаю сядміцай (не хлушу)*
*У бацькоўскай хаце,*
*досыць рана*
*Валя Богу аддала душу.*

*Лёс нам адкрывацца не павінен.*
*Графікаў на небе не вядуць.*
*Засталіся Рая, Волька, Зіна…*
*Будзем жыць,*
*пакуль не адпяюць.*

ЮБІЛЕЙ

# АСЕННІ РАНАК

## ДА 70-ГОДДЗЯ ПАЭТА ІВАНА АРАБЕЙКІ

Аляксей ФІЛАТАЎ

*Я жыў — і нельга перайначыць,*
*І прарастала зерне ўдач*
*На чорных скібінах няўдачы…*
*Іван Арабейка*

…Ужо каторы раз мама ціхенька просіць: «Прачынайся, ўставай, сынку, табе чараду пасвіць». А ўставаць так не хочацца! І маці шкадуе, дае магчымасць яшчэ хвілінку паспаць. Нарэшце ў сямігадовага падпаска за плечукамі — торба, у руках — ляшчынавы кій. Так, «не белы і не русы, а колерам у спелае жніво», Іванка Арабейка — падпасак, бо за пастуха — не намнога старэйшы ягоны родны брат.

Торба за плячыма ў парабкаў — чужая: яны найміты — людскую скацінку пасуць. А вось кій, рабенькі і зграбны, бы цацачка, — уласнай вытворчасці, бо рукі ў палешукоў ад бацькі і ад Бога, ад роднае зямлі, як і сэрцы іхнія, пакуль памерам з кулачок, — залатыя.

Уладзімір Андрэевіч Калеснік не мог надзівіцца, чаму Палессе «ў час вайны і адразу пасля яе нарадзіла так шмат чулых сэрцам дзяцей». Іван — адзін з іх. І цягне ён цяпер парэпаныя, адубелыя, босыя свае нажаняты праз колкую жнівеньскую расу «ўслед за сонцам» у аколіцах роднае вёсачкі з п'янкім імем Хмелева бліз Жабінкі.

Я вухам не чуў і вокам не бачыў Івана, але ведаў ужо пра яго ў далёкім 55-м, бо вучыўся разам з ягоным суседам, які таксама не мог надзівавацца той празе да працы, той нястачы, якую пораўну дзялілі шматлікія дзеці сям'і Сяргея Арабейкі, намагаючыся з апошняе моцы дапамагчы бацькам зарабіць на хлеб. «Каб брацць той хлеб было не грэшна, я дровы сек і печ паліў», — вобразна скажа Іван праз гады ў вершы «У хаце сонечна было» з першага ягонага паэтычнага зборніка «Услед за сонцам», пачынаючы распрацоўку ў сваёй спеўнай лірыцы тэмы любові да маці-жанчыны, якая нарадзіла, і маці-Радзімы, маленькай і найвялікшай у свеце, якія вывелі, нягледзячы на «чорныя скібіны няўдач», каржакаватага, у корань, вясковага хлопца ў людзі.

За сваё шматгадовае і скрутнае літаратурнае жыццё (нарадзіўся 26 сакавіка 1942 года) Іван Сяргеевіч выдаў толькі дзве паэтычныя кніжкі. Другая мае назву «Асенні ранак».

З 1979 года Іван — сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. А ў тыя гады афіцыйным пісьменнікам было стаць цяжэй, чым у космас узняцца. Дарэчы, прысвяціў ён верш і нашаму зорнаму земляку Пятру Клімуку, ды я б сказаў: не так яму, як ягонай маці…



Іван Арабейка

Чытаем Іванаў спеў, і паціху, шчымлівa радуецца душа, і дзякуем Богу за тое, што звёў з чалавекам, які так звонка, іскрыста, так чула і далікатна-замілавана выказаў і тваe запаветныя пачуцці і думы, ухваліў, здзівіўся красою нашай непаўторна-самабытнай зямлі, раскрыў існасць душы палешука.

*Пячэ — ні воблачка нідзе,*
*На лузе конікі замоўклі,*
*І толькі чмель адзін гудзе*
*Вакол рамонкавай галоўкі.*
*Зграбаем сена, ну а дзед,*
*Яго стагуючы, жартуе:*
*«Яно як чай, карова з'есць —*
*Яшчэ і ў рукі пацалуе».*

Аснова і выток пачуццёва-пейзажна-інтымна-патрыятычнай паэзіі Арабейкі — вясковыя, цнатліва-чыстыя, надзвычай сціплыя, нават неяк пяшчотна-сарамлівыя. Ну, не можа Богам адзначаны дзівак-чалавек, бы натоўп «самаўпэўненай пасрэднасці» (Янка Брыль), кляпаць і трубіць оды «времени, себе и ему». Але мімаходзь адзначым, што і вытворчую, пралетарскую тэму не мінае ў сваёй творчасці інжынер па адукацыі Арабейка.

І робіць гэта па-майстэрску, таленавіта, да парушнікі спазнаўшы тэхналогіі вытворчасці… «газавых пліт, шкла, папярэдне напружанага бетону», і пры гэтым тлумачыць прычыну поспехаў як паплечнікаў, так і ўласную: жарыць «сэрцаў нашых агонь! Барвовае полымя печы бушуе, бушуе ў вачах»…

Не мог дзіця вайны Арабейка абмінуць подзвіг бацькоў, «якія жыцці нам падаравалі і ў зямлю навек ляглі» (Расул Гамзатаў). Сваю паэму «Сцяна» Іван выпакутаваў, падслухаў у звоне цішыні Брэсцкай крэпасці і золкім ранкам, і росным вечарам, і зорнай ноччу. Вобраз камісара, жывога чалавека, які пускае слязу на рукаво шынэля, шкадуючы цёплых, жывых дзяцей сваіх, юнакоў-салдацікаў, якія «у дальнім гуле слухаюць трывогу», стане прыкладам вобраза чалавека на вайне. Ідэя гэтага амаль дакументальнага эпічнага твора: «Як да зарэзу мне трэба помніць мінулыя дні! Каханне вечна, над ім не ўладны бег гадзін». А тыя, хто загінуў, баронячы Радзіму, сёння сталі «шчэбетам птахаў, травою ля вады», і прысутнасць іхняя назаўсёды! Гэты праведны сказ пра час, ад якога мераюць свой кон многія на нашай зямлі, прыйшоў да Арабейкі ад Твардоўскага, у паэзію каторага ён бясконца ўлюбёны.

Здзіўляе метафарычнасць, лірызм, тонка падгледжаная дэталь, ласкавы гумарок, вобразнасць творчага набытку паэта. Абагулёныя Іванам хмель і журавы. Знакамітая ў літаратурным коле «белая, белая будка, дзе дзяўчо каля будкі, як незабудка». Крахабор, злыдзень, што нават камень, які за пазухай насіў, прасіў, «каб на грудзі палажылі на магіле». А чаго варты марцовы кот, «які прыблудзіць досвіткам дамоў ды ўсё расол халодны п'е, а ўдзень, як выгнаны прымак, пад прызбай грэецца з варонамі»! А «аловак — паяльнік сакрэтаў маіх, што пакідае на паперы абвуглены след!»…

У адным з вершаў Янка Арабейка (прабач, Іване, за Янку; сарвалася з душы) разважае: «Можа, буду воблакам ці лазою там, за небакраем?». Не, ты ўжо сёння, у свае 70, як сам сказаў,

*Падняўся дрэвам гонкім*
*Пераўзышоў тым самым*
*небыццё…*
*Ты разышоўся голлем у блакіце,*
*Стамлёны вырай прытуліў*
*вясной не раз.*

Набралася моцы ўлюбёнае ў жывое на Зямлі тваё сэрца, здзейсніліся твае надзеі. Ты стаў голасам сваіх землякоў, чые сэрцы разбіваліся моўчкі, асабліва тых, хто насуперак току валынскай роднай крыві прытуліў да сэрца спеўнае слова Купалы і Коласа, мову шматпакутнага беларуса.

І слаўна, хораша, што апошнім часам твой голас зноў загучаў напоўніцу, бо душа твая, адчуваючы, што «зусім не мінулы, а мой жорсткі век», прамаўляе: «Не магу маўчаць».

АБРАЗКІ

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

Лідзія АРАБЕЙ

## Параўнанні

Не прымаю параўнанняў, якія часта даюць нашы літаратуразнаўцы: «Паўлюк Трус — наш беларускі Ясенін, Кандрат Крапіва — наш беларускі Крылоў...»

І Паўлюк Трус, і Кандрат Крапіва непаўторныя, іх ні з кім нельга параўноўваць. Ясенін — сам па сабе, Крылоў — сам па сабе, а нашы выдатныя Паўлюк Трус і Кандрат Крапіва — самі па сабе, яны выключныя — гонар нашай літаратуры.

## Малады і прыгожы

Чытаю ўспаміны пра Івана Мележа — прыгожа выдадзеную кніжачку ў 1982 годзе, з партрэтам Мележа на вокладцы. І ўяўляю, як ляжыць ён недзе глыбока ў зямлі, у невядомым для нас свеце, і Бог-час робіць з яго целам сваю жорсткую работу.

А тут, на зямлі ён застаўся малады і прыгожы, і адзін у яго Бог — літаратура, якой ён малітоўна служыць.

І робіцца шкада, што часам прабягала ў сваім клопаце паўз яго, мала гаварыла яму цёплых слоў пра яго раманы, а ён так чакаў гэтых слоў — і ад чытачоў, і ад сваіх калег.

А калегі, пры жыцці аўтара скупаватыя на пахвалу, тут, у



Фота budzma.org

кніжцы ўспамінаў, аддаюць яму належную пашану. Толькі ён адтуль, з таго свету, наўрад ці чуе гэта.

## Тыран і народ

Тыран, дыктатар ніколі не ўтрымаў бы ўлады, калі б яго не падтрымліваў свой народ. Заўсёды знойдуцца халуі, якія будуць дыктатара славіць, спадзеючыся, што ён кіне ім, як сабакам, костку.

І ўсё-такі дыктатару прыходзіць канец, знаходзіцца лідар, які павядзе народ у наступ і знішчыць тырана, і на яго месца прыйдзе новы дыктатар.

## Суцяшэнне

Калі са мною здараецца якая-небудзь непрыемнасць — упаду і моцна паб'юся, альбо зваліцца нешта на галаву — я суцяшаю сябе думкаю: «Магло быць яшчэ горш...»

## Ад кахання да нянавісці

Людзі кахаюць адно аднаго, жэняцца, а потым невядома куды знікае каханне, і на яго месца заступае нянавісць, і яны разыходзяцца.

Цяпер былыя муж і жонка паліваюць адно аднаго брудам, не спяць па начах, прыдумваючы, якую б зрабіць прыкрасць адно другому. А калі ў іх яшчэ ёсць дзіця, то ім кідаюцца, як мячыкам, пасуючы ад маці да бацькі, навучаюць дзіця казаць брыдкае бацьку на маці, а маці на бацьку, не разумеючы, як калечаць малое і як самі ўжо скалечыліся.

## У чым ісціна?

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дзеці таксама нараджаліся, бо мужчыны і жанчыны сыходзіліся, жылі як муж і жонка, але не вянчаліся, не спраўлялі вяселляў і нават у загсах не распісваліся, усё гэта лічылася буржуазным перажыткам.

Мой стрыечны брат Барыс Пятроўскі распісаўся з жонкаю пасля таго, як пражылі разам пяцьдзясят гадоў і нажылі трох дзяцей, і толькі на той выпадак, калі каторы памрэ, дык другому засталася б спадчына.

Цяпер спраўляюць вяселлі — аж зямля дрыжыць, нявеста красуецца ў вясельнай сукенцы з вэлюмам, у госці запрашаюць ледзь не сто чалавек, грымяць музыка, наладжваюцца танцы.

Але тыя шлюбы, без вянца і без загса, трымаліся мацней, а гэтыя — з шумным вяселлем часта цераз год ці цераз два — раскідаюцца.

Дык у чым жа ісціна?

## Прасвятленне

У маладосці мне здавалася, што там, наверсе, самыя разумныя, самыя сумленныя і справядлівыя людзі.

А жыццё паказала, што там, наверсе, і не самыя разумныя, і не самыя справядлівыя. Яны часам калечаць жыцці людзей і трымаюцца за ўладу, пакуль нехта не дасць ім каленам пад зад, альбо пакуль сам арганізм не вытрывае натугі ды не здасца.

## Вось і вер

У 1961 годзе Мікіта Хрушчоў аб'явіў, што праз дваццаць гадоў сучаснікі будуць жыць пры камунізме.

А крыху больш чым праз дваццаць гадоў тыя сучаснікі асвойвалі жыццё пры капіталізме. Вось і вер правадырам.

## Дзіця-парастак

Беларусь падобна на тое біблейскае дзіця, на якое кваліцца дзве маткі, даказваючы, што гэта яны яго нарадзілі.

Можа, якая матка — Польшча ці Расія — адпусціла б Беларусь на волю, ды сама яна, як тое дзіця-парастак, ніяк не адвыкне ад расійскай цыцкі і не стане на ногі.

## Што лепей?

Што лепей для старога чалавека? Мець ясную галаву, усё разумець і перажываць, хвалявацца ці засланіцца ад жыцця беспамяцтвам і, выйшаўшы на вуліцу, заблудзіцца, не знайсці дарогі дадому, жыць, як трава расце?

Мусібыць, другі варыянт для старога чалавека лепшы. Бяда толькі для тых, хто з ім побач.

## Таматны сок

У цяперашніх фільмах пра вайну чалавечую кроў замяняюць таматным сокам, і той сок выглядае як кроў натуральная.

Баюся, што трагедыя вайны хутка будзе паказвацца на ўзроўні таматнага соку.

## Паклёпнікі

Быў час, калі сусед пісаў на суседзяў даносы: гэты, маўляў, японскі шпіён, а гэты — амерыканскі. І тых бедных «шпіёнаў» расстрэльвалі без суда і следства.

Ішоў час, цяпер іншая эпоха, але парода паклёпнікаў жывучая, і хаця ідзе дыскусія — ці трэба адмяняць смяротнае пакаранне, для сённяшніх паклёпнікаў яе варта было б прымяняць.

## Галасаванне

У інстытуце на вучоным савеце прымалі доктарскую дысертацыю вучонага. І ўвесь вучоны савет аднагалосна выказаўся за наданне таму вучонаму звання доктара навук.

А калі прайшло тайнае галасаванне, то аказалася, што ўвесь вучоны савет аднагалосна прагаласаваў супраць.

АПАВЯДАННЕ

# ГІСТОРЫЯ ПРА ГОБЛІНАЎ, ЯКІЯ

## З «ПАСМЯРОТНЫХ НАТАТАК ПІКВІКАВА КЛУБА»

Чарлз ДЫКЕНС

Чарлз Дыкенс, 200-гадовы юбілей якога адзначаецца ў літаратурным свеце, — адзін з самых знакамітых ангельскіх празаікаў і безумоўны класік сусветнай літаратуры. Гумар Боза (псеўданім, які часам выкарыстоўваў Дыкенс) пэўным чынам спрычыніўся да фармавання ангельскага гумару ўвогуле, а многія створаныя ім вобразы з'яўляюцца класічнымі (і аднымі з самых вядомых) вобразамі віктарыянскай літаратуры.



У старым манастырскім мястэчку, не дужа далёка адсюль, даўным-даўно — так даўно, што гэтая гісторыя мусіць быць праўдаю, бо нашыя прадзеды без агаворак у яе верылі, — быў пры цвінтары вартаўніком і далакопам нехта Гэбрыэл Граб. Калі чалавек працуе далакопам і напаміны пра смерць акружаюць яго ад рана да рана, з гэтага ніякім чынам не вынікае, што ён мусіць быць маркотным і панурым. Народу, весялейшага ад тутэйшых трунароў, не знойдзеш па цэлым свеце, і сам я калісьці меў гонар сябраваць з плакальшчыкам, які ў вольны час, па-за працаю, быў жартаўнік і забаўнік не горшы ад іншых, майстар і песні бестурботныя гарлаць без перапынку, і добры кубак грогу асушыць адным духам. Але нягледзячы на ўсе прыклады адваротнага, той Гэбрыэл Граб быў сварлівым, незгаворлівым ды грубым — хмуры й нелюдзімы быў чалавек і не ладзіў ні з кім, апроч сябе самога ды аплеценай лазою пляшкі, якая займала вялікую глыбокую кішэню ягонай камізэлькі; а кожны вясёлы твар, які трапляўся яму на вуліцы, ён сустракаў позіркам настолькі нявельтым і зласлівым, што цяжка было не страціць пад ім увесь свой добры настрой.

Раз у Вігілію Калядаў, перад самымі прыцемкамі, Гэбрыэл ускінуў на плячо рыдлёўку, запаліў ліхтар ды скіраваўся да старога цвінтара; бо да наступнага ранку ён мусіў дакапаць адну магілу, а быў якраз зусім не ў гуморы і падумаў, што калі безадкладна возьмецца за працу, то гэта можа яго ўзбадзёрыць. Спяшаючыся ўверх па даўняй вулцы, ён бачыў, як ліецца праз старасвецкія вокны вясёлае святло гарачых камінаў, і чуў, як радасна й гучна смяюцца людзі, што сабраліся ля полымя. Ён прыкмячаў мітуслівія прыгатаванні да весялосцяў наступнага дня, і аблокі пары з кухонных фортак даносілі да яго з гэтай сумятні мноства апетытных пахаў. Усё гэта было жоўцю і палыnам для сэрца Гэбрыэла Граба. А часам яшчэ дзеці, выскачыўшы чарадкаю на вуліцу, перабягалі дарогу й не паспявалі нават пагрукаць у дзверы, як паўтузіна кучаравых свавольнікаў ужо высыпалі насустрач і тоўпіліся вакол гасцей на лесвіцы ў прадчуванні цэлага вечара калядных гульняў — ад такога відовішча Гэбрыэл змрочна ўсміхаўся й мацней сціскаў тронак рыдлёўкі, раздумваючы пра адзёр, шкарлятыну, малочніцу, коклюш ды многія йшчэ іншыя крыніцы суцяшэння.

У такім удалым настроі Гэбрыэл крочыў далей, каротка гыркаючы ў адказ на прыязныя вітанні суседзяў, якіх сустракаў раз-пораз на дарозе, і нарэшце звярнуў у цёмны завулак, што вёў на цвінтар. Гэбрыэл толькі і марыў як найхутчэй дабрацца да гэтага завулка, бо тое было, наогул кажучы, слаўнае змрочнае нудлівае месца, у якое гарадскі люд завітваў нячаста — хіба што ў ясны дзень ды пры яркім сонцы; так што далакоп не жартам абурыўся, пачуўшы, як нейкі юны абадранец гарлапаніць радасную песеньку пра вясёлае Раство проста пасярод гэтай святарнай сцяжыны, якая звалася Труннаю алеяй ад самых дзён старога абацтва, яшчэ ў часы манахаў з голенымі галовамі. Гэбрыэл працягваў свой шлях, голас чуўся ўсё гучней, і стала ясна, што гэта маленькі хлопчык спяшаецца да сяброў на старую вуліцу, а каб не сумаваць па дарозе ды прыйсці ў адпаведны выпадку настрой — спявае на ўсю моц сваіх лёгкіх. Так што Гэбрыэл пачакаў, пакуль хлопец падыдзе бліжэй, а тады загнаў яго ў кут ды разоў пяць ці шэсць стукнуў па галаве ліхтаром, проста каб навучыць яго стрымліваць голас. Хлопец пабег прэч, трымаючыся за галаву і спяваючы зусім іншую песню, а Гэбрыэл Граб ад усёй душы пагігікаў, прайшоў на цвінтар ды зачыніў за сабою вароты.

Ён скінуў куртку, паставіў ліхтар на зямлю і, саскочыўшы ў недакапаную магілу, з усёй душою прапрацаваў каля гадзіны. Але зямля прамерзла, і не дужа проста было разбіваць яе рыдлёўкаю ды выкідаць з ямы. Месяц хаця і ўзышоў, але быў зусім маладзенькі, і на магілу, схаваную ў цені касцёла, падала зусім мала святла. У іншы час гэтыя перашкоды засмуцілі б і раззлавалі Гэбрыэла Граба, але ён гэтульскі сябе пацешыў, спыніўшы хлопцавы спевы, што мала зважаў на тое, як павольна рухаецца справа, а калі скончыў працу на гэтую ноч, то са змрочным задавальненнем зазірнуў у магілу й ціха замармытаў, збіраючы рэчы:

*А чым не жытло,*
*ну чым не жытло?*
*Колькі футаў зямлі,*
*калі ўсё прайшло?*
*Вось камень адзін,*
*і камень другі,*
*Ў чарвякоў пад камнямі —*
*абед неблагі;*
*Ды наўкол пустазелле расце*
*па гніллі —*
*Чым не слаўныя жытлы*
*ў свячонай зямлі?*

— Хо-хо! — засмяяўся Гэбрыэл Граб, сядаючы на пляскаты магільны камень, улюбёнае сваё месца адпачынку, ды выцягваючы аплеценую пляшку. — Труна да Калядаў — скрыначка для падарунка! Хо-хо-хо!

— Хо-хо-хо! — паўтарыў голас зусім блізка за ягонаю спінаю.

Гэбрыэл, які акурат падносіў пляшку да вуснаў, прыпыніўся й насцярожана азірнуўся. Нават у глыбіні найстаражытнейшай з вакольных магіл не магло быць большай цішыні ды спакою, чым на цвінтары, залітым бледным ззяннем месяца. Халодная шэрань бліскала на магільных плітах і зіхацела, нібы дыяментавая сетка, на каменнай разьбе старога касцёла. Цвёрды хрусткі снег ляжаў на доле, і такім белым і гладкім покрывам засцілаў ён частыя земляныя горкі, што здавалася, быццам мерцвякі пакладзеныя тут без пахавання і толькі ахінутыя мяккімі саванамі. Ніводзін шолах не парушаў бязмежнага спакою гэтай урачыстай карціны. Нібыта і самі гукі заільдзянелі, такі стаяў холад і такая ціша.

— Гэта рэха, — прамовіў Гэбрыэл Граб, зноў падносячы пляшку да вуснаў.

— Гэта не рэха, — адказаў нізкі голас.

Гэбрыэл ускочыў ды так і прырос да зямлі ад здзіўлення і жаху; бо ўбачыў істоту, ад выгляду якой кроў застыгла ў ягоных венах.

Зусім блізка ад яго на магільным камні, пастаўленым тырчма, сядзела дзіўная, таямнічае стварэнне, якое, адразу адчуў Гэбрыэл, прыйшло не з гэтага свету. Даўгія вычварныя ногі істоты, якія лёгка дасталі б да зямлі, былі падагнутыя й перакрыжаваныя на адмысловы, мудрагелісты лад, а аголеныя жылістыя рукі абапіраліся на калені. Кароткае круглае тулава было зацягнутае ў цесную камізэльку, аздобленую невялічкімі разрэзамі, за спінаю матляўся кароткі плашч, незвычайна выразаныя зубцы на каўняры замянялі гобліну брыжы ці шыйную хустку, а даўжэзныя насы чаравікаў закручваліся ўверх. На галаве ў яго быў завостраны шыракапольны капялюш, упрыгожаны адзінокім пяром. Капялюш быў пакрыты шэранню, і выглядаў гоблін так, быццам рассеўся на гэтым самым камні з усёй выгодаю стагоддзі з два ці тры таму. Сядзеў ён зусім нерухома, звесіўшы язык, нібыта хацеў падражніцца, і ўхмыляўся Гэбрыэлу Грабу такою ўхмылкаю, якая адным толькі гоблінам пад сілу.

— Гэта не рэха, — сказаў гоблін.

Гэбрыэл Граб стаяў змярцвелы й нічога не мог адказаць.

— Што ты робіш тут у Калядную Вігілію? — сурова спытаў гоблін.

— Я прыйшоў капаць магілу, сэр, — пралепятаў Гэбрыэл Граб.

— Што за чалавек цягаецца сярод магіл ды цвінтароў у такую ноч? — усклікнуў гоблін.

— Гэбрыэл Граб! Гэбрыэл Граб! — заенчыў дзікі хор галасоў, якія быццам запоўнілі цвінтар. Гэбрыэл спалохана агледзеўся — нікога не было бачна.

— Што там у тваёй бутэльцы? — спытаў гоблін.

— Джын, сэр, — адказаў далакоп, затрымцеўшы яшчэ мацней, бо ён купіў джын у кантрабандыстаў і цяпер непакоіўся, ці не служыць яго дапытлівы суразмоўнік у гоблінскай акцызнай управе.

— Хто п'е джын у адзіноце, ды на цвінтары, ды ў такую ноч? — спытаў гоблін.

— Гэбрыэл Граб! Гэбрыэл Граб! — ізноў абвясцілі дзікія галасы.

Гоблін зласліва скасавурыўся на жахнутага далакопа і, узвысіўшы голас, выгукнуў:

— І хто, калі так, будзе нашаю належнаю й законнаю здабычаю?

На гэта нябачны хор адказаў распевам, які гучаў нібыта згоднае суладдзе людскіх галасоў з магутным гулам старога касцельнага аргана — распевам, які, здавалася, далятаў да вушэй далакопа з парывам ветру і разам з ветрам пранёсся далей; але змест адказу быў той жа:

— Гэбрыэл Граб! Гэбрыэл Граб!

Гоблін заўхмыляўся яшчэ шырэй і спытаў:

— Ну, Гэбрыэл, што ты на гэта скажаш?

Далакоп толькі хапаў ротам паветра.

— Што ты скажаш на гэта, Гэбрыэл? — спытаў гоблін, задраўшы ногі па абодва бакі магільнага камня й пазіраючы на загнутыя насы сваіх чаравікаў з такім задавальненнем, як быццам разглядваў наймаднейшую пару ботаў на цэлай Бонд-стрыт.

— Гэта... гэта... вельмі займальна, сэр, — адказаў далакоп, напаўмёртвы з перапуду. — Вельмі займальна й вельмі слаўна, але я, мусіць, пайду й дараблю працу, сэр, калі дазволіце.

— Працу! — сказаў гоблін. — Якую працу?

— Магілу, сэр, дакапаю магілу, — прамармытаў далакоп.

— Ага, магілу! — сказаў гоблін. — Хто капае магілы, пакуль усе весяляцца, ды яшчэ цешыцца з гэтага?

І зноў таямнічыя галасы адказалі:

— Гэбрыэл Граб! Гэбрыэл Граб!

— Баюся, ты патрэбны маім сябрам, Гэбрыэл, — сказаў гоблін, яшчэ далей звесіўшы язык на шчаку — напраўду адметны быў язык.

— З вашага дазволу, сэр, — адказаў ахоплены жахам далакоп, — наўрад ці гэта магчыма, сэр. Яны мяне і не ведаюць, сэр. Наўрад ці гэтыя джэнтльмены хоць раз мяне бачылі, сэр.

— Ну чаму ж, бачылі, — сказаў гоблін. — Мы ведаем чалавека з панурым, нахмураным тварам, які йшоў сёння ўвечары па вуліцы і з нянавісцю пазіраў на дзяцей, мацней сціскаючы сваю магільную рыдлёўку. Мы ведаем чалавека, які ў зайздрослівай злосці свайго сэрца ўдарыў хлопца, бо сам не мог радавацца, а хлопец мог. Мы ведаем яго, добра ведаем.

Тут гоблін выбухнуў гучным і пранізлівым рогатам, які рэха ўзмацніла дваццакроць, а тады задзёр ногі ў паветра і ўстаў на галаву, дакладней, на самы кончык свайго высокага капелюша, на вузкім рабры магільнай пліты, і адтуль з дзівосным спрытам кульнуўся проста пад ногі далакопу і ўсеўся там у позе, у якой звычайна сядзяць шаўцы на сваіх працоўных сталах.

— Б-баюся, я мушу вас пакінуць, сэр, — сказаў далакоп, намагаючыся зварухнуцца.

— Пакінуць нас! — выгукнуў гоблін. — Гэбрыэл Граб сабраўся нас пакінуць! Хо! Хо! Хо!

Калі гоблін засмяяўся, далакоп на імгненне заўважыў зіхоткае ззянне ў вокнах касцёла, як быццам увесь будынак быў заліты святлом; ззянне згасла, арган загрымеў штосьці вясёлае, і цэлыя полчышчы гоблінаў, сапраўдных блізнятаў першага, хлынулі на цвінтар і пачалі гуляць у чахарду з магільнымі камнямі, ні на міг не спыняючыся аддыхвацца і пераскокваючы нават найвышэйшыя нагробкі, адзін за адным, з вартаю захаплення жвавасцю. Першы гоблін быў найдзівоснейшым майстрам гэтае справы, астатнія і блізка не маглі з ім цягацца. Далакоп, хаця й напалоханы звыш усякай меры, не мог не прыкмеціць, што астатнія задавальняліся скокамі праз звычайных памераў камяні, а першы тым часам адольваў фамільныя пахавальні з жалезнымі агароджамі, ды так лёгка, быццам тое былі вулічныя тумбы.

І вось ужо гульня разыйшлася як след. Арган граў хутчэй і хутчэй, гобліны скакалі спрытней і спрытней, звіваліся кольцамі, куляліся па зямлі дагары нагамі й пераляталі праз магільныя камяні, быццам футбольныя мячы. У галаве далакопа круціўся вір гэтульскі ж імклівы, як скокі вакол, а ногі трымцелі, калі духі праносіліся перад самымі ягонымі вачыма; і тут кароль гоблінаў раптам кінуўся да яго, схапіў за каўнер, і яны разам праваліліся скрозь зямлю.

Калі Гэбрыэл Граб перавёў дыханне, якое на міг заняло ад імклівага спуску, ён убачыў, што апынуўся быццам бы ў вялікай пячоры, а з усіх бакоў тоўпіліся гобліны, пачварныя ды змрочныя. Пасярэдзіне залі сядзеў на ўзвышэнні ягоны цвінтарны знаёмец, а паблізу, не маючы моцы варухнуцца, стаяў і сам Гэбрыэл Граб.

— Холадна сёння, — сказаў кароль гоблінаў, — вельмі холадна. А ну, прынясіце кубачак чагосьці гарачага.

На гэты загад паўтузіна паслужлівых гоблінаў, якія нязменна ўсміхаліся і якіх Гэбрыэл з гэтай нагоды палічыў за прыдворных, паспешліва зніклі ды імгненна вярнуліся з келіхам вадкага полымя, які і паднеслі каралю.

— Ух! — выгукнуў гоблін, шчокі й горла якога зрабіліся зусім празрыстыя, калі ён глынаў агонь. — Вось гэта сугрэў. Прынясіце куфлік таго ж самага містэру Грабу.

Марна запэўніваў нешчаслівы далакоп, што не п'е на ноч цёплага, бо адзін гоблін трымаў яго, а

# СКРАЛІ ДАЛАКОПА

другі тым часам ліў небараку ў горла палаючую вадкасць, і ўсё зборышча віскліва смяялася з таго, як ён кашляў, давіўся й выціраў слёзы, якія шчодра ліліся з ягоных вачэй ад агністага напою.

— А цяпер, — сказаў кароль, адмыслова тыкнуўшы вострым канцом свайго высокага капелюша далакопу ў вока і прынёсшы яму гэтым надзвычайны боль, — а цяпер пакажыце гэтаму чалавеку тугі й маркоты некалькі карцін з нашых поўных клецяў.

І толькі гоблін гэта вымавіў, як густы воблак, што засланяў дальні канец пячоры, паволі рассеяўся, і бачны стаў, нібыта з вялікай адлегласці, маленькі й бедна абстаўлены, але ахайны й чысты пакойчык. Маленькія дзеці таўкліся вакол зыркага полымя, чапляліся за матчыну сукенку ды скакалі вакол ейнага крэсла. Маці часам падымалася ды адсоўвала фіранку, нібыта кагосьці выглядала. Сціплая вячэра чакала ўжо на стале, а яшчэ адно крэсла было падсунутае да каміна. Пачуўся грук у дзверы. Маці адчыніла, а дзеці стоўпіліся вакол яе, і радасна пляскалі ў далоні, калі ўвайшоў бацька. Ён быў мокры і стомлены і атрушваў з вопраткі снег, дзеці ж, абступіўшы яго з усіх бакоў, ухапілі ягоны плашч, капялюш, палку й пальчаткі і з заўзятаю стараннасцю бегма панеслі іх прэч з пакоя. Бацька апусціўся ў крэсла ля агню і ўзяўся за вячэру, дзеці караскаліся да яго на калені, маці сядзела побач, і ўсё здавалася поўным шчасця і ўтульнасці.

Але нешта перамянілася, амаль незаўважна. Замест першага пакоя з'явілася маленькая спальня, дзе паміраў наймалодшы й найпрыгажэйшы з дзяцей. Ружы пабляклі на ягоных шчоках і святло — у ягоных вачах. І пакуль далакоп угледзеўся ў хлопчыка з цікавасцю, якой ніколі не ведаў раней, той памёр. Ягоныя юныя браты й сёстры стоўпіліся вакол ложка і схапілі маленькую ручку, такую халодную й цяжкую; але ўраз адхіснуліся ад ейнага дотыку і глядзелі, заміраючы, на дзіцячы тварык. Бо хоць ягоны выраз быў спакойны й бестрывожны, хоць здавалася, што прыўкрасны хлопчык проста глыбока й мірна заснуў, яны ведалі, што ён мёртвы, а значыцца, стаў цяпер анёлам і глядзіць на іх, дабраслаўляючы, з ясных і шчаслівых Нябёсаў.

Зноў прабегла лёгкая хмарка, і зноў карціна перамянілася. Бацька й маці былі цяпер старымі й нямоглымі, і менш за палову колішняга сямейства збіралася цяпер вакол іх. Але бестурботны спакой асвятляў кожны твар ды ззяў у кожных вачах, калі ўсе сядалі вакол агню ды расказвалі й слухалі старыя гісторыі аб днях даўно мінулых. Ціха і немітусліва бацька сышоў у магілу, а хутка па мужы і тая, што падзяляла ўсе ягоныя клопаты й нягоды, адправілася ўслед за ім у край міру ды спачыну. Тыя нямногія, што былі яшчэ жывыя, схілілі калені ля іхнай магілы ды акрапілі слязьмі зялёны дзірван цвінтара. А тады падняліся і пайшлі прэч, сумна і тужліва, але без горкага плачу ды роспачнага ляманту, бо ведалі, што прыйдзе яшчэ дзень сустрэчы. І зноў яны вярнуліся ў тлумны свет, і бестурботны спакой не пакідаў іх. Воблак апусціўся на карціну і закрыў яе ад далакопавых вачэй.

— Што ты думаеш аб гэтым? — запытаў гоблін, паварочваючы свой вялікі твар да Гэбрыэла Граба.

Гэбрыэл замармытаў, што ўсё гэта вельмі слаўна, і выглядаў крыху прысароменым, калі гоблін спыніў на ім агністы позірк.

— Ты — нікчэмны чалавек! — сказаў гоблін з бязмернаю пагардай у голасе. — Ты! — ён быццам бы хацеў нешта дадаць, але ад абурэння ў яго заняло словы, так што ён узняў адну са сваіх надзвычай гнуткіх ног і, крыху пагайдаўшы ёю над галавой, каб як след прыцэліцца, абдарыў Гэбрыэла Граба добрым важкім выспяткам. А тады і ўсе гобліны-слугі адразу навaліліся на небарака і брыкалі яго неміласэрна згодна з даўнім і нязменным звычаем усіх двароў зямлі: брыкаць тых, каго вялікасць брыкае, ды вітаць тых, каго вялікасць вітае.

— Пакажыце яму болей! — сказаў кароль гоблінаў.

Па гэтым слове воблак ізноў рассеяўся, адкрываючы светлы гожы краявід — акурат такі самы і да сёння можна ўбачыць за паўмілі ад таго старога манастырскага мястэчка. З чыстага блакітнага неба ззяла сонца, іскрылася ў ягоных промнях вада, і ярчэй зелянелі дрэвы ў гэтым радасным святле, і весялей квітнелі лугі. Вада бруілася з лагодным цурчаннем, ветрык мармытаў сярод галля і шалахцеў лістамі, спявалі птушкі на дрэвах, і жаўрук у нябёсах узносіў хвалу ранку. Бо тое быў ранак, летні ранак, ясны й духмяны. Кожны бязважкі лісток і кожную маленечкую травінку перапаўняла жыццё. Поўз да дзённай працы мураш, трапятаўся, грэючыся на цёплым сонейку, матылёк, і незлічоныя кузуркі прасталі празрыстыя крыльцы і прагна цешыліся сваім кароткім, але шчаслівым існаваннем. Мінак праходзіў далей, узбадзёраны такім хараством, і ўсё было зіхоткім і велічна раскошным.

— Ты — нікчэмны чалавек! — прамовіў кароль гоблінаў яшчэ пагардлівей, чым першы раз. І зноў ён размахнуўся нагою, зноў апусціў яе на плечы далакопа, і зноў падземная дворня скарысталася прыкладам гаспадара.

Шмат разоў яшчэ воблак рассейваўся і гусцеў, і шмат чаму навучыў ён Гэбрыэла Граба, а той хоць і пакутаваў ад болю ў плячох праз незлічоныя выспяткі ад гоблінаў, але глядзеў з неаслабнай цікавасцю. Ён убачыў, што тыя, хто цяжка працуе ды зарабляе сабе сціплы пасілак штодзённаю работаю, застаюцца бадзёрымі ды шчаслівымі; і што апошняга невука ласкавае аблічча прыроды няспынна дорыць радасцю й суцехаю. Ён убачыў, што тыя, хто ўзрастаў сярод любові ды выхавання з пяшчотаю, не азлабляюцца ў галечы ды не згінаюцца і пад ударам, які зламаў бы чалавека грубейшага складу, бо нясуць у грудзях усё, што патрэбна для шчасця, міру і спакою. Ён убачыў, што жанчыны, наймякчэйшыя ды найкволейшыя з Божых стварэнняў, упарцей за ўсіх не здаюцца гаротам, болю ды няшчасцю; і ўбачыў, што прычынаю таму — невычэрпныя крыніцы любові й вернасці ў іх сэрцах. Перадусім жа ён убачыў, што людзі, падобныя да яго самога, якія злуюць на чужую радасць і весялосць, — гэта агіднае пустазелле на прыгожым твары зямлі; а ўзважыўшы ўсё зло на свеце супраць усяго дабра, прыйшоў да высновы, што гэты самы свет, наогул кажучы, — досыць прыстойнае ды прыемнае месца. І толькі ён да гэтага дадумаўся, як воблак, што схаваў апошнюю карціну, быццам бы ахутаў ягоны розум, залюляў яго ды заспакоіў. Адзін за адным гобліны знікалі з ягоных вачэй, а калі прапаў апошні, далакоп заснуў.




Ужо развіднела, калі Гэбрыэл Граб прачнуўся і ўбачыў, што ляжыць, выцягнуўшыся ў поўны рост, на пляскатай магільнай пліце на цвінтары, аплеценая лазою пляшка валяецца паблізу пустая, а куртка, ліхтар ды рыдлёўка раскіданыя па зямлі й пакрытыя начной шэранню. Перад ім узвышаўся камень, на якім ён упершыню ўбачыў гобліна; і магіла, якую Гэбрыэл рыў у прамінулую ноч, была паблізу. Спачатку ён засумняваўся ў сапраўднасці сваёй прыгоды, але востры боль у плячох, калі ён паспрабаваў падняцца, пераканаў яго, што выспяткі ад гоблінаў былі ўжо дакладна не ўяўныя. Ён зноў завагаўся, не ўбачыўшы на снезе ніякіх слядоў чахарды гоблінаў з нагробкамі, але хутка зразумеў, што да чаго, узгадаўшы, што гобліны — духі, а значыцца, слядоў не пакідаюць. Так што Гэбрыэл Граб падняўся ды выпрастаўся, наколькі дазваляў яму боль у спіне; нацягнуў куртку, атрусіўшы з яе папярэдне шэрань, і думаў спачатку ісці ў горад.

Але ён змяніўся, і яму была нязноснаю думка аб вяртанні туды, дзе з ягонага раскаяння стануць кпіць, а ў ягоным пераўтварэнні сумнявацца. Некалькі імгненняў ён вагаўся, а тады павярнуўся ды пайшоў куды вочы павядуць, шукаць сабе хлебу ў шырокім свеце.

Рыдлёўку, ліхтар ды аплеценую пляшку знайшлі ў той жа дзень на цвінтары. Спачатку аб далакопавым лёсе было нямала розных здагадак, але хутка ўсе пагадзіліся, што яго скралі гобліны. Вартыя даверу сведкі — у іх не было нястачы — выразна бачылі, як Гэбрыэл Граб нёсся ў паветры на спіне гнедага каня, сляпога на адно вока, з ільвіным азадкам ды мядзведжым хвастом. Нарэшце ў гэта шчыра паверылі, і новы далакоп за мізэрную аддзяку паказваў цікаўным ладны кавалак флюгера з касцельнай вежы, які адбіў знянацку, пралятаючы, вышэйпамянёны конь і які знайшоўся на цвінтары праз год альбо два.

На няшчасце, гэтыя аповеды крыху папсавала нечаканае вяртанне, гадоў праз дзесяць, самога Гэбрыэла Граба, абадранага добразычлівага дзядка, хворага на рэўматызм. Ён расказаў усё, што з ім было, святару, а таксама мэру. З цягам часу да ягонай прыгоды пачалі ставіцца як да гістарычнай падзеі, ды так і ставяцца дагэтуль. Прыхільнікі аповеду пра флюгер, аднойчы падманутыя ў сваім даверы, не спяшаліся даверыцца зноў. Яны выяўлялі сябе вялікімі разумнікамі, паціскалі плячыма, стукалі сябе па ілбе ды бурчэлі, што нібыта Гэбрыэл Граб проста выхлябтаў пляшку джыну ды заснуў на магільнай пліце. Ды рабілі выгляд, быццам усё перабачанае Гэбрыэлам у пячоры гоблінаў можна вытлумачыць і тым, што ён пахадзіў па свеце ды стаў мудрэйшы. Гэтае меркаванне і адразу было нямногім даспадобы, а пасля і зусім вывелася. І як бы там ні было, Гэбрыэл Граб не пазбавіўся ад рэўматызму да канца сваіх дзён, а таму з гэтай гісторыі можна вывесці калі не якую лепшую, дык тую прынамсі мараль, што калі чалавек злуе на ўвесь свет і напіваецца сам-адзін у калядную ноч, то ўжо напэўна дачакае ад гэтага бяды, якімі б дабрадзейнымі і якімі б да таго ж бяздоказнымі не былі тыя духі, якіх сустрэў Гэбрыэл Граб у гоблінскай пячоры.

**Praidzisvet.org**

**Пераклаў з ангельскай Антон Францішак Брыль**

АГЛЯД

# ЧАС АБУДЖЭННЯ: «ДЗЕЯСЛОЎ-56»

ЛеГАЛ

**За вокнамі вясна — і ў акаляючай прыродзе, і ў чалавечай… Будзем спадзявацца, што пабудзіць яна і наша грамадства ад казачна-летаргічнага сну. Зрэшты, узрадаванае нахапанай новай порцыяй таннага газу, яно можа так і застацца ў сваім неадэкватным стане…**




Літаратурны працэс таксама развіваецца нейкімі спарадычнымі раўніва-прэміяльнымі ўсплёскамі, разыходзячыся кругамі бруднаватай пасляпалемічнай твані. Хоць і з'яўляюцца час ад часу выбітныя творы, аднак нельга сказаць, што здараюцца пэўныя, каталізуючыя ўвесь літаратурны працэс, канцэптуальныя ці праграмна-ідэйныя мастацкія з'явы. Часопіс «Дзеяслоў» у дадзенай сітуацыі намагаецца не страчваць з цяжкасцю заваяваных пазіцый — па меры магчымасці быць па-над схваткай, мікшыраваць краі раздраю і трымаць прыстойную меру літаратурнай вартасці. Здаецца, гэта атрымліваецца.

Скажам, чарговы нумар часопіса быў прачытаны мной без напругі і раздражнення, больш за тое, з неаслабнай цікавасцю, што не заўсёды бывае. Як на мой погляд, прычынай таму стала кампактнасць тэкстаў, пазбаўленых абцяжараных аб'ёмаў, іх зладзённая прыцягальнасць ды аўтарская неардынарнасць падачы. Не ўсё, вядома, у роўнай ступені, але пераважная большасць.

Адкрываецца нумар нізкай вершаў Рыгора Барадуліна «Карані цішыні…». Трэба аддаць належнае народнаму паэту — агонь яго боскага таленту не затухае і ў пашанотным узросце і, як заўсёды, высока палае на скразняку ссівелага натхнення. Вершы кароткія, як дыханне запыханага задоўжанай дарогай вандроўніка. Іх ясны метафарычны змест вынікае з жывога ружанца дробна перабраных, як прамытыя на водмелі рачныя каменьчыкі, вечна помных маміных слоў. Цудоўная паэзія для цяперашняга беларускага часу, каб праясніць затуманеную душу і захмяліць зацверазелы розум.

Другі выбітны паэт Леанід Дранько-Майсюк прапануе чытачам апавяданне «Штабс-фельдфебель Брукман». Леанід Васільевіч творца настолькі ж чуйна-лірычны як і годна нацыянальны. Іншым разам здаецца, што ён каго хочаш пераканае ў сваёй непахіснай веры ў несмяротнасць беларушчыны. Прычым зробіць гэта дасціпным мастацкім чынам. Як вось у гэтым апавяданні, у якім нават колішні люты вораг нашага народа, гітлераўскі тылавы ваяка, пранікаецца калі не любоўю, дык прагай разумення тутэйшага людства і, у рэшце рэшт, завучвае напамяць радкі мілагучнага коласаўскага верша.

Больш за тое, палонены, прыходзіць у напаўразбураным Мінску да дому народнага песняра, каб… прачытаць яму гэтыя словы. Скажаце, прыгожая фантазія лірычнага паэта? Ну і кажыце. А я цёпла пасміхнуся ды светла задумаюся…

Адзін з найбольш таленавітых сучасных празаікаў Барыс Пятровіч у сваёй творчасці заўсёды быў арыгінальным, часам і неардынарным, асабліва ў пошуках новых форм і новага зместу. Гэта яго фішка, такім ён і пазнаецца, ні з кім не пераблытваецца і не губляецца ў любой гарнай пісьменніцкай кампаніі… Яго новае апавяданне (якое цягне на невялікую аповесць) інтрыгуе ўжо сваёй назвай — «Каханне ў краіне, дзе не было сэксу». Але прыцягальнасць апавядання не адно ў гэтым, але і ў пэўным сюжэтным, калі можна так сказаць, наватарстве. Хоць здавалася б, што можна выцягнуць з пажоўклага, хоць і не страціўшага актуальнасці, эпісталярыя, некім забытага і выпадкова знойдзенага аўтарам?! Але ж якая нечаканасць адкрываецца напрыканцы, калі на таемна-інтымным фоне ўсіх пафасна-высокіх разважанняў вынікае непаразуменне герояў, аж да нянавісці. Каханне, як кажуць, атрымалася без узаемнасці і любові, бо па сутнасці ад самага яго зародку інтрыгавалася сэксуальным пожадам. Ці не адсюль у герояў апавядання сутыкнуліся грамадзянская годнасць і нягодніцтва — служэнне Айчыне і прыслугоўванне… Псіхалагічная і маральна-этычная падаплёка твора хоць і невідавочная, але востра-вычувальная, асабліва ў нашых варунках жыцця. Зрэшты, напрыканцы апавядання аўтар пакідае стоеным чытачам умоўную надзею: «Спадзяюся аднак, яны памірыліся і працягваюць сустракацца. Мне чамусьці верыцца, што не ўсё страчана, што чалавечае параможа — возьме верх — як толькі зменіцца сітуацыя: вось выйдзе Віктар на пенсію, пазбавіцца путаў ды шораў і…

Але, прынамсі, мне хочацца аднаго: каб іхнія дзеці — сын і дачка — сустрэліся і пазнаёміліся… Мінск, вядома, вялікі горад, але плошчаў у ім няшмат» .

Вышэй я пісаў ужо пра асобную ўфармаванасць творчасці таленавітага пісьменніка, дазволю яшчэ адну намётку: па тым тэматычным пласце творчасці Барыса Пятровіча, у тым ліку і апошняга часу, я маю на ўвазе каханне, у яго напісана даволі шмат твораў рознага жанру і аб'ёму, дык ці не час іх выдаць пад адной вокладкай? Тым больш, што і назва ўжо ёсць, — адметная і запамінальная.

І, бадай, галоўная нечаканка нумара — знойдзеная ў гродзенскім архіве аповесць Васіля Быкава «Атака». Асабіста мяне найбольш даймала пытанне, чаму аўтар не выдрукаваў гэты твор, і ўвогуле, ці прапаноўваў яго рэдакцыям перыядычных літаратурных выданняў? Як вынікае з прадмовы Сяргея Шапрана, такой спробы, відаць, не было. Быкаў, ад часоў маладосці будучы чалавекам сціплым і самакрытычным, пэўна, унутрана адчуваў некаторую пахібнасць тэксту гэтай аповесці. Таму асобныя яе праявы ён, тым ці іншым чынам, перанёс у свае наступныя творчыя задумкі і мастацкія рэчы, такія, як «Праклятая вышыня» і «Мёртвым не баліць». Цікава, што і сама аповесць пачынаецца кароткім, як прысуд, сказам: «Атака не ўдалася». Чамусьці гэты першы сказ кінуўся ў вока. Аднак жа сам мастацкі твор знанага пісьменніка цікавы як факт нашай літаратуры, як спадчына вялікага творцы беларускай нацыі, як праследжванне эвалюцыі яго творчага і мастацкага плёну. Ды і як бы не ставіцца да асобных недапрацовак аповесці, а ўсё ж яна чытаецца жыва і напружана, мае відочныя яркія кінапанарамныя планы і запамінальныя вобразы ды характарыстыкі людзей крывавага ваеннага часу.

Не менш чытэльныя і іншыя тэксты часопіса. Важна, што большасць з іх мае дабротны мастацкі ўзровень, надзённасць і палемічную аснову. Асабліва ўражвае крытычны раздзел. Амаль сур'ёзны dослед Наталлі Якавенкі «Што за справа мастаку да лямантау крытыкі?» заявачным пасылам выяўляе своеасаблівы задзірысты настрой для сяброўскай літаратурнай палемікі і развагі, а можа нават і бяскрыўднай спрэчкі. Бо пытанні Наталляй падаюцца як бы не наўпрост да сябе самой, а найперш да чытачоў і аўтараў. Думаю, пасля такіх артыкулаў наш літаратурны працэс будзе набываць рысы большай дэмакратычнасці і «прававажой» абароненасці, і стане цікавейшым для самой чытацкай аўдыторыі.

Крытык маладзейшага пакалення Дзяніс Марціновіч, рэцэнзуючы кнігу вядомага музыкі і спевака Лявона Вольскага «Міларусь», ідзе супраць агульнай калялітаратурнай фіміамнай плыні. Ён паставіўся да выдрукаваных тэкстаў даволі сур'ёзна і крытычна, даючы ім як мастацкую, так і грамадска-палітычную ацэнку пэўнага моманту. А рэзюмуе наступнай фразай: «…калі ў некаторай катэгорыі чытачоў і занудлівых крытыкаў яшчэ ўзнікнуць пэўныя пытанні, то адданыя фанаты «N.R.M.» і «дзеці перабудовы» атрымаюць ад кнігі сапраўднае задавальненне».

Рэцэнзія Ірыны Шаўляковай на зборнік вершаў Аксаны Данільчык вызначаецца ўласным інтэлектуальна-эстэтычным панарамным поглядам на творчасць адметнай сучаснай паэткі і перакладчыцы з італьянскай мовы.

Крытык Максім Жбанкоў робіць пашыраную анатацыю да відэафільма рэжысёра Віктара Корзуна «Эпоха Барадуліна», дыск з якім прыкладваецца да гэтага нумара часопіса.

Вінцэсь Мудроў у сваім эсэ з нагоды юбілею Алега Мінкіна «Дзень рыбака» прыпомніў свае меладрамна-камічныя прыгоды разам з выдатным паэтам, што адбыліся напачатку васьмідзясятых у ваколіцах Венспілса. Калі ў паэзіі Алег Гаўрылавіч схільны да кніжнасці, то ў рэальным жыцці да перформансаў. Гэта не толькі мне вядома. З юбілеем, калега па няшчасці!

Не прамінуў часопіс годна адзначыць юбілей выдатнага паэта, пісьменніка і крытыка Міхася Стральцова. Ціханам Чарнякевічам выдрукаваны лісты Міхася Лявонавіча да Рыгора Барадуліна з папярэдняй цікавай прадмовай. Працягвае тэму эсэ Анатоля Кудраўца «Як лісцё на голлі дрыжачым» пра жыццё і смерць М. Стральцова. «Услед за Максімам Багдановічам і Максімам Гарэцкім Міхась Стральцоў больш чым хто спасціг драматызм беларускай душы. Драматызм гэты гістарычна абумоўлены. Ён у пастаянным адчуванні сябе выгнаннікам, чалавекам з Радзімай, але без роднай хаты. Чужы на сваёй зямлі, чужы сярод сваіх».

Народны паэт Ніл Гілевіч працягвае публікацыю сваіх дзённікаў дзевяностых гадоў. Гэтым разам — «Год дзевяноста дзявяты». Гэта асабліва цікавае чытанне для людзей абазнаных у тагачасных літаратурных і грамадскіх варунках. Злабадзённыя дакументы часу даюць праекцыйны погляд на пакуль яшчэ не надта доўгую незалежную гісторыю нашай дзяржавы. Погляд чалавека страснага, самаўлюбёнага, як і кожны творца, але годнага і вернага ідэалам Беларушчыны.

Нейкім чынам гэтыя запісы можна паставіць блізу заключнай порцыі ўспамінаў Алеся Усені «Мой лістапад…». Пра іх займальнасць і чытэльнасць я ўжо не раз пісаў, таму не буду паўтарацца, хіба што для аўтара адцемлю, што пісьменніку нявартa пераступаць маральна-этычныя каноны, «выпісваючы са свайго рамантычнага мінулага» некаторыя балючыя дзявочыя характары і вобразы, як тое здарылася ў замалёўцы «Выпрабаванне, якога не было». Зрэшты, у кожнага творцы свой погляд на тыя ці іншыя рэчы і сітуацыі.

Ёсць што пачытаць і апроч упомненага. Проста вышэй агледжанае больш запала ў душу. Думаю, не без зваротнага водгуку застануцца адметныя дабротныя нізкі вершаў Васіля Зуёнка і Юркі Голуба. А вось аповед Сяргея Верацілы «Чай з мятай, цыгарэта з мянтолам» падаўся мне другасным, як зместам, так і па форме. Тэма выпадковых любошчаў даволі зацяганая ў літаратуры і ў вусных показках, хоць трэба прызнаць, напісана майстравіта, ходкай сучаснай мовай, свежа і ясна.

Філасофіяй нацыянальнага жыцця і тонкім лірызмам вызначаюцца падборкі вершаў вядомых паэтаў Алеся Камоцкага і сёлетняга юбіляра Алеся Гібок-Гібкоўскага. Просценькае, але жывое і рэчаіснае апавяданне мастака і паэта Лявона Валасюка «Сяржант». Тады як аповед «Розум калектыўнае свядомасці» Андрэя Дзічэнкі, напісаны ў стылі кіберпанку, мне спадабаўся. Тэкст па-маладому празрысты, не зважаючы на зместавыя галюцынацыі. Напісана ашчадна і, бадай, з пазнакай вартасці. Яшчэ трошкі заглыбленасці — і ўсё ў гэтага аўтара атрымаецца. Вершы Юліі Бо маюць шырокі фізічны дыяпазон і тэмперамент, але звужанае духоўнае ўзрушэнне. Унутраны творчы ціск высокі, але магчымасць яго вольнага мастацкага выхаду інтэлектуальна не сфармаваная. Адсюль перанапруга сэнсаў і зместу, аднак ёсць і ўдачы. Адметныя пераклады вершаў немца Петэра Хухеля (Я. Ананка і Г. Кіршбаум), сучаснай кітайскай паэзіі (В. Гапеева). Публікуюцца нататкі Рыгора Барадуліна пра нараду маладых літаратараў 1955 года, артыкул Уладзіміра Содаля пра станаўленне Янкі Купалы як беларускага песняра, тэкст Славаміра Адамовіча пра Кнута Гамсуна і яго ж пераклад ліставання будучага нобелеўскага лаўрэата з жонкай Марыяй, матэрыялы Ларысы Раманавай пра арганізатара Веткаўскага музея народнай творчасці Фёдара Шклярава, гутаркі Андрэя Масквіна з паэтам Міхасём Скоблам, Кацярыны Безмацерных — з мастакамі Антанінай Слабодчыкавай і Мікалаем Гуліным. Напрыканцы часопіса ў сімвалічным раздзеле «Практыкум» публіку як можа цешыць і суцяшае сваімі проза-вершаванымі «Вяртанкамі…» белафін з Хельсінкі Якуб Лапатка.

Чытайце. Узрушайцеся і разважайце. Настройвайцеся на вясну…

ЭКСПРОМТЫ

# ХВАЛАСПЕВЫ

**аўтарам зборніка «У краіне паэтаў = Au pays des poetes» / Пераклад на французскую Н. Дзябольскай).**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**


Фота Юліі БАЖОК

## Прызы прэзентацыі

*Пастаўлю злюбнасці пячаць*
*перш, чым рыфмоіды пачаць,*
*бо адкрываюцца сакрэты:*
*у свежым воблаку паэты*
*і па-французску загучаць.*
*Перастварэнні — як бальзам —*
*дала Дзябольская-мадам,*
*каб залагодзіць сэрцы нам.*
*Яна з Масквы хадой удумнаю*
*разгойдвала Еўропу тлумную, —*
*і праз натхнёны пераклад*
*зноў Беларусь знайшла пасад.*
*...А тым, хто легчы ў том паспеў,*
*экспромтна склаў я хваласпеў.*

## Пчолка

***Душа нектар свой, быццам пчолка,***
***усё шукае ў полі руху.***
***Ніна Мацяш***

*Вясёлкай Ніначка была.*
*Жыла у Ніны*
*жар-птушка; пчолка з ёй піла*
*нектар з каліны.*
*Трыпутнік радасці лячыў*
*усе сустрэчы...*
*І як яе праз далячынь*
*крануць за плечы?*
*Бог будзе за яе старацца,*
*каб кожны верш быў за пасла.*
*Сцяжынка помыслаў і працы*
*між нас быллём не парасла.*

## Нарцыс

***«Каб ты здраднікам стаў!» —***
***хтосьці зноў пракляне.***
***Анатоль Сыс***

*А хто для нас на сёння Сыс?*
*Бунтар, ваяр або нарцыс?*
*Ён Беларусь кладзе ў агмень.*
*Ён грэе «Лён»... Ідзе духмень.*

## Галавастая Венера

***Стаю ля яе ў задуменні...***
***Уладзімір Караткевіч***

*Я, Венера, зноў у палоне.*
*Ох, сумуе маё ўлонне.*
*Безгаловыя дзе мужы?*
*Дзе начуеце вы сягоння?*
*Узяліся зноў за нажы?*
*Зноўку зброя і зноўку сечы?*
*Прыпыняю свае пытанні.*
*Сцеражыцеся: на світанні*
*я хачу вам... насы адсекчы.*

## Нясканчоны

***Пацвердзяць чарадзей і маг,***
***Чаго каштуюць***
***Кіў і мах.***
***Рыгор Барадулін***

*Пацвердзяць чарадзей і маг,*
*Чаго каштуюць кіў і мах.*
*Пацвердзяць інцэль і сатрап:*
*Каханне — зірк,*
*нялюба — храп.*

## Удружу!

***Шукаю сутву быцця***
***і сутву нябыту шукаю...***
***Аксана Спрынчан***

*Каюся і грашу...*
*Асцерагаюся не за душу:*
*раптам, як папрашу,*
*сутву тваю парушу.*
*Полымем я кружу,*
*небу твайму служу...*
*Так я табе скажу:*
*— Пікнеш — заваражу,*
*табе*
*сябе*
*удружу.*

## Панцак з макам

***Кот Базыль катаўся ў гамаку,***
***На абед пасёрбаўшы са смакам***
***З малаком густога панцаку***
***Ды заеўшы абаранкам з макам.***
***Міхась Скобла***

*Кот Базыль у гамаку*
*не заснуў ад панцаку:*
*мала было смаку.*
*Не адчуў ён смаку.*

*Папрасіў у Міхася:*
*— Дай мне дозу для лася.*
*Ці баішся ты кату*
*даць на пробу муркату?*

*Кот Базыль пачуў: — Мур-мур!*
*пакладу табе ў каптур*
*свае вершы-дотыкі.*
*Вер: яны — мурtotal.*

## На перакладзіне

***Я не пішу –***
***перакладаю.***
***Алесь Разанаў***

*Без эмоцый, асцярожна*
*на Берлін, Белаазёрск*
*перакладаца сёння можна,*
*лёд жыцця гусціць у воск.*
*Як жа мне Шляхоў баяцца?*
*Не калодзеж я, не глыж...*
*І мяне не возьме трасца:*
*не пісаць — перакладаца*
*буду я, каб узнаўляцца.*
*Сустракай мяне, Парыж!*
*Ты са мною загрымііш:*
*Эйфель сам перакладаць*
*будзе мне дапамагаць,*
*вершавежы падстрыгаць.*

## Ногі-абярогі

***Не чапайце***
***Айчыну,***
***якая носіць народы.***
***Валерыя Кустава***

*Каб абмерыць Айчыну,*
*ногі топчуць лагчыну.*
*дзе знайшла я сцяжыну:*
*прабягала ў Еўропу,*
*але збілася з тропу.*

*Я, Валерыя Кустава,*
*легла ў ложа пракруcтава, —*
*толькі б ногі прамчалі*
*праз усе перашкоды*
*і ў Еўропе звыроды*
*Беларусь не чапалі:*
*з ёй нашу я народы.*

*Я ж сама — вершаў куль!*
*Рыфмы ў Рым завядуць...*
*А зачэпіць патруль, —*
*ператворыцца ў ртуць:*
*раскажу я, адкуль*
*мае ногі растуць.*

## Прэлюдыя і выснова

***Вытрывай,***
***Мова,***
***Праз —***
***Зьнічаванне...***
***Зьніч***

*Вытрывай, Мова,*
*прас разагрэты.*
*Зьніч мае Слова, мае сакрэты.*
*Стане, хто знае іх,*
*поруч маліцеля —*
*Зьніча-філосафа,*
*Зьніча-будзіцеля.*

## Транжыр

***Сэрца сваё я транжыру***
***з легкадумнасцю юначай...***
***Васіль Жуковіч***

*Між паэтаў па ранжыру*
*сэрца я сваё транжыру,*
*бо на гумар, на сатыру*
*сілы трачу. Мне б кефіру, —*
*і я зноў забагатыру.*
*Глянуць на мяне юначкі —*
*сэрца ўспыхне ад гарачкі.*
*А тады і ўсе балячкі*
*згінуць, як вазьму я ліру,*
*прытулюся да слухачкі:*
*хай паверыць мне, транжыру,*
*што пішу з яе падачкі.*
*Без любоўнае заначкі*
*як з пустое палівачкі*
*выцякаюць вершы-спячкі.*
*Я ж служу святому кліру.*

## Ніхто...

***Саджу рэмантантныя ружы,***
***Але ніхто не прыходзіць дзівіцца...***
***Валянціна Аксак***

*— Рэмантантныя ружы — на дол:*
*не прыходзяць на іх падзівіцца...*
*— Мо на сукні у вас, жартаўніцы,*
*не такі ўжо высокі падол?*
*— Ох, паэты... Вам сняцца спадніцы —*
*толькі кожны з вас гол як сакол.*
*Я ж бяру рамантычны падзол,*
*сею з рук Еўфрасінні-чарніцы*
*рэмантантныя ружы-зарніцы.*
*Кветкі любасці стаўлю на стол.*
*— Валянціна! Вы ўся з таямніцы.*
*На букет мы ідзем падзівіцца,*
*каб натхніў ваш цнатлівы прыкол.*

## Лавіце міг

***Любоў — не прыдарожны знак...***
***Сяргей Панізьнік***

*Вяроўка на хрыбце ўпацела.*
*Дажыўся... А не быў лайдак.*
*Ды сам жа напісаў, аднак:*
*«Любоў — не прыдарожны знак,*
*шытво*
*паміж душой і целам».*

## Эскіз экстаза

***Зноў па лёсе маім ты прайшоў,***
***Ці то я па тваім праляцела,***
***Электрычка змяёй прашыпела,***
***Светлы дзень у нябыт адышоў.***
***Таіса Трафімава***

*Зноў па лёсе маім ты прайшоў,*
*Прашыпела я электрычкай.*




*Я не стану дзяўчынай-пстрычкай.*
*Ой, кіпіць маёй раны шоў...*
*Залячы! І я буду знічкай, —*
*каб мяне ў Маладэчне знайшоў.*

## Учырванелая кніга

***Ад людзей патыхае смагай,***
***Завіваюцца валасы.***
***Іна Каляда***

*Ад мяне патыхае смагай,*
*Завіваюцца валасы.*
*У паэзіі я з адвагай*
*не башмачуся для красы.*
*Ды «Чырвоную кнігу» вершаў*
*на Каляды дальбог спалю.*
*Будзе доказ для нашых гейшаў:*
*ледзяных людзей не люблю.*

## Слон успамінаў

***Гартае восень жоўтыя лісты —***
***старую кнігу вечных успамінаў.***
***Генадзь Бураўкін***

*Гартае восень і мае радкі.*
*А я не зломак. Вечар гаваркі*
*і сёння падыму на смелы хохат.*
*Слана ўспамінаў я вазьму за хобат,*
*каб не таптаў асеннія вянкі.*
*Век залаты не знікне з-пад рукі.*

## Вячэрні эцюд

***У шаліках, як самагубцы,***
***Спяшаюцца людзі па вуліцы.***
***Эдуард Акулін***

*Ні мячоў сёння ў іх, ні трызубцаў,*
*трыкалёра няма і «Пагоні»...*
*Глянь: у шаліках — самалюбцы! —*
*людзі пляскаюць у далоні.*

## Анёлы

***Як час настаў —***
***і рушыў я да Бога.***
***Уладзімір Някляеў***

*Як час настаў —*
*і рушыў я да Бога.*
*Ды побач, паглядзеў я,*
*анікога.*
*І толькі з неба зык:*
*— Ідзеш? Куды?*
*— Нясу нямому*
*лыжачку вады.*

## Адповедзь

***Калісь глядзеў на сонца я...***
***Максім Багдановіч***

*Калісь глядзеў на сонца я...*
*З мяне рагочуць, сэрца кліняць...*
*Але любоў не спалавіняць,*
*бо Беларусь — бясконцая!*
*Адповедзь зыркая мая:*
*не слепніце, калі вас хіляць...*
*А сонца*
*цэні не знясіляць.*

ПЫТАННЕ

# РЭЙТЫНГ АД СОТНІ КАЛЕГАЎ

*Паважаная «Літаратурная Беларусь», нядаўна пачула, што сусветныя літаратары найлепшымі кнігамі лічаць творы расійскіх пісьменнікаў Льва Талстога і Уладзіміра Набокава. Якія менавіта гэта творы — і хто праводзіў тое апытанне?*
*Наталля Цімафееўна ГОРЫК, г. Бабруйск*

І насамрэч, нядаўна больш ста вядомых пісьменнікаў ЗША і Вялікабрытаніі склалі калектыўны спіс сваіх любімых кніг: найчасцей сярод твораў XIX стагоддзя ў ім называлася «Ганна Карэніна», сярод твораў XX стагоддзя — «Лаліта».

Пісьменнікі, якія прымалі ўдзел у апытанні, не маюць патрэбы ў дадатковых прадстаўленнях: Стывен Кінг, Норман Мэйлер, Джонатан Франзэн, Джойс Кэрол Оутс і іншыя. Кожнага папрасілі скласці спіс з дзесяці найвялікіх, па іх меркаванні, твораў сусветнай літаратуры. Агулам пісьменнікі назвалі 544 розныя кнігі; пасля чаго арганізатары апытання падлічылі балы, якія атрымала кожная, і склалі выніковыя «дзясяткі» найвялікіх твораў XIX і XX стагоддзяў.

І ў тым, і ў іншым спісе не было асаблівых неспадзевак. «Хіт-парад» XIX стагоддзя «падмяў пад сябе» Леў Талстой, два галоўныя творы якога — «Ганна Карэніна» і «Вайна і мір» — занялі першы і трэці радкі спісу (адзначым, што Талстой таксама ўзначаліў спіс пісьменнікаў, якія набралі больш за ўсё балаў — у суме розныя яго раманы набралі 327 ачкоў). Паміж двума творамі Талстога размясціўся Гюстаў Флабэр з «Мадам Бавары»; месцы з чацвёртага па пятае занялі Марк Твэн з «Гекльберры Фінам» і Антон Чэхаў з апавяданнямі, а за імі рушылі ўслед «Мідлмарч» Джорджа Эліёта, «Мобі Дзік» Германа Мелвіла, «Вялікія надзеі» нядаўняга юбіляра Чарлза Дыкенса (чытайце пераклад яго апавядання на стар. 12–13 гэтага нумара «Літаратурнай Беларусі»), «Злачынства і пакаранне» Фёдара Дастаеўскага і, нарэшце, «Эма» Джэйн Осцін.

Галоўнымі літпостацямі ў спісе мінулага стагоддзя сталі Уладзімір Набокаў і Джэймс Джойс: у сукупнасці яны занялі чатыры месцы з дзесяці, прычым два раманы Набокава («Лаліта» і «Бледнае полымя») адкрываюць і зачыняюць дзясятку, а два творы Джойса (раман «Уліс» і зборнік апавяданняў «Дублінцы») занялі чацвёртае і пятае месцы. Джойса абышоў на адну пазіцыю яго галоўны «канкурэнт» па мадэрнісцкай практыцы — Марсэль Пруст са сваёй сямітомнай працай «У пошуках страчанага часу», якога, у сваю чаргу, абагнала куды больш лаканічная амерыканская класіка ў асобе «Вялікага Гэтсбі» Фрэнсіса Скота Фіцджэральда. Месцы з пятага па дзясятае ад XX стагоддзя занялі Габрыэль Гарсія Маркес («Сто гадоў адзіноты»), Уільям Фолкнэр («Шум і лютасць»), Вірджынія Вулф («На маяк») і Фланнэры О'Коннар са зборнікам апавяданняў.

КАЛЕЙДАСКОП

# СКАРОЧАНЫ «АЙВЕНГА»

**Узорна-паказальнай можа стаць аперацыя, праведзеная над класічным раманам Вальтэра Скота «Айвенга». Твор... перапісалі.**

Апошнім часам сэр Вальтэр Скот страціў ласку брытанскіх чытачоў. Яны скардзіліся на нязграбнасць і шматслоўнасць кніг пісьменніка. Шатландскія навукоўцы вырашылі спрасціць працу прадстаўнікам пакалення, што вырасла на кнігах Джоан Роўлінг і Дэна Браўна. Як паведамляе Telegraph, прафесар Дэвід Пэрдзі перапісаў раман «Айвенга», які апавядае пра падзеі XII стагоддзя. Навуковец скараціў кнігу да 80 тысяч слоў (з 179 тысячаў арыгінала).

Старшыня клуба прыхільнікаў Вальтэра Скота спадзяецца такім чынам аднавіць любоў да пачынальніка жанру гістарычнага рамана. Але яго добрыя намеры сустрэлі неразуменне ў пурыстаў. Некалькі навукоўцаў-філолагаў запатрабавалі, каб новы «Айвенга» выходзіў не пад імем Вальтэра Скота, а пад імем Дэвіда Пэрдзі.

Сам аўтар адаптацыі катэгарычна не згодны з нападкамі і запэўнівае, што ў такім выглядзе Скот мае шанцы вярнуцца да чытача, які з цяжкасцю прадзіраецца праз яго тэксты з іх састарэлай стылістыкай і арфаграфіяй.

Прафесар сцвярджае, што пасля ўдалага доследу з «Айвенга» ён мог бы выкарыстаць той жа метад «лекавання» ў дачыненні да іншых раманаў класіка.

Рэакцыю маладых сябраў клуба Вальтэра Скота можна выказаць словамі «Давай-давай!». Прафесар Пітэр Гарсайд прытрымліваецца кампраміснага пункту гледжання: «Гэта, вядома, не Вальтэр Скот. Але гэтыя тэксты могуць прыцягнуць увагу да арыгіналу».

# РОЎЛІНГ НАПІША НЕ ПРА ПОТЭРА

**Брытанская пісьменніца Джоан Роўлінг падпісала дамову пра публікацыю свайго першага рамана, у якім не будзе Гары Потэра, паведамляе The Telegraph.**

Кнігу выпусціць выдавецтва «Little, Brown», якому належаць правы на сагу «Змярканне» Стэфані Майер. Прадстаўнікі кампаніі не раскрываюць ні тэрмінаў, ні жанру, у якім будзе напісаны твор, — яны толькі сцвярджаюць, што кніга не будзе падобнай на серыю кніг пра Гары Потэра.

Але цікава іншае: Роўлінг упершыню аддасць кнігу не англьскаму выдавецтву Bloomsbury — таму, у якім у далёкім 1997 годзе паверылі ёй і ўзялі яе раман пра маленькага хлопца-акулярыка, які нечакана для самога сябе аказаўся чараўніком. Супрацоўніцтва доўжылася дзесяць гадоў — апошняя, сёмая кніга серыі выйшла ў 2007 годзе. За гэты час Роўлінг ператварылася ў самага паспяховага пісьменніка сучаснасці, яе ганарар ацэньваецца ў 530 млн. фунтаў стэрлінгаў, а раманы пра Гары Потэра выдадзены ва ўсім свеце накладам 450 мільёнаў — што, зразумела, прынесла свае дывідэнты і выдаўцам.

Зрэшты, у Bloomsbury зрабілі «добрую міну пры дрэннай гульні». Прадстаўнікі выдавецтва нагадалі, што сёлета будуць святкавацца 15-ыя ўгодкі з часу выдання першай кнігі («Гары Потэр і філасофскі камень») і заявілі, што іх сувязі з Роўлінг застаюцца вельмі моцнымі.

Правы на будучую кнігу дасталіся «Little, Brown» без барацьбы з іншымі монстрамі выдавецкай справы — прапанова не была выстаўлена на адкрыты аўкцыён і, мабыць, дамова з'явілася вынікам нейкіх таемных перамоў. Што ж да зместу рамана... Адзіным, хто рызыкнуў зрабіць здагадкі адносна яго сюжэта, стаў пісьменнік Іэн Рэнкін, які жыве ў Эдынбурзе: ён заявіў, што гэта будзе дэтэктыў, а месцам яго дзеяння напэўна будзе шатландскі Эдынбург. Магчыма, ён і мае рацыю: першую кнігу Роўлінг пісала за столікам аднаго з эдынбургскіх кафэ, дзе ратавалася ад холаду...

ПАСТАНОЎКА

# «ПІРАТЫ ЎСЯГО СВЕТУ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!»

**Вядомы бразільскі пісьменнік Паўло Куэльё выступіў у падтрымку торэнт-трэкера «The Pirate Bay», а таксама заклікаў «піратаў усяго свету» аб'ядноўвацца.**



Пісьменнік у сваім блогу назваў «The Pirate Bay» «новым і цікавым спосабам прамоцыі мастацтва». «У вас ёсць музычны гурт? Вы кінапрадусар? Актор? Аўтар мультфільмаў? Яны выставяць спасылку на вашую працу на галоўнай старонцы. Як толькі я зразумеў гэта, я вырашыў далучыцца. Некаторыя мае кнігі тут ёсць. Рэальныя продажы маіх кніг толькі выраслі з таго часу, як карыстальнікі запампавалі кнігі на торэнты», — напісаў П. Куэльё.

Ён таксама папрасіў: «Калі ласка, спампоўвайце мае кнігі бясплатна, і калі вам спадабаецца, купіце потым сапраўдную: гэта наш спосаб сказаць індустрыі, што прагнасць вядзе ў нікуды». Куэльё дадаў, што бачыць у Інтэрнэце прыкметы новых часоў з прынцыпова іншым стаўленнем да ідэяў. «Прайшлі назаўсёдна старыя добрыя часы, калі ў ідэі быў уладальнік. Па-першае, таму, што мы ўсе толькі перапрацоўваем адны і тыя ж чатыры гісторыі: каханне паміж двума людзьмі, любоўны трохкутнік, барацьба за ўладу і падарожжа. Па-другое, таму, што ўсе пісьменнікі хочуць толькі, каб іх чыталі, усё роўна дзе: у газеце, блогу, брашуры аб на сцяне», — адзначыў ён.

Варта згадаць, што нядаўна Паўло Куэльё актыўна выступаў супраць прыняцця ў ЗША антыпірацкага законапраекта «SOPA», называючы яго «рэальнай пагрозай, прычым не толькі для амерыканцаў, але і для ўсіх нас, бо закон паўплывае на ўсю планету».

ВОПЫТ

# КНІЖНАЯ ПЛОШЧА

**У 2011 годзе бібліяфілы прапанавалі змяніць успрыманне кнігавыдання, а таксама адступіць ад звыклага фармата друкаванай кнігі. І калі заходні літаратурны працэс развіваўся ў сферы тэхналогій і інтэрнэт-камунікацый, то літаратурны свет Расіі і Украіны рабіў стаўку на камернасць.**

## Англія

У краіне функцыянуе кнігавыдавецкая платформа «Unbound». Адзін з яе заснавальнікаў Джасцін Поддард прапанаваў зусім новы падыход да кнігавыдання. На сайце функцыянуе форум, дзе аўтары могуць прадставіць праекты сваіх кніг. Калі чытачы зацікаўлены ў выданні, яны могуць фінансава падтрымаць праект. Чытачы і пісьменнікі могуць абменьвацца меркаваннямі, запрашаць сяброў, ствараць групы прыхільнікаў і г.д. Акрамя таго, выдавецкая платформа «Unbound» абяцае пісьменніку 50% усяго прыбытку, атрыманага ад продажу кніг.

Кніжнае выдавецтва «Faber & Faber» падтрымлівае сервіс «Unbound» і мае намер друкаваць новыя кнігі на паперы.

## ЗША

Выдаўцы «Melville House Books» вырашылі аб'яднаць кнігу, тэхналогіі смартфонаў і iPad, выкарыстоўваючы QR-код. Праект атрымаў назву «HybridBook». Кнігі, выдадзеныя ў межах гэтага праекта, у дадатак да тэкставага змесціва, атрымліваюць лічбавае суправаджэнне: карты, фотаздымкі і ілюстрацыі, злучаныя з арыгінальным тэкстам. Так, новае жыццё атрымалі кнігі Джакомо Казановы, Джозафа Конрада, Антона Чэхава і Аляксандра Купрына. Выданні праекта можна набыць як у лічбавым, так і ў друкаваным выглядзе.

## Расія

У нашай усходняй суседкі пачалі адкрываць культавыя кнігарні («Фаланстар», «Цыялкоўскі» і інш.), якія прапануюць у першую чаргу ўспрыманне кнігі як кнігі, а не як тавара масавага збыту. З гэтай мэтай быў створаны Альянс незалежных выдаўцоў і кнігагандляроў. Працоўная група ў складзе некалькіх выдавецтваў і кнігагандлёвых арганізацый плануе «не ратаваць карпаратыўную кніжную індустрыю, якая цяпер знаходзіцца ў глыбокім крызісе, а стварыць у Расіі паралельную кніжную прастору, дзе кніга перастала б быць толькі забаўкай ці таварам. Апроч камерных крам веснікам Незалежнага Альянсу стаў кніжны кірмаш «Новая плошча», які ладзіцца ў верасні ў Маскве.

## Украіна

Ва Украіне кніжных фетышыстаў і ўсіх чытачоў пацешылі дзве буйныя міжнародныя падзеі: паэтычны фэст «Meridian Czernowitz» у Чарнаўцах і «Кніжны Арсенал» у Кіеве.

На «Meridian Czernowitz» прыехалі паэты, мастакі і музыкі з 12 краін: Нямеччыны, Аўстрыі, Швейцарыі, Малдовы, Украіны, Расіі, Польшчы, Румыніі, Ізраіля, Францыі, Вялікабрытаніі і ЗША. Адмысловым госцем фэсту быў Томас Вольфарт — дырэктар «Literaturwerkstatt Berlin».

Асаблівасцю «Кніжнага Арсенала» стала імкненне выйсці за межы будзённага літпрацэсу. Арганізатары адышлі ад звыклага для наведвальнікаў кніжных фэстаў «кірмашовага» фармату і адлюстравалі развіццё тэхналогій, узаемасувязь літаратуры з шырокім сацыякультурным кантэкстам ды іншымі відамі мастацтва: візуальнага, медыйнага, музычнага.

**Старонка падрыхтаваная паводле матэрыялаў www.telegraph.co.uk, vsiknygy.net.ua, www.znaki.fm.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 6 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 9:00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Дыялогі аб цывілізацыі.
**11.00** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія).
**12.10** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**13.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**15.50** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.25** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.15** Зона Х.
**19.35** Калыханка.
**19.55** Крымінальная меладрама «Надзея» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Ведай нашых.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Я яму веру» (Расія).
**22.55** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Крымінальны баявік «Стралок» (ЗША).

### АНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Таткі». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Крымінальныя хронікі».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі».
**22.35** «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі. Фінал.
**23.50** «Пражэктарпэрысхілтан».
**00.30** Фільм «Люстэрка».
**02.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**08.40** «Вялікая нафта». Серыял.
**09.35** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Праваахоўнікі... ». 

**14.40** «Інструктар». Серыял.
**15.35** «Правакатар». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінчшына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.55** Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па футболе. Прамая трансляцыя.
**22.00** «Гучная справа».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**23.40** «Механічны апельсін».
**00.35** «Выклік на мільён даляраў».

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Драматычны серыял «На нажах» (Расія). 3-я серыя.
**11.00** Ясі і худзей.
**11.35** Школа рамонту.
**12.40** Час футболу.
**13.25** Страсці па культуры.
**14.15** Прыгодніцкі фільм «Рускія браты» (СССР).
**15.50** Мультфільм «Дванаццаць месяцаў».
**16.40** Жансавет.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Фантастычная прыпавесць «Ракавыя яйкі» (Расія-Чэхія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**22.20** Фактар сілы.
**22.50** Трансляцыя Хроснага Шляху.
**00.35** Меладрама «Сомерсбі» (ЗША-Францыя).

### Беларусь 24

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**05.20** Праграма «Таямніцы манежа».
**06.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Мультсерыял «Фархат, прынц Персіі».
**06.40** Праграма «Цік – так».
**07.00** Навіны Садружнасці.
**07.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**08.00** Навіны Садружнасці.
**08.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**09.25** Праграма «Смачны свет».
**10.00** Навіны Садружнасці.
**10.05** Мастацкі фільм «Час для развагання».
**11.00** Навіны Садружнасці.
**11.05** Мастацкі фільм «Час для развагання» (Працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**13.30** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.55** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**14.30** Тэлесерыял «Вавёрка ў коле».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**17.00** Навіны Садружнасці.
**17.05** Праграма «Правілы жыцця».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Праграма «Акцэнты».
**18.40** Праграма «Зроблена ў СССР».
**19.10** Мастацкі фільм «Сямейная вячэра».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Праграма «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.20** Праграма «Любімыя акцёры».
**22.50** Мастацкі фільм «Вяселле з пасагам».
**01.05** Праграма «Добрыя жарты».
**02.05** Тэлесерыял «Ваўчыца».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая передача.
**08.25** Брудная работка.
**09.15** Смяротны улоў.
**10.10** Разбуральнікі легенд.
**12.00** З чаго гэта зроблена?
**12.30** Вокамгненныя катастрофы.
**12.55** Выжыць любым коштам.
**13.50** Махінатары.
**14.45** Пятая передача.
**15.40** Амерыканскі чопер.
**16.35** Брудная работка.
**17.30** Смяротны улоў.
**18.25** Разбуральнікі легенд.
**20.15** Выжыць любым коштам.
**21.10** Як гэтае працуе.
**01.45** Разбуральнікі легенд.
**02.40** Насланне.
**04.35** Як гэтае працуе.

### Eurosport

**00.00** Пра рэстлінг.
**00.30** Пра рэстлінг.
**01.30** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн - Кваліфікацыйны раўнд.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат светупа велагонках на трэку. Мельбурн.
**16.30** Конны спорт. Агляд тыдня.
**16.45** Снукер: Адкрыты чэмпіянат Кітая. Пекін - Фінал.
**18.00** Усе віды спорту.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон - 1/4 фіналу.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Час гонару», серыял.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.10** «Школа на санцапёку», серыял: 12 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Ян Павал ІІ і ягоны сябар», дак. фільм, 1999 г., Польшча.
**10.55** Форум (ток-шоў).
**11.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.10** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**12.55** «Час гонару», серыял.
**13.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.05** «Школа на санцапёку», серыял: 12 серыя.
**14.30** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.55** «Ян Павал ІІ і ягоны сябар», дак. фільм, 1999 г., Польшча.
**15.45** Форум (ток-шоў).
**16.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.00** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 1 серыя.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Форум (ток-шоў).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**22.00** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**23.30** «Містэрыя Божае пакуты на Познанскай цытадэлі», 2007 г., Польшча: ч. 2.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Гарачы каментар.

## 7 КРАСАВІКА, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Да цешчы на бліны.
**10.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў».
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**17.15** Дзённік «Еўрабачання».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Драма «Святы Ральф» (Канада).
**21.00** Панарама.
**21.40** Святочнае богаслужэнне Прамая трансляцыя.
**23.40** Меладрама «Маленькая Масква» (Польшча).
**01.40** Дзень спорту.

### АНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** Асяроддзе пасялення.
**10.40** «Смак».
**11.20** «Разумніцы і разумнікі».
**12.05** Фільм «Выйшаў вожык са смугі…».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік».
**16.55** Прэм'ера. «Асцярожна, Нагіеў!».
**17.55** «Адзін супраць усіх».
**18.40** Прэм'ера АНТ: «Акадэмія талентаў». Фінал.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Што? Дзе? Калі?». Фінал.
**22.20** Прэм'ера. Фільм «Жыла-была адна баба».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.10** «Анфас».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Рукі прэч ад Місісіпі». Германія, 2007 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.20** Фільм «Не хадзіце, дзеўкі, замуж». СССР, 1985 г.
**14.40** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Прадаецца дача». Расія, 2005 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Зроблена ў Амерыцы». ЗША-Францыя, 1993г.
**22.20** «Зорны рынг».
**23.35** Тэніс. Кубак Дэвіса. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Дзённік.
**23.45** Фільм «Кароль камедыі». ЗША, 1982 г.

### 2 Беларусь

**07.00** Дабравест.
**07.25** Мір вашай хаце.
**07.35** Скарбніца Гомельшчыны.
**08.00** Музычная камедыя «Свінарка і пастух» (СССР).
**09.35** Пра мастацтва.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Сакрэт фірмы.
**10.40** Школа рамонту.
**11.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.20** Шоў «Інтуіцыя».
**13.20** Наперад у мінулае.
**13.55** Беларуская кухня.
**14.30** Музычная камедыя «Свінарка і пастух» (СССР).
**16.10** Дак. цыкл «Вышэйшая мера…».
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прамая трансляцыя.
**18.55** «Футбол. На шляху да Эўра-2012».
**19.50** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.10** Моладзевая камедыя «Пацалунак на поспех» (ЗША).
**00.05** Шоў «Інтуіцыя».

### Беларусь 24

**05.00** Дак. фільм «Гісторыя ВІА».
**06.00** Праграма «Даведнік».
**06.30** Мастацкі фільм «Грузінская хроніка XIX стагоддзя».
**07.55** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** Праграма «На шашлыкі».
**10.10** Праграма «Таямніцы манежа».
**10.40** Тэлесерыял «Справа была ў Гаўрылаўцы».
**13.30** Дак. фільм «Доказы віны».
**14.00** Праграма «Правілы жыцця».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Мастацкі фільм «Замежны жаніх».
**17.10** Мастацкі фільм «Мэта жыцця».
**20.30** Праграма «Усюды жыццё. Сябры».
**21.00** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**21.50** Каталіцкі Вялікдзень.
**01.10** Дак. фільм пра Сяргея Бандарчука.
**02.50** Тэлесерыял «Справа была ў Гаўрылаўцы».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая передача.
**08.25** Заезды.
**10.10** Мега-будоўлі.
**12.00** Рукатворныя цуды.
**12.55** Гіганцкія будоўлі.
**13.50** Будаўнічая дапамога.
**16.35** У мяне атрымалася!
**17.30** Грандыёзныя пераезды.
**18.55** Патрабуецца зборка.
**19.20** Рукатворныя цуды.
**23.55** Выжыць любым коштам.

### Eurosport

**01.45** Ралі: Ралійная серыя IRC Ірландыя - Дзень 1.
**02.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.30** Ралі: Ралійная серыя IRC Ірландыя - Дзень 1.
**10.00** Фехтаванне: Чэмпіянат свету сярод юніёраў. Масква.
**12.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па велагонках на трэку. Мельбурн.
**16.00** Акадэмічнае веславанне: Оксфард vs Кэмбрыдж.
**17.00** Усе віды спорту.
**17.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**19.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон - 1/4 фіналу.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Чарльстон.
**23.45** Кёрлінг: Чэмпіянат светусярод мужчын. Базель. 1/2 фіналу.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**08.20** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 1 серыя.
**08.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.15** Калыханка для самых маленькіх.
**09.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.05** Форум (ток-шоў).
**10.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.20** «Бландзінка», серыял: 1 серыя.
**12.05** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял: 1 серыя.
**12.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.00** Калыханка для самых маленькіх.
**13.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.35** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**14.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.55** «Зямля», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**15.25** «Чужое шчасце», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 20 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Пінэры зменаў. Іспанія», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**19.05** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 10 серыя.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.20** «Хадзіце на мой голас», рэпартаж, 2008 г., Беларусь.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Каралева», маст. фільм, 2006 г., Францыя–Вялікабрытанія–Італія.
**23.25** «Мент», дэтэктыўны серыял: 16 серыя.
**00.10** «Дэкалог, восем», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**01.05** Аб'ектыў.

ЦІКАВА

# УРАДЫ Ў ВЫГНАННІ

Алег НОВІКАЎ




**Апошнім часам з'явіліся заклікі з прапановай стварыць беларускі ўрад у выгнанні, які прадстаўляў бы і адстойваў нацыянальныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь за мяжой. Што такое ўрад у эміграцыі і для чаго ён патрэбны?**

Кажучы юрыдычнай мовай, урад у эміграцыі — гэта група людзей, якая сцвярджае, што з'яўляецца больш легітымнай уладай для краіны Х, чым урад, які фактычна тую краіну Х у дадзены момант кантралюе. І паколькі з розных прычын знаходзіцца на радзіме група не можа, даводзіцца выконваць урадавыя функцыі за межамі з надзеяй у адзін цудоўны дзень вярнуцца дадому.

Калі сыходзіць з гэтых крытэрыяў, то, напэўна, першым эміграцыйным урадам у гісторыі быў Савет Яго Вялікасці, які дзейнічаў у Нідэрландах у часы Англійскай Рэспублікі. Савет Рэспубліку не прызнаваў і актыўна рыхтаваўся да рэстаўрацыі манархіі на чале з Карлам Другім. У падобным фармаце працаваў дом Бурбонаў пасля Французскай рэвалюцыі. У 1795 годзе, пасля захопу Нідэрландаў французамі, у Лондане быў створаны эміграцыйны офіс Галандскай Рэспублікі, які існаваў тут да 1815-га. У час грамадзянскай вайны ў ЗША дзейнічалі эміграцыйныя кабінеты тых рабаўладальніцкіх штатаў, якія былі акупаваныя войскамі Саюзу.

Аднак у міжнародным праве паняцце «эміграцыйны ўрад» склалася падчас Першай сусветнай вайны, калі ў эміграцыі пабывалі ўрады шмат якіх дзяржаў. Яшчэ ў большых маштабах такая практыка назіралася ў 1939–1945 гадах. Эміграцыйныя ўрады мелі Бельгія, Нарвегія, Францыя, Польшча, Індыя, Грэцыя…

На цяперашні дзень у эміграцыі дзейнічаюць урады наступных дзяржаў: Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), год пачатку дзейнасці за мяжой — 1920, Бірманскі Саюз (з 1990 года), Іранская манархія (з 1979), Лаоскае каралеўства (з 1975), Кітайская Рэспубліка (з 1949), Каралеўства Эфіопіі (з 1974), Арабская Дэмакратычная Рэспубліка Сахраві (Заходняя Сахара) з 1976 года, Тыбет (з 1959), Ісламскія Эміраты Афганістану (з 2001), Заходняя Папуа (з 1963), Біяфра (з 1970), Усходні Туркестан (з 2003), Заходні Курдыстан (з 2004) і г.д. У Еўропе дзейнічаюць цэнтры Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя, аднак з гэтай фармацыяй татальны неразбярыха. У 2007 годзе частка яе кіраўніцтва вырашыла, што Чачні ім замала, і абвясціла сябе ўрадам Каўказскіх Эміратаў, што справакавала ўнутраны канфлікт.

Асобная сітуацыя з Палесцінай, кіраўніцтва якой быццам знаходзіцца не ў эміграцыі, аднак у ААН як асобны сябра не прадстаўлена.

Часам функцыі эміграцыйных урадаў прысвойваюць сабе арганізацыі і партыі. Так, пераемнікамі ўраду В'етнамскай Рэспублікі, якая нягледзячы на дапамогу амерыканцаў ляснулася ў 1975 годзе, лічыць сябе ўрад так званага Свабоднага В'етнаму. Фактычна, аднак, гэта радыкальная антыкамуністычная арганізацыя в'етнамскіх эмігрантаў у ЗША. На базе Паўднёва-заходняй афрыканскай народнай партыі (SWAPO) у 1962 годзе ў Конга ўзнік эміграцыйны ўрад Намібіі і г.д.

Якія магчымасці надае міжнароднае права ўраду ў эміграцыі? Быццам, не такія і малыя. Напрыклад, права мець сваю канстытуцыю, войска, дыпламатычны корпус і нават праводзіць выбары, але галоўнае — быць суб'ектам міжнародных дамоваў.

Аднак амбасады эміграцыйных урадаў можна пабачыць вельмі рэдка. У час вайны фашысцкія дзяржавы прызналі ўрад Свабоднай Індыі (групоўка, якая змагалася супраць брытанскай каланізацыі Індыі). Да 1978 года — што можа лічыцца дыпламатычным подзвігам — у Іспаніі, Ватыкане і Ірландыі Польшчу прадстаўляў эміграцыйны лонданскі ўрад.

У гэтай сувязі значна часцей на прызнанне эмігранты могуць разлічваць з боку калег. Так, эміграцыйны ўрад Грузіі Звіяда Гамсахурдыя прызнаў Чачэнскую Рэспубліку Ічкерыя.

Аднак галоўная функцыя эміграцыйных урадаў, безумоўна, сімвалічная. Сваім існаваннем яны даводзяць, што палітычны рэжым на бацькаўшчыне не мае легітымізацыі. У свой час савецкая прапаганда вялікае месца адводзіла крытыцы эмігранцкіх урадаў Украіны, Польшчы і Балтыі. Асабліва агітпроп смакаваў скандалы ўнутры замежных урадаў. З умовай таго, што асаблівай дынамікі там не было, то такія канфлікты — цалкам натуральная рэч. Трэнд ілюструе цікавы казус, які адбыўся падчас таго, як эміграцыйны ўрад Эстоніі ў 1992 годзе перадаў свае рэгаліі афіцыйнаму Таліну. Тады фракцыя эмігрантаў заявіла, што Эстонская Рэспубліка, якая паўстала ў 1991 годзе, не сапраўдная, паколькі там не дзейнічае канстытуцыя 1938 года. Адпаведна, гэта фракцыя дасюль намагаецца называць сябе сапраўдным эстонскім эміграцыйным урадам.

**У міжнародным праве паняцце «эміграцыйны ўрад» склалася падчас Першай сусветнай вайны, калі ў эміграцыі пабывалі ўрады шмат якіх дзяржаў**

Дарэчы, эміграцыйныя цэнтры могуць не толькі сварыцца. У 1982 годзе кампучыйскія чырвоныя кхмеры і манархісты стварылі эміграцыйны ўрад Дэмакратычнай Кампучыі, які разам і вельмі паспяхова змагаўся супраць в'етнамскіх войскаў, што акупавалі край.

Натуральна, эмігранты спрабуюць уплываць на палітычныя працэсы там, адкуль збеглі. Як вядома, шматлікія сябры лонданскага ўраду Польшчы выступалі на радыё «Свабодная Еўропа». Ёсць больш жорсткі варыянт. Так, у 1999 годзе в'етнамская паліцыя арыштавала групу баевікоў групы Свабодны В'етнам, якія планавалі ўзарваць цэнтральны помнік Хо Шы Міну ў Ханоі.

Які лёс эміграцыйных урадаў? У горшым выпадку, іх могуць папросту фізічна забіць з-за змены кан'юнктуры. Так, былі закатаваныя ўсе сябры ўраду Каталонскай Аўтаноміі, якая пабачыла свет у час Рэспублікі ў Іспаніі. Пасля акупацыі Францыі ў 1940 годзе нацысты перадалі іх Франка. Таксама ўрады могуць проста знікнуць з-за адсутнасці перспектыў, як урад Дэмакратычнай Рэспублікі Грузія, распушчаны ў 1954 годзе. У самым лепшым выпадку, эмігранты становяцца сімваламі апазіцыі і маюць усе шансы вярнуцца на радзіму як героі. Лепшым прыкладам тут з'яўляецца Шарль дэ Голь і яго арганізацыя «Свабодная Францыя». У 1949 годзе першым прэзідэнтам Паўднёвай Карэі стаў Лі Сын Ман, які ўзначальваў эміграцыйны ўрад Карэі, створаны яшчэ ў часы японскай акупацыі.

Часам эмігранты па вяртанні ўступаюць у канфлікты з мясцовымі апазіцыянерамі, якія не жадаюць аддаваць уладу чужакам. Да прыкладу, часовы ўрад Алжырскай Рэспублікі, як дзейнічаў з 1958 года ў Егіпце, пасля рэпатрыяцыі нейкі час змагаўся з Фронтам нацыянальнага вызвалення. Праўда, усё закончылася кампрамісам.

Можна вярнуцца на радзіму не ў статусе кандыдатаў на вялікія пасады, а ў статусе тых, хто сімвалічна захаваў у кепскія для краіны часы дух супраціву, незалежнасці, дэмакратыі. Так сталася з сябрамі эміграцыйных урадаў Эстоніі, Украіны, Польшчы, Літвы. На працягу 1990-х гадоў усе яны склалі свае паўнамоцтвы кіраўнікам краін, якія паўсталі на рэштках савецкага блоку. Гэтая працэдура перадачы сімвалаў улады выклікала ў згаданых краінах вялікі ўздым пачуцця нацыянальнага адзінства. З краін былога СССР толькі Беларусь захавала эміграцыйны ўрад у выглядзе Рады БНР. Пакуль, на жаль, няма ніводнай прыкметы таго, што місія Рады БНР — «адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасці» — страціла актуальнасць, і можна заспакоіцца.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Відавочна, міністрам вядома, што чарговыя, можа і больш жорсткія, чым раней, санкцыі будуць мець абмежаваны ўплыў. Але наўрад ці ЕС можа прапанаваць больш эфектыўную альтэрнатыву.

**«Kristeligt Dagblad» (Данія)**

Калі Лукашэнка, чые пазіцыі і так аслаблі з-за рэзкага падзення курсу рубля, чагосьці баіцца, дык гэта эканамічнага ціску. ЕС павінен прамаўляць аднагалосна, нават насуперак інтарэсам асобных сваіх сябраў. Забарона на выезд для былога старшыні Вярхоўнага савета Станіслава Шушкевіча сведчыць, што Лукашэнка не спыняецца «перад тым, каб браць сваіх грамадзян літаральна ў закладнікі». Еўропа не павінна бяздзейна назіраць за гэтым: нельга вечна ісці на саступкі таму, хто захоплівае закладнікаў.

**«Die Presse» (Аўстрыя)**

Прынятыя Еўропай эканамічныя санкцыі досыць бяскрыўдныя, але яны патрапілі ў болевую кропку. Аляксандру Лукашэнку прадэманстравалі, што ён не можа абараніць «сваіх людзей» і сам не занадта ўплывовы і абаронены, нягледзячы на настойлівую дэманстрацыю беларускім лідарам абавязковай і безумоўнай падтрымкі з боку Крамля.

**BBC (Вялікабрытанія)**

Лукашэнка прайграе па-буйному, як ніколі ў жыцці, і ўжо не зразумела, хто можа прыйсці яму на дапамогу. Гульні ў шматвектарную палітыку, з кідannямі на Захад і на Усход, скончыліся і ўжо нікому не цікавыя. Усё ж гэта жудасна — быць апошнім еўрапейскім дыктатарам.

**Руская служба «Радыё Свабода»**

Пакуль ад інтэграцыі больш за ўсіх выйграў асабіста Лукашэнка. Дзякуючы расійскай падтрымцы, ён утрымлівае ўладу амаль 18 гадоў. Але праяданне мільярдных датацый без рэфармавання немінуча прывядзе Беларусь у зону расійскага рубля як адзінага аплатнага сродку і пакіне толькі фармальныя прыкметы суверэнітэту для рэжыму дзяржавы-марыянеткі, якой будзе дыктаваць свае ўмовы Масква.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Застаюцца два варыянты: палацавы пераварот пры падтрымцы Крамля ці народнае паўстанне ў Мінску. Першы варыянт выглядае верагодней за другі. Але ў абодвух выпадках лёс Аляксандра Лукашэнкі выглядае незайздросна. Былая чэлядзь няўдзячная і не любіць пакідаць у жывых галоўнага сведку сваіх зняваг. Так што палітычную эпітафію кіраванню Лукашэнкі можна пісаць ужо сёння. Прысуд гісторыі гэтаму ідэальнаму дыктатару фактычна падпісаны, толькі яго выкананне адтэрмінавана. Ён абавязкова сыдзе са сцэны і пакіне ў спадчыну беларускаму народу маральную спустошанасць, няўпэўненасць у сваіх сілах і архівы спецслужбаў з імёнамі дзясяткаў тысяч стукачоў. А больш нічога не застанецца.

**«Forbes» (Расія)**

Цяпер Аляксандр Лукашэнка абсалютна залежны ад Масквы, што б ён там сабе ні думаў. Аляксандр Лукашэнка жыве на чужыя грошы, выплачвае суайчыннікам чужыя грошы і нават разгаляне незадаволеных на чужыя грошы — і ўжо таму выглядае куды больш карыкатурна, чым любы апазіцыянер, якога цягнуць ва ўчастак ці б'юць палкай на мінскай плошчы. Ад былога ўмелага дыктатара, які рабіў манеўры паміж Расіяй і Захадам, палохаў Маскву Каракасам і Пекінам, застаўся толькі цень — цень марыянеткі.

**politcom.ru (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ЦІ БУДЗЕ Ў ПРОХАРАВА «Ё-ПАРТЫЯ»

Прыхільнікі экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Расіі Міхася Прохарава выбіраюць назву для яго новай партыі. Галасаванне праходзіць на спецыяльным сайце. З 45 тысяч прапанаваных варыянтаў ужо абрана 86 самых папулярных версій. Па выніках галасавання будзе складзены спіс з 10 назваў, адна з якіх будзе абрана экспертнай радай і стане назвай новай партыі. Сярод прапанаваных варыянтаў нямала незвычайных. Адзін з самых папулярных варыянтаў — «Ё-партыя». Таксама ёсць «Пасоўванне», «Вецер змен», «Партыя разумнага сэнсу», «Шчаслівая Расія», «Сапраўдная будучыня» і інш. Па папярэдніх выніках галасавання лідзіруе назва «Новая Расія». Нагадаем, гэта была частка слогана «Новы прэзідэнт — Новая Расія», з якім Міхась Прохараў балатаваўся ў прэзідэнты. На другім месцы — «Ё-партыя». Замыкае першую тройку назва «Дэмакратычная партыя Расіі».




**Паводле расійскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. КАСТРАЦЫЯ ПА ЗАМОВЕ КАСЦЁЛУ

«Handelsblad» — адна з вядучых газет Нідэрландаў — апублікавала шакуючы матэрыял пра тое, што ў 1950-я гады па просьбе касцёла медычныя ўстановы кастрыравалі маладых гомасэксуалістаў. Прынамсі дакладна вядомая гісторыя нейкага Хэнка Хейтхуса. У 1956 годзе Хэнк вучыўся ў каталіцкім інтэрнаце для юнакоў і быў заўважаны ў прыязнасці да юнакоў. Па рашэнню кіраўніцтва ўстановы хлопца адправілі ў шпіталь з просьбай да дактароў кастрыраваць пацыента. На думку настаўнікаў, такі сродак дапамагае ад гомасэксуалізму. Урачы выканалі інструкцыю. Пазней Хэнк памёр. Публікацыя ў «Handelsblad» ужо нарабіла шуму. Парламент краіны вырашыў стварыць спецыяльную камісію, якая правядзе расследаванне. «Handelsblad» сцвярджае, што ведае як мінімум 10 гісторый, калі па просьбе царквы кастрыравалі людзей. Справа абяцае быць вельмі гучнай.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АРМЕНІЯ. НАГОРНЫ КАРАБАХ МОГУЦЬ ПРЫЗНАЦЬ

Прадстаўнікі Арменіі і Тувалу ў ААН падпісалі заяву пра ўсталяванне дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі. Пікантнасць моманту палягае ў тым, што Тувалу — невялікая дзяржава, размешчаная на палінезійскіх астравах, — увосень 2011 года прызнала (ёсць падставы казаць, што не бясплатная) незалежнасць Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Пасля гэтага Грузія разарвала дыпадносіны з Тувалу. Цяперашні нечаканы раман Тувалу з Ерэванам выклікаў шкал спекуляцый наконт таго, што Арменія вырашыла паўтарыць трук Масквы — падкупіць палінезійцаў, каб тыя пагадзіліся прызнаць Нагорную Карабахскую Рэспубліку (НКР) — частку Азербайджана, якая з 1989 года фактычна кантралюецца армянамі. Арменія даўно марыць, аднак не можа прызнаць НКР, паколькі ў дамове краіны з АБСЕ існуе пункт — Ерэван можа афіцыйна прызнаць суверэнітэт НКР, калі спачатку гэта зробіць хоць бы адна замежная дзяржава. Цалкам магчыма, што такой дзяржавай можа стаць Тувалу.

**Паводле армянскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. ПРАДАЮЦЦА ДАРОГІ




Прэм'ер Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран публічна заявіў, што дарожная інфраструктура краіны патрабуе падтрымкі з боку прыватнага капіталу. Гэтую заяву ўсе дружна зразумелі як пачатак падрыхтоўкі прыватызацыі брытанскіх аўтабанаў, якія каштуюць бюджэту 7 мільярдаў фунтаў штогод. Рэакцыя публікі вельмі адмоўная, што цалкам зразумела з улікам гісторыі прыватызацыі чыгункі ў часы Маргарэт Тэтчэр. Гэта прывяло да поўнага хаосу на вакзалах з-за таго, што кожны ўчастак дарогі стаў належаць асобнай кампаніі. Некаторыя станцыі папросту зніклі з карты краіны, паколькі ўтрымліваць іх аказалася нерэнтабельна. Аднак значна горшым вынікам рэформы чыгуначнай гаспадаркі сталі рэгулярныя аварыі. Аднак, здаецца, нягледзячы на крытыку, Кэмеран вырашыў давесці сваю ідэю да рэалізацыі. Міністэрству транспарту прапанавана да восені правесці адпаведнае даследаванне. Між тым, асацыяцыя аўтамабілістаў і апазіцыя ўжо выступілі супраць любых планаў прыватызацыі аўтастрад. Відавочна, што зрабіць нерэнтабельны дарогі рэнтабельнымі можна толькі за кошт павышэння коштаў за праезд па іх.

**Паводле польскай прэсы**

ПРАПАГАНДА

# МАЯ — ПЧОЛКА СА СВАСТЫКАЙ

**Алег НОВІКАЎ**

**Славутаму літаратурнаму персанажу пчолцы Маі споўнілася сто гадоў. Мала хто ведае, што ў свой час яна стаяла на службе прапаганды германскага імперыялізму і нацызму.**

Роўна сто гадоў таму, у лютым 1912 года, у кніжных крамах Германіі з'явілася кніжка «Пчолка Мая і яе прыгоды». Яе аўтарам быў Вальдэмар Бanзельс (нарадзіўся ў 1880 годзе), сын аптэкара. Да таго, як узяцца за пяро, ён працаваў камерсантам за мяжой і журналістам.

Сюжэт кнігі, думаецца, вядомы ўсім, аднак нагадаць яго будзе не лішнім. Маладая пчолка Мая напоўнена жаданнем даследаваць велізарны свет за межамі вулля. Таму яна робіць абсалютнае ў вачах пчалінай супольнасці злачынства — уцякае. Падчас сваіх прыгод Мая заводзіць сяброўства з іншымі істотамі і разам з імі перажывае розныя небяспекі. У кульмінацыі кнігі Мая трапляе ў палон да шэршняў, галоўных ворагаў пчол. Яна выбіраецца з вязніцы і адначасова даведваецца, што шэршні плануюць атакаваць яе родны вулей. У пчолкі цяпер няпросты выбар — вярнуцца ў вулей, каб паведаміць пра атаку, і панесці пакаранне за ўцёкі. Або выратавацца самой, не вяртаючыся ў вулей, якому пагражае непазбежнае знішчэнне. Пасля цяжкіх роздумаў, Мая, як і варта чакаць, прымае рашэнне вярнуцца. Дзякуючы яе інфармацыі пчолы разбіваюць войска шэршняў. Мая атрымлівае прабачэнне за свае ўцёкі, становіцца гераіняй вулля.

Мала будзе сказаць, што кніжка выклікала вялікую цікавасць. Адпаведна статыстыцы, да Другой сусветнай вайны аповесць пра прыгоды Маі займала чацвёртае месца па колькасці прададзеных кніг у Германіі. Іх агульны наклад перавысіў за 2 мільёны экзэмпляраў. Кніга была яшчэ тады перакладзеная на 40 моваў.

Нядзіўна, што на твор вельмі хутка паклалі вока кіношнікі. У 1925 годзе выйшла першая экранізацыя. Цікава, што на здымкі быў запрошаны навуковец-батанік. Усё таму, што галоўныя ролі выканалі жывыя пчолы. Лічыцца, што гэта быў першы ў гісторыі поўнаметражны фільм, дзе былі зняты жывыя насякомыя.

Новы выбух папулярнасці Маі прыйшоўся на другую палову 1970-х гадоў, калі пры ўдзеле японскай мультыплікацыйнай кампаніі «Zuiyo Enterprises» нямецкі канал ZDF зняў мультсерыял, які стаў культавым у шматлікіх краінах. Да прыкладу, у 1977 годзе адна з песняў мультфільму нават узначаліла хіт-парад у ФРГ. Калі сезон закончыўся, канал ZDF атрымаў 40 тысяч лістоў з




просьбай працягнуць аповесць пра Маю. Пасля было знята яшчэ 52 часткі.

Нягледзячы на тое, што галоўную песню спеў Карэл Гот, стужку пра Маю СССР чамусьці не набыў. Мая, Вілі, Фліп і іншыя персанажы казкі сталі вядомыя нашай дзіцячай аўдыторыі толькі ў 1991 годзе.

Між тым, яшчэ ў 1970-я гады літаратуразнаўцы, каментуючы бум вакол пчолкі Маі, спрачаліся наконт таго, што б сказаў пра яго сам віноўнік падзеі. Справа ў тым, што Вальдэмар Банзельс з-за Маі трапіў у не вельмі прыемную гісторыю.

Як не дзіўна, яго Мая вельмі спадабалася нацыстам, хаця спачатку яны не любілі Вальдэмара Банзельса. Усе яго кнігі, акрамя Маі, былі нейкі час забароненыя. Каб зразумець прычыну любові гітлераўцаў да пчолкі Маі, трэба проста ўважліва перачытаць аповесць.

Напісаная ў 1912 годзе кніга была байкай з палітычным падтэкстам, якая ўхваляла нямецкі нацыяналізм. Мая сімвалізуе ідэальнага грамадзяніна, а вулей — добра арганізаванае мілітарысцкае грамадства. Прысутнічаюць таксама элементы расізму.

Так, Мая двойчы моцна злуецца. Першы раз гэта адбываецца, калі конік Фліп не бачыць розніцы паміж пчоламі і восамі. У сваім злым вербальным нападзе Мая называе восаў «бескарыснай хеўрай бандытаў», у якіх няма «ні Радзімы, ні веры».

У другім выпадку муха называе Маю ідыёткай, на што тая крычыць на яе і пагражае навучыць «паважаць пчол». Пры гэтым пчолка пагражае мусе сваім джалам. Маўляў, павага засноўваецца ў першую чаргу на страху перад сілай і ўжываннем гвалту.

Іншай важнай тэмай кніжкі з'яўляецца калектывізм. Незалежныя погляды галоўнай гераіні і яе ўцёкі з вулля разглядаюцца з асуджэннем, але яе віна выкупаецца папярэджаннем пра напад шэршняў. Гэта дэманстрацыя лаяльнасці аднаўляе яе месца ў грамадстве. У той частцы кнігі, якая апісвае напад шэршняў, у адкрыта мілітарысцкіх тонах усхваляецца воля пчол да абароны і гераічныя смерці пчол-салдат.

Застаецца дадаць, што лексіка каралевы пчолаў утрымлівае ледзь не цытаты з выступаў імператара Вільгельма Другога падчас крызісу вакол «Паўстання баксёраў» (нацыяналістычнае паўстанне ў Кітаі супраць прысутнасці замежных каланізатараў 1898 года). Для здушэння руху ў Кітай была пасланая сумесная экспедыцыя войскаў еўрапейскіх дзяржаў. У корпусе былі і немцы, якіх Вільгельм Другі праводзіў у вялікую вайну тымі ж словамі, што каралева вулля пчол на бітву з шэршнямі.

Натуральна, Мінкультуры Трэцяга рэйху ўключыла Маю ў падручнікі, а сам аўтар быў абласканы рэжымам. Банзельс таксама аддзячыў і ў 1943 годзе выдаў раман «Der Grieche Dositos», які цалкам упісваўся ў афіцыйную ідэалогію нацызму. Аўтар спрабаваў давесці, што Ісус Хрыстос не быў яўрэем. Да самага канца жыцця Банзельс лічыў гэты твор самым важным у сваёй кар'еры літаратара.

Цяжка сказаць, ці карыстаўся «Der Grieche Dositos» цікавасцю ў чытачоў Трэцяга рэйху. Затое дакладна вядома, што ў кніжкі была свая аўдыторыя пасля вайны. Яе складалі людзі з камісіі па дэнацыфікацыі. Банзельса спрабавалі прыцягнуць да адказнасці за супрацоўніцтва з нацызмам, аднак пасля пакінулі ў спакоі. Нягледзячы на гэта, пісьменніка ў грамадстве лічылі ледзь не карычневым, а Маю называлі не інакш як «пчолка са свастыкай». У выніку Банзельс аказаўся ў ізаляцыі, з'ехаў у правінцыю і ў 1952 годзе памёр.

Калі напрыканцы 1970-х пачаўся ўсплёск папулярнасці пчолкі Маі, пра яе супярэчлівае мінулае намагаліся не ўзгадваць. Тым больш, што на патрэбу публікі для мультфільма было напісана шмат сцэнарыяў і прыдумана багата сюжэтных ходаў, якіх няма ў арыгінальным тэксце. Яны пісаліся з пункту гледжання еўрапейскай палітычнай карэктнасці і ніякіх расавых забабонаў не ўтрымліваюць. Фактычна, пчолка Мая, якую мы ведаем з мультфільмаў, вельмі не падобная на свайго літаратурнага прататыпа.

Аднак гэта яшчэ не канец гісторыі. Напярэдадні стогадовага юбілею персанажа нямецкая газета «Frankfuter Runfschau» апублікавала артыкул пра тое, што вобраз Маі ўтрымлівае прапаганду нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі. На думку аўтара артыкулу, уцёкі Маі з вулля — не што іншае, як пратэст яе лібіда супраць патрыярхальнага грамадства. А тое, што сяброўства Маі і трутня Вілі не пераходзіць межы сяброўства, быццам добра сведчыць пра тое, што яна як мінімум бісэксуал. Вось такая тэорыя.

Між тым, пакуль літаратуразнаўцы спрачаюцца наконт сэксуальнага крэда пчолкі Маі, канал ZDF абвясціў пра стварэнне новых 80 серый пра яе прыгоды, якія будуць знятыя ў фармаце 3D. Фанаты Маі змогуць атрымаць задавальненне ў наступным годзе.

ВЫБАРЫ

# СЭКСУАЛЬНАЯ КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**Галоўнай тэмай грамадскай дыскусіі ў ЗША нечакана стала тэма сэксуальнасці. Яна таксама займае значнае месца ў праграмах кандыдатаў у прэзідэнты ад партыі рэспубліканцаў.**




Амаль штотыднёва з-за акіяну прыходзяць паведамленні пра рознага кшталту скандалы, якія тычацца разнастайных аспектаў сэксуальнасці. Так, у штаце Юта лабіруюць закон аб тым, што школьны курс уводзін у «Асновы сямейнай этыкі» павінен уключаць толькі адзін раздзел — «Як утрымацца ад сэксу». У Тэхасе губернатар патрабуе, каб жаночыя кансультацыі больш не атрымлівалі фінансавання з бюджэту штату. У Вірджыніі ўводзяць больш жорсткія патрабаванні для жанчын, якія жадаюць зрабіць аборт.

Найбольшы скандал выклікалі выказванні радыёвядучага, які лічыцца рупарам кансерватараў, Раша Лімба. Ён арыгінальна пракаментаваў прапанову студэнткі Сандры Флак з універсітэту Джорджтаўна. Апошняя звярнулася ў профільны камітэт кангрэсу з ідэяй абавязаць усе медычныя ўстановы бясплатна выдаваць для жанчын сродкі кантрацэпцыі.

Каментатар назваў Сандру «прастытуткай» і «дзеўкай». Таксама дадаў: «Калі мы — падаткаплатнікі — павінны плаціць за вашы таблеткі, каб вы займаліся сэксам, то патрабуем нешта ў якасці кампенсацыі. Напрыклад, хочам, каб усё гэта здымалася на відэа і транслявалася, каб можна было і нам пaглядзець». Дэмарш выклікаў хвалю абурэння грамадскасці, да якой падключыўся не толькі Абама, аднак нават некаторыя бонзы партыі рэспубліканцаў.

**Цяперашні фундаменталісцкі настрой рэспубліканцаў пры ўсё большай кансерватыўнасці іх электарату — нешта фенаменальнае**

Увогуле, менавіта на рэспубліканцаў было б лагічна перакласці адказнасць за тое, што робіцца ў гэтай галіне. Рэспубліканцы традыцыйна стаялі на ахове маральных устояў грамадства, а апошнім часам увогуле звар'яцелі на праблемах полу. Рупарам маралістаў стаў прэтэндэнт у кандыдаты ад рэспубліканцаў на пасаду прэзідэнта Рычард Джон Санторум, які на цяперашніх праймерыз намагаецца перахапіць ініцыятыву ў больш цэнтрысцкага кандыдата Міта Ромні. Санторум супраць царквы і дзяржавы, забароны продажу кантрацэптываў, за права грамадства кантраляваць прыватнае жыццё грамадзян. Акрамя таго, ён патрабуе вывучэння тэорыі крэацыянізму замест тэорыі эвалюцыі ў навуковых установах, ну і, зразумела, не любіць геяў... І такая праграма шмат каму падабаецца. Нагадаем, што зараз у активе Санторума 259 дэлегатаў з'езда рэспубліканскай партыі, якія назаве імя кандыдата. У той жа час Міт Ромні заручыўся падтрымкай 560 дэлегатаў

Цяперашні фундаменталісцкі настрой рэспубліканцаў пры ўсё большай кансерватыўнасці іх электарату — нешта фенаменальнае. Традыцыйна лічылася, што самым рэакцыйным кандыдатам-рэспубліканцам за ўсю гісторыю быў Бары Голдуотэр. Яго рыторыка супраць праціўнікаў была настолькі неадэкватнай, што выклікала цікавасць з боку псіхолагаў. Аднак нават Бары прызнаваў: грамадзяне ЗША маюць права быць геямі.

Крыніцу з'явы паспрабавала знайсці Нэнсі Коэн, чыя кніга «How the Sexual Counterrevolution Is Polarizing America» (Як сэксуальная контррэвалюцыя палярызуе Амерыку) становіцца адным з палітычных бестселераў падчас выбарчай кампаніі 2012 года.

Адпаведна тэорыі Коэн, на хвалі шматлікіх лакальных кампаній супраць абортаў у асяроддзі рэспубліканцаў сфармавалася асобная фракцыя «пурытан». Дзякуючы прыналежнасці да царквы, гэта ядро аказалася здольным заставацца кансалідаваным і, самае галоўнае, не падавацца на спакусы палітычнай кан'юнктуры і працаваць у адным накірунку.

Паступова групоўка навучылася тэхнікам уплыву на партыйныя структуры і пачала фармуляваць лозунгі GOP (так часта ў прэсе называюць партыю рэспубліканцаў). Галоўныя этапы іх пераможнага шляху — абранне Рональда Рэйгана (1980), з'яўленне ў праграме Джорджа Буша-старэйшага параграфа супраць геяў (1992), кампанія за імпічмент Біла Клінтана з-за яго адносін з Монікай Левінскі (1998), прамоцыя Сары Пэйлін на пасаду кандыдата ў віцэ-прэзідэнты (2008).

Нарэшце, кансеквенцыяй росту ўплыву групоўкі і стала з'яўленне на партыйным подыуме людзей кшталту Санторума. Па словах аўтаркі, фракцыя фундаменталістаў ставіць перад сабой глабальную задачу: рэвізію заваёў сэксуальнай рэвалюцыі — комплексу прагрэсіўных зменаў маральных, сямейных нормаў у 1960–1970-я гады.

Пры гэтым пурытане актыўна спасылаюцца на канцэпцыі амерыканскай рэвалюцыі і працы бацькоў-заснавальнікаў Злучаных Штатаў. Тыя сапраўды пісалі, што амерыканская рэспубліка — гэта антытэзіс еўрапейскай мадэлі дзяржавы, дзе мараль асобна, а ўлада таксама асобна. У Амерыцы нават у прыватнай сферы палітык павінен паводзіць сябе як на працы.

Галоўны парадокс цяперашняй сітуацыі ў тым, што шматлікія ліберальі і левыя палітыкі таксама не супраць дапамагчы кансерватарам у іх крыжовым паходзе на сэкс. Аказваецца, дзяўчыны ў кароткіх спадніцах выклікаюць у былых прыхільнікаў сэксуальнай рэвалюцыі не менш адмоўных эмоцый, чым у правых. На іх думку, тое, што адбываецца, супярэчыць пастулатам сэксуальнай рэвалюцыі, якая трактавала сэкс як нейкую форму гуманістычнай псіхатэрапіі. Па словах дэмакратаў, у ліквідацыі адчужэння чалавека ад сваёй сутнасці эрас выконвае функцыі звычайнай індустрыі.

Для даведкі: цяперашні рынак сэксуальных паслуг у ЗША ацэньваецца ў 12 мільярдаў долараў прыбытку штогод. Прычым ён актыўна пашыраецца ва ўсё новыя і новыя сегменты жыцця. Так, напрыклад, некалькі гадоў таму з'явілася так званая Lingerie Football League — жаночая ліга амерыканскага футболу, у якой гуляюць у бялізне. Патрэбны антураж надаюць і назвы клубаў: «Фантазія», «Спакуса», «Шарм» і г. д. Дайшло да таго, што прамысловая эксплуатацыя сэксуальных інстынктаў стала «градаўтваральнай» галіной вытворчасці. Так, у Каліфорніі быў прыняты закон аб забароне здымкаў парнаграфічных фільмаў, аднак даць яму зялёнае святло ўлада ніяк не можа рашыцца. Адвакаты порна на лічбах даказалі, што пераезд студый у іншыя штаты (дарэчы, шмат хто гатовы іх прыняць) спраўкуе заўважны эканамічны крызіс у Галівудзе, а значыць, адаб'ецца і на паступленнях у бюджэт.

З улікам маштабаў сэкс-індустрыі, радыкальная кансерватыўная рэвалюцыя ў Злучаных Штатах наўрад ці магчымая. Тым больш, не зразумела, як яна дапаможа вырашыць праблему працаўладкавання 13 мільёнаў беспрацоўных амерыканцаў — асноўны галаўны боль ураду. Усё гэта дазваляе палітолагам разглядаць актывізацыю амерыканскіх змагароў за мараль як нешта часовае. Аднак варта згадаць, што Бары Голдуотэра лічылі дзіваком. Між тым, менавіта пасля яго кампаніі рэспубліканцы канчаткова сталі ўспрымацца ў грамадстве як партыя антыкамуністаў і кансерватараў з усімі наступствамі для іх самых.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### УГА ЧАВЕС



Нечакана для ўсіх прэзідэнт Венесуэлы з'явіўся на публіцы са сваім 27-гадовым сынам, пра існаванне якога дасюль шмат хто ўвогуле не ведаў. Завуць сына Чавеса ў гонар бацькі Уга, хаця ў прэсе яго часцей клічуць Угуіта. Цяпер усе гадаюць, што значыць для перспектыў венесуэльскай палітыкі з'яўленне гэтага самага Угуіта. Шмат хто звяртае ўвагу на тое, што бацька прадставіў сына аўдыторыі на Кубе, дзе лечыцца ад раку. Тым самым, быццам, ён даў зразумець, хто з'яўляецца пераемнікам на выпадак яго смерці. Гэта можа значыць сапраўдную рэвалюцыю ў атачэнні Чавеса. Раней на пасаду палітычнай рэінкарнацыі бацькі мела прэтэнзіі яго дачка Марыя, якая выконвае функцыі першай лэдзі. Іншыя кажуць, што Угуіта выпадкова з'явіўся каля Уга, паколькі ў палітыцы ён, у адрозненні ад Марыі, — абсалютны прафан: адзінае, што вядома пра Уга-юніёра, — тое, што ён фанат Месі, форварда футбольнага клубу «Барселона». Быццам Чавес, які мае сур'ёзныя праблемы са здароўем, папросту хоча сабраць вакол сябе ўсіх блізкіх родных.

### ДЫЕГА ВАЛЬДЭРАС



Дыега — лідар кааліцыі Аб'яднаная Левая (IU) у іспанскай аўтаноміі Андалузія. Пасля выбараў у мясцовы парламент, якія прайшлі 25 сакавіка, Дыега, партыя якога атрымала 12 мандатаў са 109, стаў персонай нацыянальнага значэння. Увогуле, на выбарах упершыню за 30 гадоў перамагла правая Народная Партыя (PP) — у яе 50 месцаў. Аднак гэтага недастаткова, каб сфармаваць урад большасці. Галоўныя канкурэнты «народнікаў» з Аб'яднанай рабочай партыі Іспаніі (PSOE) атрымалі не на шмат менш — 47 месцаў. І вось тут пачынаецца самае цікавае. Кааліцыя PP і IU аднязначна немагчымая, асабліва з улікам таго, што першыя — былыя франкісты, а другія — былыя камуністы. Застаецца варыянт блоку сацыялістаў і левых. Адна такой тэмы баяцца самі сацыялісты, паколькі гэта значыла б, што IU (галоўны канкурэнт PSOE на левым флангу) перастае быць партыяй маргіналаў. Развязка андалузскай дылемы цікавая таксама з прычыны таго, што гэта першыя выбары пасля прыходу PP да ўлады ўвосень мінулага года. У гэтым плане наступствы выбараў — своеасаблівы тэст для партыі, якая стала ініцыятарам пакета антысацыяльных рэформаў. Калі ў Андалузіі IU і PSOE дамовяцца і сфармуюць урад, гэта будзе значыць, што намеры ўвядзення жорсткай бюджэтнай дысцыпліны не маюць падтрымкі з боку грамадства. Тады Іспанію можа хутка чакаць лёс Грэцыі.

### ДЗМІТРЫЙ СІДАР



Сідар — святар Маскоўскага патрыярхату Украінскай Праваслаўнай Царквы і лідар так званых «русінаў» (руху, які сцвярджае, што насельніцтва Закарпацця — гэта асобная не падобная на ўкраінцаў галіна ўсходніх славян). На днях апеляцыйным судом Закарпацкай вобласці Дзмітрый прызнаны вінаватым у замаху на тэрытарыяльную цэласнасць Украіны і асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі з прызначэннем выпрабавальнага тэрміну ў два гады. Асудзілі Сідара за мемарандум Кангрэсу русінаў, які адбыўся ў 2008 годзе і які патрабаваў для русінскага этнасу адміністратыўнай аўтаноміі ў складзе Украіны. Гэты акт выклікаў велізарны рэзананс у СМІ і прывёў да таго, што Служба бяспекі Украіны (СБУ) распачала супраць Сідара крымінальную справу. Цяпер усе антыўкраінскія сілы намагаюцца зрабіць з Сідара пакутніка за славянскую справу. Між тым, сам асуджаны ў фінале працэсу павёў сябе вельмі дзіўна для русінскага патрыёта: заявіў, што быў, ёсць і будзе прыхільнікам адзінства Украіны і, быццам, стаў ахвярай правакацыі СБУ.

ЦІКАВА

# НКУС СУПРАЦЬ РАДЗІВІЛАЎ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**18 снежня 1935 года памёр перадапошні XVI Нясвіжскі ардынат Альбрэхт Антоні Радзівіл. Замак і радавыя зямельныя ўладанні атрымаў у спадчыну яго малодшы брат Леон Уладзіслаў Радзівіл. Біяграфія гэтага чалавека, на жаль, не дастаткова вывучана. Аднак яна заслугоўвае самай пільнай увагі.**


Леон Уладзіслаў Радзівіл падчас савецка-польскай вайны 1920 г.


Вячаслаў Грыднеў, які арыштаваў Леона Радзівіла ў верасні 1939 г.


Першы злева — Леон Радзівіл


Нясвіжскі палац, гасцёўня, 1930-я гады

Леон Уладзіслаў Радзівіл нарадзіўся ў 1888 годзе ў Патсдаме. З адзнакай скончыў Імператарскі Пажаскі корпус у Пецярбургу ў 1909-м і паступіў на службу ў лейб-гвардыі Прэабражэнскі полк. З пачаткам Першай сусветнай вайны будучы апошні ўладальнік Нясвіжскага замка, які дасканала валодаў польскай, рускай, нямецкай і італьянскай мовамі, паступіў на службу ў Аддзел замежных спраў генеральнага штаба Рускай імператарскай арміі і праслужыў там да кастрычніцкай рэвалюцыі. 5 ліпеня 1917 года за службу ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 3 ступені.

Праз некалькі гадоў, у маі 1919 года, Леон Радзівіл уступіў у польскую армію. Улічваючы вопыт службы ў рускім генеральным штабе, маладога князя накіроўваюць у палітычны аддзел Галоўнага камандавання польскай арміі. Праз некалькі месяцаў князь пераходзіць у Другі (выведвальны) аддзел Генеральнага штаба польскага войска. Нарэшце, у 1920 годзе князя Радзівіла накіроўваюць у распараджэнне французскай вайсковай місіі, дзе ён атрымлівае званне капітана французскай арміі.

Радзівіл адразу ж адпраўляецца ў Італію. Там ён арганізуе адпраўку ваеннапалонных палякаў, якія раней служылі ў аўстра-венгерскай арміі, на тэрыторыю Францыі для арганізацыі з іх польскага ваеннага легіёна ў складзе арміі генерала Юзэфа Галера. У асабістай справе князя, якая захоўваецца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, у прыватнасці пазначана, што на працягу 7 месяцаў Леон Радзівіл арганізаваў адпраўку ў Францыю 30 тысяч салдат і 3 тысяч афіцэраў польскага паходжання. Усе гэтыя вайскоўцы пасля ўступілі ў польскую армію. За паспяховае выкананне задання французскага камандавання князь Радзівіл быў узнагароджаны ордэнам ганаровага легіёна. А ўжо ў Польшчы, у 1922 годзе за выкананне гэтай місіі Леону ўручылі польскі крыж «Віртуці Мілітары» 5-й ступені.


Карыкатура з савецкага часопіса «Крокодил», 1939 г.

Пасля савецка-польскай вайны князь Леон звольніўся з войска і заняўся мецэнацтвам. З 1935 года ён практычна ўвесь час жыў у Нясвіжскім замку. Там жа яго заспела і Другая сусветная вайна. Старадаўняя рэзідэнцыя беларускіх князёў стала прытулкам для многіх бежанцаў «блакітных» крывей, якія пакінулі акружаную гітлераўскімі войскамі Варшаву. Генералы, афіцэры, прадстаўнікі грамадскай і палітычнай эліты — усе гэтыя людзі разлічвалі на тое, што старажытныя муры Нясвіжскага палацу абароняць іх ад вар'ятства вайны.

17 верасня 1939 года ў кабінеце князя зазваніў тэлефон. Чалавек на тым канцы дроту назваўся камісарам Сіроткай. Князь палічыў, што нехта дрэнна пажартаваў, назваўшы сябе імем яго знакамітага продка, і паклаў трубку. Але тут жа пачуўся паўторны званок, і суразмоўца паведаміў, што ў горадзе Чырвоная Армія і хутка ў замак прыедуць упаўнаважаныя. Візіт людзей у «васільковых» фуражках не прымусіў сябе чакаць. Адным з тых, хто прыйшоў за князем, быў і карэспандэнт газеты «Праўда». Вось як ён апісваў арышт Радзівіла: «Марш савецкіх войскаў быў настолькі імклівым, што многія польскія паны і памешчыкі не паспелі збегчы. У цэнтры горада мы занялі будынак, дзе раней знаходзілася кіраванне маёнткамі князя Радзівіла. Той, хто бачыў прыходныя кнігі князя, можа ўявіць сабе велізарныя багацці, якімі ён валодаў. Гэтаму чалавеку належалі дзясяткі тысяч гектараў зямлі, і вялікая колькасць жывёлы. [...]

У селяніна-беларуса мы спыталі, дзе замак князя. Селянін сеў у наш аўтамабіль і ўпершыню ў жыцці як гаспадар заехаў у княжацкі парк. Мы з маёрам Грыдневым, мякка ступаючы па дыванах, разасланых па лесвіцах, падняліся на другі паверх замка. У гасцінай нас сустрэў нейкі польскі журналіст, уцякач з Варшавы. [...] З розных пакояў пачалі выходзіць у гасцёўню важныя чыноўнікі былой польскай дзяржавы. На грудзях у іх былі ордэны і медалі. [...] У гасціную выйшла жонка польскага генерала, якая збегла з Варшавы. Нарэшце з'явіўся князь Леў (так у тэксце артыкула — І.М.) Радзівіл. Мы папрасілі здаць зброю. З розных пакояў прынеслі браўнінгі, маўзеры, паляўнічыя ружжы. [...] У замку Радзівіла — вялізныя багацці. Тут маецца вялікая бібліятэка, калекцыя разнастайнай зброі, карціны знакамітых еўрапейскіх майстроў жывапісу». Па ўспамінах відавочцаў, падчас арышту абураны князь павярнуўся да слуг і сказаў: «Усё, што зараз адбываецца, — гэта велізарная памылка».

Арышт князя праводзіў маёр дзяржбяспекі Вячаслаў Грыднеў. Гэты чалавек зрабіў паспяховую кар'еру ў савецкіх спецыяльных органах, прайшоўшы шлях ад упаўнаважанага ЧК да начальніка вышэйшай разведвальнай школы МГБ СССР. Падчас вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года Грыднеў быў накіраваны «на захад» у якасці начальніка аператыўнай групы НКУС БССР. За арганізацыю аперацыі па арышце князя Леона Радзівіла, а таксама іншых высокапастаўленых польскіх чыноўнікаў у Нясвіжскім замку маёр дзяржбяспекі быў узнагароджаны ордэнам «Баявога Чырвонага Сцяга». Пазней Грыднеў быў прызначаны начальнікам Ваўкавыскага гараддзела НКУС. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны займаўся фармаваннем разведвальна-дыверсійных атрадаў для закіду ў тыл германскіх войскаў.

Князя Леона Радзівіла з сям'ёй і іншых арыштаваных у замку мужчын вывезлі з пачатку ў Мінск, у турму НКУС, а затым на Лубянку. Хутчэй за ўсё, у савецкіх спецслужбаў быў план выкарыстання ўплывовага беларускага магната ў сваіх мэтах. Берыя і яго падручныя добра ведалі аб той ролі, якую адыгрывалі Радзівілы ў пярадваеннай Польшчы. Сам князь таксама разумеў, што выбар у яго невялікі: альбо ён ідзе на супрацоўніцтва з савецкай выведкай, альбо... у савецкіх улад было дастаткова падстаў, каб пазбавіць былога памешчыка жыцця.

Апошняга нясвіжскага ардыната выратавала знаёмства яго маці Марыі Ружы з Браніцкіх з сям'ёй італьянскага манарха. У маладосці княгіня Браніцкая вяла актыўнае свецкае жыццё. Дыпламаты, мастакі, інтэлектуалы, прадстаўнікі манаршых родаў — маладая дваранка тады і не ўяўляла, што гэтыя знаёмствы выратуюць ёй і яе родным жыццё. Пра тое, што сям'я Леона Радзівіла знаходзіцца на Лубянцы, стала вядома каралеве Італіі Алене Чарнагорскай, і тая звярнулася за дапамогай да міністра замежных спраў Італіі Галіяца Чыана. Урэшце да вырашэння «лёсу Радзівілаў» падключыўся прэм'ер-міністр Італіі Беніта Мусаліні. У выніку разыгранай камбінацыі Радзівіла ўдалося абмяняць на італьянскіх камуністаў, якія ўтрымліваліся ў турмах фашысцкай Італіі. Пагаворвалі, што сярод вызваленых тады камуністаў быў і знакаміты Пальміра Тальяці.

Апошні нясвіжскі ардынат князь Леон Радзівіл разам з роднымі выехаў спачатку ў Італію, а затым у Англію. Знаходзячыся ў Еўропе, ён цалкам адышоў ад актыўнага грамадскага жыцця і ўсю Другую сусветную вайну правёў на туманным Альбіёне. Пасля вайны Радзівіл пераехаў у Парыж, дзе ціха памёр вясной 1959 года. Нясвіж і радавы замак ён так больш і не ўбачыў.

***

Аўтар выказвае шчырую падзяку Цэнтральнаму вайсковаму архіву Польшчы і асабіста яго дырэктару спадару Чэславу Анджэю Жаку за дапамогу ў падрыхтоўцы дадзенага артыкулу.

ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАГАДКАВЫ ПАРТРЭТ РАДЗІВІЛА СІРОТКІ

Аляксей ХАДЫКА

**15 верасня 1564 года з Берасця ў Страсбург ад віленскага ваяводы князя Мікалая Радзівіла (Чорнага) яго сыну Мікалаю Крыштофу Радзівілу па мянушцы Сіротка (1549–1616) паляцеў з поштай ліст, у якім бацька з лёгкай іроніяй папікаў сына.**



Давід Кандэль. Партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. 1563–1564. Малюнак. Луўр



Манаграміст IZ. Партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. Дрэварыт. 1564–1566. З кнігі Марціна Крузіуса

Маўляў, гледзячы на дасланы ў ВКЛ партрэт юнака, дзе ён паказаны ў элеганцкім капелюшы і з вялізным залатым ланцугом на грудзях, складаецца адчуванне, быццам сын трапіў пад уплыў «буржуазных» густаў свайго апекуна Бальтазара Язерскага.

І хаця паказаны на гравюры ланцуг быў выраблены для атрыманага Сіроткам з радзімы патрыятычнага залатога медальёна з выявамі караля Жыгімонта Аўгуста і герба Пагоні — вырак старэйшага Радзівіла гучаў няўхвальна. Зусім у духу строгай стрыманасці і высакародных этычных пасылаў, якія прапагандаваў служка Радзівілаў, ураджэнец Навагрудка і выбітны беларускі філасоф Андрэй Волян, сакратар Радзівіла Чорнага, а пазней вялікага князя Жыгімонта IV. У сваім трактаце «Аб грамадзянскай, або палітычнай свабодзе» (1571) Волян пісаў: «Платон гаворыць, што шчаслівымі робіць людзей не само валоданне дабротамі, а іх разумнае выкарыстанне». Сучасны аматар мастацтва наўрад ці заўважыў бы ў выяве Сіроткі залішнюю пампезнасць — густы мяняюцца.

Ці зрабіўся дасланы вобраз маладога князя ўзорам жывапіснага партрэта для фамільных галерэй, што яго бацька пачаў збіраць у той час у нясвіжскай і віленскай рэзідэнцыях Радзівілаў, — невядома. Да апошняга часу заставалася загадкай і імя аўтара першаўзору адлюстравання. Бацька атрымаў ад сына не малюнак, а дрэварыт паводле яго, захаваны сёння ў двух версіях. Яны пазначаны манаграмай IZ і адрозныя толькі дэталямі надпісаў у верхняй частцы аркушаў. Адзін месціцца ў выданні грэчаскай паэзіі настаўніка грэчаскай мовы Сіроткі ў Страсбургскім універсітэце Марціна Крузіуса — Martini Crusii Poematum graecorum libri duo…, што выйшла ў Базэлі ў 1566 годзе. Другі, падфарбаваны ў колер — у «альбоме сяброў» (на лаціне Album amicorum), які належаў Гераніму Кёлеру з Нюрнбергу, студэнту Цюбінгенскага ўніверсітэта, эпізадычнаму знаёмцу Радзівіла па гэтай навучальнай установе. Альбом захоўваецца ў Брытанскай бібліятэцы пад шыфрам Egerton MS. 1184. У Лондан каштоўны рарытэт трапіў са зборам нюрнбергскага антыквара Бэзэля ў XIX стагоддзі, а запачаткаваны сваім складальнікам Кёлерам быў у 1561 годзе.

Гэтакія «Альбомы сяброў» утрымлівалі папяровыя ці пергаментныя аркушы з памятнымі запісамі, пажаданнямі, вершамі, цытатамі лацінскіх і грэчаскіх аўтараў, і дапасаваныя да іх геральдычныя, эмблематычныя і партрэтныя выявы, і набылі вялікую папулярнасць ад сярэдзіны XVI стагоддзя. Іх пераважна складалі студэнты з пратэстанцкіх колаў Германіі, Нідэрландаў, Скандынавіі, Польшчы.

Кёлер і Радзівіл «Сіротка» спаткаліся ў Цюбінгене, а «аўтарскі аркуш» з выявай Мікалая Крыштафа трапіў у збор, паводле подпісу, 15 студзеня 1565 года. Ён дапоўніў іншыя 300 аркушаў, ахвяраваныя сябрамі-студэнтамі і выкладчыкамі Кёлера ў гады навукі і падарожжаў у Нюрнбергу, Цюбінгене, Вітэнбергу і іншых гарадах.

Альбом, які адчыняе гравіраваная выява Лютэра, лацінскі верш і герб з сямейным дэвізам гаспадара, вылучаўся выключнай якасцю і заслужыў ухвальны водгук самога Філіпа Меланхтона, паплечніка Лютэра. Меланхтон трымаў кёлераўскі збор у руках і ахвяраваў у яго ўласнае гравіраванае адлюстраванне работы Альбрэхта Дзюрэра. А чыя рука пакінула нашчадкам выяву беларускага магната, што паслужыла першаўзорам для гравюр у кнізе Крузіуса і ў альбоме Кёлера?

У чэрвені 1563-га 13-гадовы Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, будучы заснавальнік мураванага Нясвіжскага замку і катэдры, аўтар слыннай кнігі пра падарожжа ў Святую Зямлю, з блаславення бацькі, накіраваўся па навуку ў Заходнюю Еўропу. У дарожных куфрах ляжалі рэкамендацыйныя лісты да нямецкіх арыстакратаў і дзеячаў рэфармацыйнага руху, універсітэцкай прафесуры. Тых, хто мог паспрыяць навучанню і кшталтаванню юнака пры еўрапейскіх дварах — спачатку ў Германіі, потым у Італіі. Шлях ішоў праз Лейпцыг, Нюрнберг, Штутгарт да Страсбургу, дзе віленскі ваяводзіч затрымаўся даўжэй. Страсбург, горад вынаходніка еўрапейскага кнігадрукавання Іагана Гутэнберга, сталіца Эльзаса, у той час уваходзіў у склад Свяшчэннай рымскай імперыі германскага народа і славіўся сваёй пратэстанцкай гімназіяй. Па прывілеі імператара Максімільяна II ад 1566 года гэтая заснаваная ў 1538-м філолагам-лацiністам Іаганам Штурманам установа атрымала статус універсітэта.

Малады Сіротка, носьбіт спадчыннага тытулу князя імперыі, быў прыняты ў арыстакратычнай па складзе студэнтаў вучэльні з пашанай і рэктарам Штурманам, і іншымі выкладчыкамі. Здольны і ўважлівы вучань ужо вызначаўся добрай хатняй падрыхтоўкай. На мэце ён ставіў дасканаленне ў нямецкай, лацінскай, грэчаскай мовах (у прыгаданага Крузіуса), у рыторыцы, матэматыцы, тэалогіі і медыцыне. Цікаўнасць да апошняй спалучалася з вывучэннем сродкаў лекавання, у першую чаргу раслін. У часы Сіроткі батанічныя веды страсбургскія студэнты атрымлівалі па кнізе нямецкага батаніка Геранімуса Бока «Kreutterbuch» («Кніга раслін»). Аўтар прыводзіў у ёй новую, адрозную ад антычнай сістэмы Дыяскарыда класіфікацыю некалькіх сотняў раслін, зёлак, дрэў. Першае ілюстраванае выданне кнігі Бока з 550 дэталёвымі дрэварытамі з'явілася ў 1546 годзе, у аздабленні Давіда Кандэля (David Kandel, 1520–1592). Кандэль, вядомы як аўтар шматлікіх іншых гравюр і малюнкаў, каштоўных мапаў, ілюстрацый да атласу свету — «Касмаграфіі» Мюнстэра, а таксама партрэтаў, жыў якраз у Страсбургу, куды ў 1563 годзе прыбыў Сіротка.

Тут мы мусім спыніцца, бо, як высвятляецца, не толькі ілюстратарская праца Кандэля трапіла ў рукі беларускага студэнта. Як сведчыць нядаўна ідэнтыфікаваны ў калекцыі Луўра партрэтны малюнак маладога Радзівіла з аўтарскай манаграмай DK, першаўзор дасланай у Беларусь гравюры, князь быў намаляваны менавіта Кандэлем (у Луўры твор захоўваецца пад нумарам INV 18707). Аркуш мусіў паўстаць раней верасня 1564-га, калі Сіротка адаслаў на радзіму гравюру паводле малюнка, і пасля гадавога побыту пакінуў Страсбург з прычыны эпідэміі чумы, каб працягнуць навуку ў іншым пратэстанцкім універсітэце — у Нюрнбергу. Там, дзе яму выпала сустрэць Гераніма Кёлера і таксама пакінуць у альбоме апошняга свой партрэт.

Гравюрныя выявы маладога князя маюць іншаю манаграму — IZ. Аднак, звычайна гравюры наследуюць папярэдні аўтарскі малюнак, і капіруе яго не абавязкова той самы майстар. Арыгінальны твор пры тыражаванні, па тэхналогіі, адбіваецца ў люстраным адвароце. Так сталася і з першаўзорам гравюр з калекцыі парыжскага Луўра, пазначаным манаграмай Кандэля «DK», які разгорнуты ў адваротны левы бок. Ён — бясспрэчнае сведчанне сустрэчы ў Страсбургу беларускага магната і нямецкага мастака і доказ аўтарства апошняга.

На выкананым алоўкам, пяром і чорным атрамантам па кардоне малюнку з Луўра постаць паўстае, як і на гравюрах, у адлюстраванні па пояс. Розніца малюнка і гравюр не толькі ў арыентацыі выявы, але і ў дробных дэталях, размяшчэнні абапёртых на парапет рук, у якія ўкладзены сімвал прагі да ведаў — кніжка (на малюнку князь трымае яе аберуч, на гравюрах — правай рукой). Іншая манаграма на гравюры (IZ), як мяркуецца, хавае імя падмайстра Кандэля. Ёсць розніца і ў эстэтычнай якасці твораў. Малюнак з Луўра, узор папулярных у часы Рэнесансу хуткіх, тонкіх, зробленых алоўкам, сангінаю або пяром, часам трохі падфарбаваных партрэтных замалёвак — сапраўдны шэдэўр свайго жанру. Менш дэталёва паказаная гарнітур з вышыўкай на рукавах, упрыгожанні на грудзях (падвеска ў павялічаным маштабе размешчана на палях аркуша), больш уважліва — капялюш з дэкаратыўным кордам, і асабліва твар. Юначы, але поўны засяроджанасці, з пранікнёнымі вачыма, выразна сціснутымі вуснамі — вобраз самадастатковы, халаднаваты, арыстакратычна-аддалены ад гледача. Вобраз асобы рэнесанснай эпохі, дапытлівай і энергічнай, створаны рэнесансным мастаком, здабытак як нямецкага, так і беларускага мастацтва. Такія творы ў XVI стагоддзі натхнялі як узор беларускіх партрэтыстаў.

Што тычыцца Радзівіла і Кандэля, то іх сустрэча адбылася не выпадкова: яны былі асобамі блізкімі па рэнесансных, навуковых, «натурфіласофскіх» інтарэсах. Дадамо прыклад. Сіротка, вяртаючыся пазней з падарожжа ў Святую Зямлю і Егіпет (1583–1584), набыў з сабой у родны Нясвіж (іншая справа, што не давёз) калекцыю экзатычных рэчаў — ад старажытных мумій да гепардаў, малпаў і іншых прадстаўнікоў жывёльнага свету Афрыкі. Кандэль калекцыянаваў незвычайная рэчы навакольнага свету ў мастацкіх вобразах.

Варта прыгадаць выяву насарога, уключаную Давідам Кандэлем у шэраг ілюстрацый атласа Мюнстэра: так рэнесансная Еўропа ўпершыню са старажытнарымскіх часоў і апісанняў Плінія Старэйшага адчыняла для сябе заалагічныя экзоты іншых кантынентаў. Прывезены з Індыі адміралам Афонса дэ Албукеркі ў 1515 годзе для партугальскага караля Мануэля I насарог, пазней падараваны манархам папу Льву X Медычы, быў выяўлены знакамітым Альбрэхтам Дзюрэрам. А ў часы Сіроткі адлюстраванне насарога ў кніжную гравюру перавёў Кандэль. Уласна, цікавасць да незвычайных рэчаў, выдатных людзей, да навукі і пазнання свету зблізіла беларускага князя і нямецкага мастака, творцу і мадэль яго партрэта.




Ілюстрацыя з выдання «Пэрэгрынацыя … у Святую Зямлю» М.К. Радзівіла Сіроткі. Выданне 1601 г.

АГЛЯД МУЗЫЧНЫХ НАВІНАК

# З РЭПАМ ПА РОК-ХВАЛЯХ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Добра, што на айчыннай рок-сцэне плённа працуе такі салідны і рознабаковы выканаўца, як Аляксандр Памідораў. То ён вылучаецца як рэпер, які можа стварыць сапраўдны «Цуд на Каляды», то ён чытальнік і інтэрпрэтатар вершаваных радкоў Францішка Багушэвіча («Немец». Разам з Лявонам Вольскім), то ён фестывальны вядучы, то рэкламны піяршчык.**

Але перад усім, Аляксандр Памідораў — выдатны рок-музыкант і вакаліст. Пра гэта сведчыць удзел яго кампазіцый у шматлікіх музычных праектах: ад «Незалежных» да юбілейных «20 гадоў — 20 гітоў». І паўсюль яго драйвавыя кампазіцыі, якія наўпрост вядуць своеасаблівы дыялог са слухачом (успомнім яго актуальную рэп-чытанку «Быць беларусам»), не пакідаць слухачоў абыякавымі. На жаль, у музыканта не так шмат сольных дыскаў. Успамінаецца толькі яго рускамоўны дэбютны дыск пад назвай «П'яныя госці» (1997) і прагрэсіўны для ўсёй тагачаснай беларускай рок-музыкі альбом «Сьвята пакрадзенае» (2002) Цяпер фірмай «Вігма» выдадзены чарговы альбом Аляксандра Памідорава і яго гурта «POMIDOR/OFF» пад загадкавай назвай «ПАТАС/ ПОПС /ПРАПАГАНДА».

Трэба адзначыць, што аранжыроўкі выканаўцы і яго паплечнікаў, хоць і ствараліся для «цяжкага» гурта, падаюцца свежымі і разнастайнымі. Тут на дыску ўвагу слухачоў прыцягнуць драйвавыя, насычаныя сацыяльнымі тэмамі і сімваламі кампазіцыі «Ну і што», «Адзін», «Кола», гратэскныя «Шабаны», мараканічная балада «Італьяна», у якой побач родний мовай выкарыстоўваюцца італьянскія словы. Гэтыя творы аранжыраваныя з выкарыстаннем элементаў хард-кор-панка, хард-рока і рэпа. Стылістычная куламеса пасуе творчай асобе Памідорава і гурту «POMIDOR/OFF», які ўжо шмат гадоў эксперыментуюць з экстрэмальным гукам. Адначу, што ў гэтых стылістычных рамках сустракаюцца і арыгінальныя рэчы, кшталту «Дыска», у якіх выкарыстаны рэперскае чытанне тэксту, дыска-рытм, усходнія меладычныя хады.

Нельга не адзначыць, што лірыка Аляксандра насычана алюзіямі на беларускую рэчаіснасць, у яго радках вельмі прафесіянальна выкарыстаны разнастайныя вершаваныя прыёмы, а тэксты напоўнены сацыяльным кантрапунктам, гратэскам і гумарам. Тое набліжае талент Памідорава да такіх грандаў айчыннай рок-паэзіі, як Лявон Вольскі. Бадай адной з самых хвалюючых кампазіцый на прадстаўленым дыску трэба назваць песню «Дым», створаную пад уплывам важных і драматычных падзей у грамадскім жыцці краіны:

*Гэта тата, гэта мама*
*Гэта «Мроя», гэта «Крама»*
*Гэта срэбра, золата ці бронза,*
*Хочаш лётаць, можаш толькі поўзаць...*

Але і на такую сітуацыю Памідораў рады адгукнуцца сатырычным радком («Радыё 20.12.2010»):

*Ніхто нікога не цягне за каўнер*
*Пануе ціша, зоры на небе светлафораў вышэй.*
*Як людзі кажуць: лахі пад пахі,*
*Закусвае снегам*
*Снайпер на даху.*

Безумоўна, новы і доўгачаканы альбом рокера і рэпера Аляксандра Памідорава і гурта «POMIDOR/OFF» папоўніць калекцыі прыхільнікаў айчыннай рок-музыкі не толькі таму, што гэта альбом экстрэмальны па музыцы, а і таму, што стварылі яго людзі шчырыя, неабыякавыя і музычна адукаваныя. У гэтым бачыцца цымус новага альбома Памідорава «ПАТАС/ ПОПС/ ПРАПАГАНДА».

## «71» — лічба шчаслівая!

Пасля таго, як беларуская рэпсцэна спазнала выбуховы ўзлёт і такі ж імклівы анабіёз (як сцвярджаюць музыканты — часовы) праекта «Чырвоным па белым», слухачы задаліся пытаннем: хто ж сёння можа звацца лідарам гэтага напрамку незалежнай беларускай музычнай культуры? Былі розныя варыянты адказаў на гэта пытанне, але патрэбны былі і важкія аргументы ад прэтэндэнтаў. Такім аргументам ад суполкі маладых чытальнікаў рэпа з Вілейкі, якія назвалі свой праект «PANANIEBA», стаў дэбютны альбом з мележаўскімі алюзіямі «Людзі на балоце». Гэтая кружэлка ажывіла цікаўнасць маладых беларусаў да рыфмаў і бітаў у інтэрпрэтацыі айчынных выканаўцаў.

Узрушаныя поспехам іх першага альбому ўдзельнікі «PANANIEBA» — рэперы SP KAVA, S'VIEDAK — вырашылі працягнуць свае пошукі, а заадно падмацаваць свае лідзіруючыя амбіцыі. Такім працягам стаў чарговы альбом «PANANIEBA» пад назвай «71». Нягледзячы на лічбы, шыфр назвы новай працы гурта, можна здагадацца, што гэта тэлефонны код роднага горада рэпераў Вілейкі, якія гэткім чынам аддалі даніну павагі і рэспекту малой радзіме рэпераў.

Як можна прадугледзіць з дыялектыкі развіцця падзей, новы альбом, у немалой ступені, з'яўляцца працягам папярэдняй праграмы выканаўцаў. Але ёсць тут і новае: больш разнастайныя біты, як у кампазіцыі «Шукаю выйсце», якую вілейчукі выканалі разам са сталічным рэперам Zeman'ам, «Становімся мацней», «На віражах». Але не толькі гукавое суправаджэнне прыцягне ўвагу слухачоў дыска. Тут пададуцца вельмі дарэчнымі і лірычныя вобразы, што ў запасе SP KAVA, S'VIEDAK. Яны тычацца жыцця іх маладых суграмадзян, лёсу роднай Беларусі і іх малой радзімы.

Сустракаюцца на дыску і цікавыя эксперыменты. Перш за ўсё адзначым кампазіцыю «Трываю», якая створана на словы Аляксандра Кулінковіча («Neuro Dubel»). Атрымаўся драйвавы рэп пад рок-рыфы гітарыста Тараса Апарыка (гурт «Планета ўсіх»). А вось спецыфічную па тэматыцы і гукавому аздабленню кампазіцыю «PANANIEBA» пад назвай «Буйкі» ўпрыгожыла сваім чыстым дзявочым голасам пакуль невядомая вакалістка Natalika, якая на другім альбоме змяніла харызматычную і пазнавальную спявачку Караліну Хэмеенез з Маямі.

Традыцыйная частка праграмы новага альбома можа быць прадстаўлена кампазіцыяй «Мой раён», у якой размова вядзецца пра складаныя «раённыя» ўмовы жыцця такой новай субкультуры, як беларускія рэперы, і кола іх прыхільнікаў.

Музыкантам «PANANIEBA» здаецца, што сваёй кружэлкай яны агучылі амаль усе хвалюючыя іх праблемы, і таму ў іх узнікае жаданне развітацца на адпаведнай ноце: кампазіцыя «Гэта не ўсё» быццам бы абяцае новыя сінглы, трэкі, кружэлкі вядомай рэп-суполкі. Прынамсі, музыканты заклікаюць чакаць новых, сацыяльна завостаных вобразаў, небанальных лірычных тэм і свежых паэтычных рыфмаў.

## Фолк жыве, калі яго спяваюць дзеці!

На айчыннай фолк-сцэне ўжо шмат гадоў існуе ўнікальны калектыў — дзіцячы фальклор-тэатр «Госьціца», якім кіруе таленавіты педагог і энтузіяст народных спеваў Ларыса Сімаковіч. Вядомасць гурту прынеслі шматлікія філарманічныя і камерныя канцэрты, выступленні на радыё і па тэлебачанню, гастролі за мяжой. Нямала для стварэння іміджу калектыву спрычыніўся і першы дыск гурта, які вядомы пад назвай «Пералёт-трава» (2004). І вось удзельнікі «Госьціцы» радуюць сваіх прыхільнікаў чарговай фанаграфічнай навінкай — дыскам «...І куды што падзелася?», на якім запісаны архіўныя творы калектыву, якія рабіліся на працягу 1985–2006 гадоў.

Гістарычная накіраванасць дыска выявілася ў тым, што на ім запісаны дзіцячыя спевы многіх вядомых сёння артыстаў, выканаўцаў фальклору. Такіх, як Жэня Любец і Валерыя Валадзько, Ян Жанчак, якія тады шчыра па-дзіцячаму спявалі фальклорныя творы «Ездзіла Каляда з канца ў канец», «Як пайду з кута на лаўках» і шмат іншых. Таксама на дыску сустракаюцца імёны дзетак, якіх вядомыя бацькі аддалі дзеля музычнага выхавання ў тэатр «Госьціца», даверылі лёс іх талента спадарыні Ларысе Сімаковіч. На дыску спяваюць Ілона Афанасьева, Алесь Жура, Радуся Вячорка, а таксама Дар'я Турбіна, Аксіння Лапцёнак, Наста Саўчанка, Міхась Лыцін, Жана Аксёнчык...

35 трэкаў утрымліваюць цэлую музычную энцыклапедыю, якую задумалі і ажыццявілі кіраўніца і ўдзельнікі фальклор-тэатра «Госьціца». Бо пасля шчадровак, тут прадстаўлена песеннае гуканне вясны, юраўскія і купальскія песні, бытавыя і лірычныя спевы. Усе гэтыя музычныя шэдэўры, якія складаюць беларускую народную песенную спадчыну, з любоўю аранжыраваны для дзіцячых галасоў, іх меладычная канва поўнасцю заглыблена і адпавядае нацыянальнаму музычнаму генатыпу. Таму і слухаецца дыск з захапленнем і ўспрымаецца арганічна ў выкананні дзяцей.

«Дзіцячы альбом», дыскі «З Новым годам» Сідаровіча і Матафонавай, «Цацачная крама» Вайцюшкевіча, а цяпер і альбом «Госьціцы» «...І куды што падзелася?» сталі сапраўдным метадычным дапаможнікам для кіраўнікоў фальклорных гурткоў па ўсёй краіне. Бо вопыт творчай працы з дзіцячымі калектывамі прыходзіць толькі праз гады творчых эксперыментаў, знаходак і згубаў. Кіраўніца «Госьціцы» Ларыса Сімаковіч мае такі досвед і шчыра дзеліцца ім з іншымі педагогамі, зацікаўленымі ў захаванні і развіцці нацыянальнага фальклору.










Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП "Плутас-Маркет". г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 295

Падпісана да друку 30.03.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.